Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

Б. С. С. Р.





# Рэвалюцыйная Законнасьць

ШТОМЕСЯЧНАЯ
ПРАЎНАЯ ЧАСОПІСЬ

№ 3-4

1928 г.

Выданьне Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР
г. Менск.

# З Ь М Е С Т.

Стар.

— **Пад Ленінскім Сьцягам** . . . . . . . . 1—3
О. КОНАКОЦІН—Аб гісторыі савецкай юстыцыі БССР . . . . 3—6
Б. ВАТАЦЫ—Да пытаньня аб зьмесьце і сыстэме будучага Грамадзянскага Кодэксу . . . . . . . . . . 6—11
Б. ІЛЬЯШЭВІЧ—Маемасная адказнасьць дзяржавы . . . 11—14
МІХАЙЛАЎ—Прынцыпы і жыцьцё . . . . . . . 14—16
В. ГІНЦБУРГ—Аб граніцах праў касацыйнае інстанцыі зьмяняць прыгаворы . . . . . . . . . . . 16—18
ЭДНАРАЛ—Аб спрашчэньні работы судова-сьледчага апарату . . 18—24
А. КІПАРЫСАЎ—Вынікі вывучэньня і праверкі работы рэарганізаванага апарату Наркам'юсту БССР . . . . . . 24—26
Д. ГАРЦМАН—Аб спрашчэньні зямельнага суду і набліжэньне яго да насельніцтва . . . . . . . . . . 26—30
А. ВІШНЕЎСКІ—Зямельны Суд . . . . . . . . 30—33
Е. В.—Праца раённых зямельных камісій у 1927 г. . . . . 33—37
В. ПРУСАЎ—Аб аскараджваньні пастаноў зямельных камісій па пытаньнях растлумачэньня рашэньняў . . . . . . . 37—38
А. К.—Вынікі працы Цэнтральнай і Акруговых Камісій па дапасаваньні амністыі да 10-й гадавіны Кастрычнікавае Рэвалюцыі . . . 38—40
С. СЛУПСКІ—Разьвіцьцё і склад злачынства ў БССР . . . 40—44

## Старонка практыка.

М. РЭЙШАХ-РЫТ—Развод у вёсцы . . . . . . . 44—46
ЯРАШЭВІЧ—Аб спрашчэньні Грамадзянскага Працэсу . . . 46—47
Б. В.—Пытаньне, якое неабходна тэрмінова вырашыць . . . 47—48
УЛАДАЎСКІ—Юрыдычная дапамога па Віцебшчыне . . . 48—51
М. БЕЛЯНЕЦ—Аб парадку назначэньня да разгляду спраў у касац. інстанцыях Акруговых Судоў . . . . . . . . . 51—52

## Растлумачэньне Пракуратуры Рэспублікі.

— Па пытаньні, хто павінен накладаць адміністрацыйныя пакараньні за парушэньні абавязковых пастаноў, выданых Горсаветамі . . . . 52
— Аб месцы накладаньня пакараньня за лесапарубкі . . . 52—53
— **З судовай Практыкі Асобнае Калегіі Вышэйшага Кантролю** па зямельных справах . . . . . . . . . . . 53—54
— **Агляд важнейшых актаў Савецкага Законадаўства,** апублікаваных за час ад 1-га кастрычніка да 1-га сьнежня 1927 г. . . . . . . 54—56

## Х Р О Н І К А.

— У Народным Камісарыяце Юстыцыі . . . . . . 56—60
— Аб назначэньні, перамяшчэньні і звальненьні вучастковых і стар. сьледчых . . . . . . . . . . . 60
— У бюро юрысконсультаў ВСНГ БССР . . . . . . 60—61
— У габінэце па вывучэньні злачынства і асобы злачынца пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце . . . . . . . . 61—63
— Адказы на запытаньні . . . . . . . . . 63
— Паштовая скрынка . . . . . . . . . 63
— **Афіцыйная частка** . . . . . . . . . I—XIV

Галоўлітбел № 926. З. № 206. Тыраж № 1500 экз. Друкарня Менспраўдому.

*Пралятары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# Рэвалюцыйная Законнасьць

№ 3-4 (13-14). | 1928 г. | 2-гі год выданьня.

> Уходя от нас т. Ленин завещал нам держать высоко и хранить в чистоте великое звание члена партии.—Клянемся тебе, т. Ленин, что мы с честью выполним эту твою заповедь.
>
> Уходя от нас т. Ленин завещал нам хранить единство нашей партии, как зеницу ока.—Клянемся тебе, т. Ленин, что мы с честью выполним эту твою заповедь.
>
> Уходя от нас т. Ленин завещал нам хранить и укреплять диктатуру пролетариата.—Клянемся тебе, т. Ленин, что мы не пощадим своих сил для того, чтобы с честью выполнить эту твою заповедь.
>
> Уходя от нас т. Ленин завещал нам укреплять всеми силами союз рабочих и крестьян.—Клянемся тебе, т. Ленин, что мы с честью выполним и эту твою заповедь.
>
> Уходя от нас т. Ленин завещал нам укреплять и расширять союз республик.—Клянемся тебе, т. Ленин, что мы с честью выполним и эту твою заповедь.
>
> Уходя от нас т. Ленин завещал нам верность принципам Коммунистического Интернационала.—Клянемся тебе, т. Ленин, что мы не пощадим своей жизни для того, чтобы укреплять и расширять союз трудящихся всего мира—Коммунистический Интернационал.
>
> (Из речи т. Сталина на II С'езде Советов СССР).

## ПАД ЛЕНІНСКІМ СЬЦЯГАМ.

Прайшло чатыры гады, як авангард рабочай клясы—Камуністычная Партыя, пралятарыят і працоўныя Савецкага Саюзу страцілі найвялікшага настаўніка і правадыра Сацыялістычнай рэвалюцыі.

Чатыры гады, як сярод нас ня стала Леніна—правадыра і друга, заклікаўшага да перамогі і кіраваўшага перамогай у дні кастрычніка, падымаўшага натхненьне да барацьбы на фронтах грамадзянскай вайны, кіраваўшага ўпраўленьнем дзяржавы аграмаднай краіны і будаўніцтвам сацыялізму.

Разам з намі гэту цяжкую страту панесьлі пралетары і прыгнечаныя ўсяго сьвету, для каторых ленінскае вучэньне зьяўляецца вернай зброяй, а імя Леніна—сымвалам перамогі ў надыходзячых бойках з капіталам.

За гады нашага шляху бяз Леніна мы дасягнулі многага ў ажыцьцяўленьні яго заветаў: стаў непазнаваем Саюз Савецкіх Рэспублік, зьмяніліся міжнародныя абставіны,—рабочая кляса ўсяго

сьвету рыхтуецца да новых рашучых боек з капіталам, узмацнеў Камуністычны Інтэрнацыянал—Ленінскі штаб сусьветнай рэвалюцыі.

Кожны год, у дні страты правадыра, мы правяраем пройдзены шлях бяз Леніна і кожны год нам гаворыць, што мы на верным шляху, мы маем ўсё новыя і новыя дасягненьні па ажыцьцяўленьні пляну будаўніцтва сацыялізму, намечанага Камуністычнай Партыяй пад неспасрэдным кіраўніцтвам Леніна.

„Уходя от нас т. Ленин завещал нам хранить и укреплять диктатуру пролетариата“ і мы згонарам выканаем гэту яго запаведзь—з кожным годам мы ўсё больш і больш замацоўваем фундамэнт дыктатуры пралетарыяту—нашу сацыялістычную гаспадарку. Ужо ёсьць усе даныя, пры наяўнасьці якіх сацыялістычны сэктар гаспадаркі краіны выпіхае прыватны зварот. Будуюцца магутныя электрычныя станцыі ў ажыцьцяўленьні Ленінскага пляну электрафікацыі краіны. Мацнеюць камандныя высоты гаспадаркі—буйная прамысловасьць,—будуюцца новыя фабрыкі і заводы і пераабсталёўваюцца старыя. Сыстэма гаспадаркі Савецкага Саюзу прызнана ўсім сьветам, як Сацыялістычная сыстэма.

„Уходя от нас т. Ленин завещал нам укреплять всеми силами союз рабочих и крестьян“ і гэты Ленінскі наказ упэўнена выконваецца. Кіраўнічая роля прамысловасьці і іншых камандных высот пралетарыяту ў адносінах да вёскі за апошнія гады значна ўзмацнілася. Мацнеюць і разростваюцца сацыялістычныя пачаткі ў сельска-гаспадарчай вытварчасьці: каапэрацыя, калектыўныя гаспадаркі, савецкія гаспадаркі і іншыя каапэрацыйныя працоўныя аб'яднаньні сялян. У бягучы пэрыяд XV зьезд партыі асноўнай задачай работы ў вёсцы паставіў пераатварэньне дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя каляктыўныя гаспадаркі. Партыя абапіраючыся на бядняцка-серадняцкія масы, разьвівае наступленьне на кулацтва вёскі. Няспраўдзіліся прароцтвы малавераў аб „няўхільнасьці канфлікту між пралетарыятам і сялянствам пасьля замацаваньня ўлады“, сялянства пад кіраўніцтвам партыі ідзе за рабочай клясай, разам з рабочай клясай. І „дзесяць пятнаццаць год правільных узаемаадносін з сялянствам дадуць нам перамогу ў сусьветным маштабе“.

„Уходя от нас т. Ленин завещал нам укреплять и расширять союз республик“. За гэтыя гады непазнаваемым стаў Саюз Савецкіх рэспублік, ён вырас у магутную дзяржаву дыктатуры пралетарыяту. На падставе гаспадарчага разьвіцьця Саюзу праводзіцца аграмадная праца культурнай рэвалюцыі. Уводзіцца ўсёагульнае абавязковае абучэньне. Ажыцьцяўляецца вялікая задача па пад'ёму культурнасьці шырокіх мас. Мы вучымся культурна апрацоўваць зямлю, культурна працаваць на фабрыцы і заводзе. На падставе індустрыялізацыі краіны і гаспадарчага разьвіцьця саюзных рэспублік, аб'яднаных між сабою свабодных дагаворам, вырастае пралетарская па зьместу культура, праводзімая ў нацыянальных формах тэй або іншай саюзнай рэспублікай. Адстаўшыя ў культурных адносінах нацыянальнасьці падцягваюцца ў культурным узроўне. Мацнеюць савецкія рэспублікі, мацнее і Саюз Рэспублік.

„Уходя от нас т. Ленин завещал нам держать высоко и хранить в чистоте великое звание члена партии... Хранить единство нашей партии, как зеницу ока“. Партыя бальшавікоў Ленінцаў цьверда хавае і гэту запаведзь,—яна нешкадуючы сваіх сіл выконвае вялікую справу--кіруе будаўніцтвам, нягледзячы на ўсе цяжкасьці, якія сустракацца на шляху гэтага будаўніцтва. Годнасьць члена партыі, годнасьць барацьбіта будаўніка і кіраўніка, годнасьць

Ленінца намі „хаваецца ў чыстаце“. Але некатарыя ня вытрымалі цяжкасьцяй, дрыгнулі і зьбеглі ад партыі, выйшлі з авангарду рабочае клясы. На гэты ўход пралетарыят адказвае лепшым, больш моцным аб‘яднаньнем навокал партыі Леніна. Лепшыя пралетары ідуць у партыю, аддаюць сябе выкананьню заветаў Леніна. *Пасьля XV зьезду Камуністычная партыя моцная і адзіная як ніколі.*

„Уходя от нас т. Ленин завещал нам верность прынципам Коммунистического интернационала“. Навокал Камінтэрна ўжо аб‘яднаны шматміліённыя масы, яны рыхтуюцца нанесьці капіталу рашучы удар. Над гнілым балотам капіталістычнай стабілізацыі бліснула маланка паўстаньня (Кітай, Англія, Аўстрыя) прадвяшчальнік надыходзячай Рэвалюцыйнай буры, якая зьмяце капіталізм з зямной кулі. Растуць сымпатыі рабочай клясы і прыгнечаных усяго сьвету к Саюзу Савецкіх рэспулік. Праз галовы правадыроў—прадацеляй рабочыя заходу працягваюць руку перемогшым пралетарам СССР. Мы голасна паўтараем словы т. Сталіна.

„Клянемся тебе т. Ленин, что мы не пащадим своей жизни для того, чтобы укрепить и расширить Союз трудящихся всего мира— Коммунистический Интернационал“.

**Па Ленінскаму шляху мы ідзем да поўнай перамогі сацыялізму!**

**Моцна трымаюць сьцяг Леніна рабочая кляса СССР і яго перадавы атрад— Усесаюзная Камуністычная Партыя бальшавікоў.!**

**Вызваленьне сусьветнага пралетарыяту магчыма толькі пад адным сьцягам: пад сьцягам Леніна і Камуністычнага Інтэрнацыяналу.!**

## АБ ГІСТОРЫІ САВЕЦКАЙ ЮСТЫЦЫІ БССР.

Праз дзесяць месяцаў спаўняецца 10 год існаваньня Беларусі, як Савецкай Рэспублікі. 30-га сьнежня 1918 г. партыйная канфэрэнцыя Паўночна-Заходняе вобласьці, якая адбывалася ў г. Смаленску аб‘вясьціўшы сябе Першым зьездам Камуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі, пастанавіла абвясьціць Беларусь Савецкай Рэспублікай.

Ў пастанове гаварылася: „мы павінны разбудзіць дрэмлючыя сілы працоўных масаў Заходняй Камуны. Прышоў час, калі Заходняя вобласьць павінна сказаць: наша шчасьце ў нашых руках і самавызначэньне працоўных залежыць ад саміх працоўных. *Заходняя Камуна павінна абвясьціць сябе вольнаю Беларускаю Савецкаю Рэспублікаю*“.

Першага студзеня 1919 году Беларусь абвяшчаецца Савецкаю Рэспублікаю. Першага студзеня 1929 г. Беларусь будзе сьвяткаваць дзесяцігодзе свайго існаваньня, як Савецкай Рэспублікі, як дзяржавы дыктатуры пралітарыяту і сацыялістычнай сыстэмы пабудовы грамады.

За дзесяць гадоў працоўныя Савецкае Беларусі, пад неаслабным кіраўніцтвам Ленінскае Камуністычнае партыі, упісалі шмат слаўных старонак у гісторыю першага ў сьвеце Савецкага Саюзу Рэспублік, у гісторыю Саветаў,—дыктатуры пралетарыяту і ў гісторыі пабудовы сацыялізму. У гэтай гісторыі ёсьць запраўды гэраічныя старонкі барадзьбы з белагвардзейскімі, нямецкімі і панскімі

акупантамі;—барадзьбы з бандытызмам і разрухай; у ёй шмат старонак пабедных гымнаў і паступовага будаўніцтва сацыялізму.

Тварцамі гэтае гісторыі, актыўнымі дзеячамі яе зьяўляюцца ўсе працоўныя БССР і іх правадыр—КП(б)Б, яны яе стварылі, яны вучыліся ў гэтай гісторыі.

На рубяжы першага дзесяцігодзьдзя пройдзенага краінай нам неабходна падлічыць тое, што мы зрабілі, чаго мы дасягнулі, дзе рабілі памылкі і дзе мелі посьпехі. Мы павінны прааналізаваць дзесяцігодні шлях барадзьбы за заваёвы Кастрычніка, шлях пабудовы сацыялізму.

Пралетарыят стварыў сваю дзяржаву, стварыў новую сыстэму гаспадаркі, стварыў „узброеныя атрады“—вядомую ўсяму сьвету Чырвоную Армію і „прымусовыя установы“—ворганы дыктатуры усходняе клясы. Пастроіўшыся у паасобныя атрады працоўныя дзейнічалі па адзінаму пляну, накіраванаму да агуланай мэты.

Кожны паасобны атрад павінен праглядзець свой шлях, падлічыць дасягненьні і недахопы і аддаць рапарт Савецкай Краіне ў першае дзесяцігодзьдзе яе існаваньня.

Некалькі тыдняў назад краіна прыняла рапарт ад двох вартаўнікоў —„ВЧК—ГПУ“ і Рабоча-сялянскай Міліцыі.

Савецкая юстыцыя БССР разам з другімі ворганамі будзе рабіць справаздачу працоўным праз дзесяць месяцаў—ў дзень дзесяцігодзьдзя БССР.

У працягу дзевяці год Савецкая Юстыцыя была надзейным, цьвердым атрадам, выконваўшым цяжкую працу. У гісторыю БССР яна ўпісала ня мала яскравых старонак, аб якіх нам неабходна памятаць. Пакольки работа органаў юстыцыі праводзілася і праводзіцца шэрагам зьвеньняў пачынаючы ад народнага суду і народнага сьледчага і канчаючы Вярхоўным Судом і Пракуратурай Рэспублікі, пастолькі кожнае такое зьвяно павінна праглядзець пройдзены шлях і даць найбольш яскравыя моманты з свае працы. Падагуляваць працу Юстыцыі за дзесяцігодняе існаваньне Савецкае Беларусі магчыма толькі пры тых умовах, калі ў гэтым прыме ўдзел маса працаўнікоў Юстыцыі, тая маса, якая на сваіх плячох нясла ўсю цяжкасьць працы ва ўсе пэрыяды гісторыі.

Мы далёка ад тае думкі, што нам зараз патрэбна складаць гісторыю Юстыцыі і запісваць яе ў томы кніг, гэта справа будучыны, але-ж нам патрэбна абагуліць шэраг момантаў, дзеля таго каб паўтараць добрае і ўхіляцца дапушчаных у мінулым промахаў і памылак.

Усю працу па зьбіраньні гістарычнага матарыялу неабходна праводзіць у парадку партыйнае і савецкае грамадзкасьці, і ні ў якім разе не звадзіць яе ў рамкі таго ці іншага ведамства. Па нашай думцы зьбіраньне матар'ялаў па гісторыі Савецкае Юстыцыі павінна заняцца першая ў Беларусі юрыдычная часопіс: „Рэвалюцыйная Законнасьць“. Навокал гэтае часопісі павінна працякаць падрыхтоўка да справаздачы юстыцыі працоўным да дню дзесяцігодзьдзя БССР.

Для нас ня супярэчна тое палажэньне, што гісторыя Савецкае Юстыцыі зьяўляецца ня чым іншым, як часткаю—старонкамі ў гісторыі Савецкае Беларусі. Тыя хто ўпісвалі радкі ў гэтыя старонкі справай, працаю, павінны аднавіць пройдзенае, успомніцв як Трыбунал, Суд і Пракуратура дапамаглі агульнай сыстэме Саветаў дабіваць клясавага ворага, ставіць на месца прыватніка і дысціплінаваць ўсю грамаду ў інтарэсах дыктатуры пралятарыяту і будаўніцтва.

Уся праца Юстыцыі „як аднаго з важных прыдаткаў і прыму-

совых устаноў“—дыктатуры і як „прылады выхаваньня да дысцыплінны“ працякае ў строгім падпарадкаваньні этапам барадзьбы за заваёвы Кастрычніка і этапам будаўніцтва і толькі ў адпаведнасьці з гэтымі атапамі мы можам разьбіраць і абагульваць нашу працу за дзесяцігодзьдзе.

У ўмовах БССР Савецкая Юстыцыя перажыла тры пэрыяды ў наступны час увайшла ў новы пэрыяд, пэрыяд перабудовы ў сувязі з паступовым будаўніцтвам сацыялізму.

Кароткую характарыстыку першых трох пэрыядаў мы сумесна з т. Зыбко далі ў артыкуле „Трэба перабудаваць шэрагі юстыцыі“ (Савецкая Беларусь № 285 за 1927 г); паколькі іншай характарыстыкі, па нашай думцы, ня можа быць, мы яе тут зьмяшчаем поўнасьцю.

„Першы пэрыяд—гады ваеннай барадзьбы за захаваньне заваёў Кастрычніка, пэрыяд ваеннага камунізму для юстыцыі вядомы як пэрыяд Трыбуналаў. Кастрычнік зьнішчыў старыя грамадзкія адносіны, стары апарат быў зьнішчан да шчэнту, законы царскае Расіі разам з атрыбутамі царскага суду былі спалены. Пад сыгнальныя гукі барадзьбы вырас рэвалюцыйны трыбунал, для расправы з ворагамі працоўных. Адзіным законам таго часу, вядомым кожнаму судзьдзі і трыбуналісту была рэвалюцыйная і сацыялістычная прасьвядомасьць. Рэвалюцыйны трыбунал быў галоўнейшай формай суду; народны-ж суд таго часу рабіў першыя крокі па рэгуляваньню грамадзкіх адносін і паколькі важнейшай задачай моманту зьяўлялася разьбіць ворага, пастолькі голас суровых прысудаў рэвалюцыйных трыбуналаў заглушаў голас народнага суду. Гэта пэрыяд трыбунальскае юстыцыі.

Пераход да новай эканамічнай палітыкі паставіў новыя задачы перад савецкай юстыцыяй. Мінула вострасьць непасрэднай пагрозы з боку замежных і ўнутраных клясавых ворагаў, але гэта барадзьба набыла іншыя формы. Ад ваеннага прыдушэньня ворага мы пераходзім да кіраўніцтва дзяржаваю „і па меры таго, як асноўной задачай улады робіцца ні ваенныя прыдушэньні, а кіраўніцтва тыповым выяўленьнем прыдушэньня і прымусу робіцца суд, (а не расстрэл на месцы)“ (Ленін). Пэрыяд надзвычайных мер барадзьбы мінуў, ЧК і рэвалюцыйны трыбунал перадалі баявыя пасты ДПУ і Суду. У палітычных адносінах суд павінен быў далей праводзіць справу рэвалюцыйнага трыбуналу, дабіваць клясавага ворага і прывучаць грамаду да пралятарскай дысцыпліны; разам з тым суд быў заклікан да гаспадарчага будаўніцтва як адзін з рэгулятараў прыватна-гаспадарчых адносін. Пасьпешнае выкананьне гэтай апошняй задачы ставілася ў залежнасьць ад стварэньня норм грамадзкіх адносін—савецкага права. Гэты пэрыяд у гісторыі юстыцыі можна назваць пэрыядам судовай юстыцыі. У той-жа час у шэрагі савецкай юстыцыі ўстаюць зноў арганізованыя пракуратура і абарона.

Трэці пэрыяд абумоўліваўся выключна асаблівасьцямі разьвіцьця БССР, як саюзнай рэспублікі, які выявіўся ў павялічэньні тэрыторыі краіны, эканамічным і адміністрацыйным падзяленьні рэспублік. У 1925 годзе па ініцыатыве ЦКК-РСІ праводзіцца новая рэарганізацыя органаў юстыцыі. У зьвязку з агульнымі задачамі, якія ў той час стаялі перад юстыцыяй, было неабходна ўнесьці зьмены ў структуру апарату, наблізіўшы суд да насельніцтва, пакідаючы за цэнтрам толькі абагульваючую і дырэктыўную працу.

Выходзячы з задач крымінальнага суду, як дадатка да нашай сыстэмы кіраўніцтва і ўскладаючы задачы рэгуляваньня прыватнагаспадарчых адносін на цывільны суд,—належыць пабудаваць суд

у адпаведнасьці з гаспадарча -адміністрацыйным падзяленьнем БССР. (З пастановы ЦКК-РСІ).

Чацьвёрты пэрыяд абумоўліваецца шпаркім ростам сацыялістычнага сэктару гаспадаркі краіны. Пашыраецца і мацнее сацыялістычная прамысловасьць, у сельскай-гаспадарцы ўзят больш шпаркі тэмп на абагульненьне працы. Плянавы паступовы рух сацыялізму адбываецца на нашых вачох. Пашырэньне сацыялістычнага сэктара гаспадаркі няухільна цягне за сабою зьмену грамадзкіх адносін,—формы грамадзкіх адносін становяцца больш сацыялістычнымі. У прамой залежнасці ад зьмены грамадзкіх адносін знаходзіцца і зьмена норм грамадзкіх адносін—савецкага права. Мы працуем у такі час, калі жыцьцё проста ставіць пытаньні аб зьмене нашага права, ужо вынесена прынцыповая пастанова ЦКУсеКП(б) аб зьмене асноў зямельнага права, распрацоўваецца праэкт КПК у якім пакідаюцца толькі грунтоўныя кіруючыя артыкулы, зьменен КК, ставіцца пытаньне аб новай зьмене ГК і ГПК і. г. д.

Побач з гэтым узьнята пытаньне аб перабудове шэрагу юстыцыі з прыданьнем усяму апарату больш дакладнай формы. У ва ўсіх саюзных рэспубліках праводзіцца абмеркаваньне і дыскусія па пытаньнях юстыцыі.—Вось кароткая характарыстыка новага пэрыяду гісторыі юстыцыі.

Разьмежаваньне гісторыі савецкае юстыцыі на пералічаныя чатыры пэрыяды дае магчымасьць больш правільнага падагульваньня—прагляду пройдзенага шляху, не аддзяляючы гісторыю юстыцыі ад гісторыі Саветаў.

Мы ўпэўнены ў тым, што працаўнікі органаў юстыцыі і таварышы, працаваўшыя раней ў гэтых органах, адгукнуцца на нашу прапанову і мы зможам аб'яднанымі сіламі падагуліць пройдзены гістарычны шлях і зрабіць неабходныя вывады па бальшавіцкі па Ленінскі.

**О. Конакоцін.**

---

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ЗЬМЕСЬЦЕ І СЫСТЭМЕ БУДУЧАГА ГРАМАДЗЯНСКАГА КОДЭКСУ.

У № 18 „Вестника Советской Юстиции“ за бягучы год за подпісам старшыні камісіі НКЮ УССР па перагляде Грамадзянскага Кодэксу Ю. Мазурэнка надрукованы: а) агульная схэма выкладаньня проэктуемага „Кодэксу гаспадарчых законаў УССР“ і б) тэзісы па пытаньні аб задачах перагляду Грамадзянскага Кодэксу УССР і аб мяркуемым аб‘емё, сыстэме і спосабах выкладаньня проэктуемага Кодэксу гаспадарчых законаў УССР.

Паказаная вышэй схэма і тэзісы зьяўляюцца вынікам прац асобнай камісіі па перагляду Грамадзянскага Кодэксу УССР

Наколькі можна мяркаваць па паказаных крыніцах Камісія ўжо затрымала сваю ўвагу на ўсіх асноўных пытаньнях пабудаваньня Кодэксу, ясна і дакладна прадумала сыстэму новага Кодэксу і яго зьмест.

На падставе толькі кароткіх тэзісаў і схэмы можна разважаць, які вялікі матар'ял выкарыстан камісіяй, каторая ня ўхілілася ад вырашэньня самых спрэчных пытаньняў. Застаецца толькі пажадаць, каб камісія не абмежавалася апублікаваньнем адных толькі тэзісаў і схэмы—апублікаваньне вынікаў камісіі дало-б багаты матар‘ял, каторы можна выкарыстаць далёка за межамі УССР, асабліва гэта

важна зараз, у пэрыяд часу распрацоўкі асноў грамадзянскага
права.

Ня ставячы сваёй задачай поўнага вычэрпываючага разбору
„схэмы“ і „тэзісаў“, гэты артыкул мае на ўвазе падзяліцца толькі
тымі агульнымі меркаваньнямі і заўвагамі, каторыя навеяны ў пра-
цэсе практычнай работы.

1. Тэзісы і схэма ставяць рубам пытаньне аб зьмесьце новага
Грамадзянскага кодэксу, пры чым прыходзяць да вываду, што кодэкс
павінен „ахопліваць сваімі нормамі ўвесь гаспадарчы зварот краіны“,
у сувязі з чым і назва гэтага кодэксу павінна быць гэтакая: „кодэкс
гаспадарчых законаў УССР“.

Каб уразумець сабе пытаньне аб зьмесьце будачага кодэксу, на-
лежыць зьвярнуцца да разгляду першага і другога з асноўных па-
лажэньняў, як яны выкладзены ў схэме. Чытаючы гэтыя палежэньні
аб задачах грамадзянскага законадаўства УССР і аб умовых выка-
наньня гэтых задач, мімавольна задаешся пытаньнем: няўжож буду-
чы кодэкс будзе устаноўліваць адзіны дзяржаўны плян вытворчась-
ці? Бяспрэчна, не—ніякім кодэксам такога пляну скласьці нельга,—
складаньне пляну вытворчасьці адносіцца да катэгорыі адміністра-
цыйна-гаспадарчай дзейнасьці дзяржавы, а незаконадаўчай дзейнась-
ці. Але можа быць, у гэтым кодэксе павінны знайсьці сабе месца
чыста праўныя нормы, якія датычаць структуры, функцый і дзей-
насьці гаспадарчых органаў, і зноў трэба сказаць: не, бо ў праціў-
ным выпадку проэктуемы кодэкс аказаўся-б вялізарных разьмераў,
увабраўшы ў сябе нормы так званага прамысловага права, гандлё-
вага права, фінансавага і г. д. Тут галоўная няўдобства заключаец-
ца ў тым, што не паказваецца крытэрыя, па катораму тыя або ін-
шыя нормы павінны быць уключаны ў новы проэктуемы кодэкс,—па-
няцьце „гаспадарчыя законы“ гэтага крытэрыя не дае, чаму па пры-
мецe „гаспадарчыя законы“ будучы кодэкс можа ўключаць шмат та-
кога матар'ялу, аб уключэньні каторага ў кодэкс ня думаюць і самі
складальнікі проэкту.

Камісія зусім правільна адзначае, што грамадзянскі кодэкс
1922 г., выданы ў першапачатковы пэрыяд дзейнасьці новай экано-
мічнай політыкі, зараз мае патрэбу ў значнай перапрацоўцы і ў да-
поўненьні больш падрабязнымі нормамі аб юрыдычных асобах, аб іх
грамадзянска-праўных узаемаадносінах і г. д. Словам, пытаньне аб
непаўнаце чыннага кодэксу бяспрэчна тым больш, што і выкладань-
не яго носіць характар хутчэй асноў, чым кодэкс грамадзянскіх за-
конаў.

Але чынны кодэкс выкладае нормы ўпаўне вызначанай групы
—так званага прыватнага грамадзянскага звароту—гэта *грамадзян-
скі кодэкс* у чыстым яго выглядзе, кодэкс з каторага выключаны ўсе
нормы, якія граначаць з нормамі публічнага права, як напрыклад, пра-
ва зямельнае, працоўнае, шлюбна-сямейнае. Думка законадаўцы
ўпаўне ясная. На базісе новай экономічнай політыкі дапушчаюцца
прыватныя маемасныя правы, каторыя прысвайваюцца або юрыдыч-
ным або фізычным асобам. Правы гэтыя, як і ўся новая экономічная
політыка, зьяўляюцца як рэзультат компромісу між асноўнымі прад-
пасылкамі соцыялізму і перажыткамі буржуазных адносін. У сучас-
ны момант дзяржава яшчэ не адмовілася ад НЭП"а, толькі НЭП ат-
рымувае некалькі іншыя формы і разьвіваецца пад націскам узмац-
няючайся магутнасьці камуністычнай дзяржавы і ўтвараемай ёю аб'-
яднаньняў і організацый. Калі ў момант выданьня грамадзянскага
кодэксу галоўнымі дзеючымі асобамі ў грамадзянска-праўным зваро-

це зьявіліся асобы фізычныя, то цяпер у шмат якіх выпадках іх выцясьняюць юрыдычныя асобы. Гэтыя юрыдычныя асобы, у большасьці выпадкаў, вылучаюцца, як бы атпчкоўваюцца, з складу дзяржаўных установаў, пры гэтым характэрна тое, што з пераходам „на гаспадарчы разрахунак" новыя ячэйкі зьяўляюцца дзеючымі адзінкамі ў грамадзянска-праўным звароце, чаму і снабжаюцца правамі юрыдычных асоб. Такім чынам, у рэзультаце разьвіцьця НЭП"у ў грамадзянска-праўны зварот уцягваюцца ўсё новыя і новыя юрынычныя асобы, чаму грамадзянскі кодэкс і павінен аддаць ім больш увагі. Але гэта зусім не павінна цягнуць за сабую ўключэньне ў кодэкс такіх праўных норм, каторыя ня маюць простых адносін да грамадзянскіх адносін.

Ітак, грамадзянскі кодэкс павінен рэгуляваць маемасныя праваадносіны тых юрыдычных і фізычных асоб, каторыя дапушчаны ў грамадзянска-праўным звароце. Пры гэтым, сыстэма грамадзянскіх праваадносін у савецкай дзяржаве павінна ўстанаўлівацца ў мэтах разьвіцьця вытворчых сіл краіны і арганізацыі социялістычнай гаспадаркі працоўных.

Прасьлед'ючы вышэйпаказаную мэту і рэгулюючы грамадзянска-праўныя адносіны, кодэкс павінен захаваць сваю ранейшую назву „грамадзянскі кодэкс" і папоўніцца нормамі, якія адносяцца выключна да катыгоры норм грамадзянска-праўных.

Загадзя абмяжоўвуючы такім чынам рамкі будачага кодэксу, мы мяркуем, што абшырны матар'ял з галіны гаспадарчых адносін, каторы ня ўвойдзе ў гэты кодэкс, можа і павінен здаць зьмест другога кодэксу або нават некалькіх кодэксаў.

Ноогул нам здаецца, што пры ўтварэньні грамадзянскага кодэксу 1922 г. законадаўца (гл. арт. 3 ГК) паступіў зусім правільна, вылучыўшы ў асобныя кодэксы шэраг інстытутаў, катырыя раней знаходзілі звычайна месца ў грамадзянскіх кодэксах.

Цяпер, склаўшыся пры іншых абставінах, падзел права і разьмеркаваньне праўнага матар'ялу па кодэксах павінна многа зьмяніцца. Так, калі ад грамадзянскага кодэксу адайшлі многія нормы ў кодэксы: працоўны, зямельны і сямейны, то з другога боку, грамадзянскі кодэкс павінен увабраць у сябе значную частку норм таксванага гандлёвага права. Час прадстаўленьня прадстаўнікам прыватнага гандлю якіх-нібудзь прывелей або ў ва ўсякім выпадку асобных умоў заключэньня сваіх спэцыяльна-„гандлёвых" зьдзелак даўно мінаваў. Што-ж тычыцца гандлю дзяржаўнага і коопэрацыйнага, то ў працівагу гандлю купецкага, ен пазбаўлен галоўнай прыметы гэтага апошняга — перапрадажы ў *мэтах атрыманьня барыша.* Дзеля гэтага ніякіх падстаў да вылучэньня з складу грамадзянскага кодэксу ў асобны кодэкс гандлёвы, так званых гандлёвых зьдзелак, бо гэтыя апошнія нічым істотна не адрозьніваюцца ад аднастойных зьдзелак агульна-грамадзянскага звароту.

Але з другога боку, цэлыя комплексы норм гаспадарчага жыцьця і ў прыватнасьці таксванага гандлёвага, ня могуць быць уключаны ў кодэкс грамадзянскі з прычыны таго, што яны носяць характар публічна-праўных норм, як напрыклад, нормы аб будаваньні і функцыях нашых гандлёвых арганізацый.

Па тых-жа падставах у грамадзянскі кодэкс нельга зьмяшчаць нормы аб манаполіі замежнага гандлю, як гэта праэктуецца ў "схэме".

II. На падставе выкладзеных вышэй агульных меркаваньняў мы можам далей канкрэтна выказацца адносна схэмы проэктуемага кодэксу.

Аддзел другі „асноўныя палажэньні“ належыць дапоўніць нормамі аб рэквізыцыі і канфіскацыі. Рэквізыцыя і канфіскацыя таксама, як і даўнасьць, цягнуць за сабою страту праў, пагэтаму нормы аб рэквізыцыі і канфіскацыі неабходна зьмясьціць у сьлед за нормамі аб даўнасьці.

Складальнікі праэкту грамадзянскага кодэксу мяркуюць устанавіць, што „з адносін, узьнікаючых з сям'і, апекі і шлюбу, маемасна- праўныя адносіны рэгулююцца кодэксам гаспадарчых законаў, асабістыя-ж і *алімэнтныя* адносіны—кодэксам законаў аб сям'і, апецы і шлюбе“. Пагэтаму поваду неабходна заўважыць наступнае: кодэкс закону аб сям'і, апецы і шлюбе па сутнасьці сваёй павінен датыкацца і вырашаць пытаньні галоўным чынам маемаснага характару; гэты кодэкс, па словах аднаго з членаў ЦВК БССР, ня можа прэтэндаваць на разьвязваньне асноўных проблем аб шлюбе і сям'і, ён толькі рэгулюе маемасные ўзаемаадносіны, выцякаючыя з шлюбу. Такім чынам, у галоўнай сваёй масе—гэта нормы прыватна-маемаснага права, чаму яшчэ і да гэтай пары ёсьць прыхільнікі ўключэньня норм шлюбна-сямейнага права ў склад грамадзянскага кодэксу. Нам асабіста думаецца, што вылучэньне гэтых норм у асобны кодэкс дае многа ўдобств, чаму і не сустракае пярэчаньняў. Але мerkаваньне вылучыць з яго і ўключыць у кодэкс гаспадарчых законау „маемасна-праўныя адносіны“ выклікаюць сумненьні; што-ж тады застанецца ў кодэксе аб шлюбе і сям'і? Асабліва-ж належыць пярэчыць супроць аддзяленьня алімэнтных адносін ад маемасна-праўных, затым што алімэнтныя адносіны, бясспрэчна, зводзяцца к адносінам чыста матар'яльнага характару і выклікаюць за сабою права на тую або іншую долю маемасьці. Алімэнтны іск ніяк нельга назваць іскам не маемаснага характару. Дзеля гэтага, калі ўжо і вылучаць маемасна-праўныя адносіны і нормы, якія іх рэгулююць, зьмяшчаць у кодэксе гаспадарчых законаў, то сюды-ж належыць аднесьці і нормы аб алімэнтных адносінах.

Камісія па складаньню новага кодэксу мяркуе пакінуць і ўнесьці ў новы кодэкс арт. 5 уступнога закону да грамадзянскага кодэксу УССР, які дапушчае пашыранае тлумачэньне грамадзянскага кодэксу толькі ў тых выпадках, калі гэтага патрабуе абарона інтарэсаў рабоча-сялянскай дзяржавы і працоўных мас.

Нам думаецца, што пытаньні аб тлумачэньні закону, а таксама і аб дапасаваньні норм грамадзянскага кодэксу да выпадкаў і праваадносін, гэтым кодэксам не прадугледжаны, павінны знайсьці больш ці менш падрабязныя паказаньні ва ўступнай часцы да грамадзянскага кодэксу. Пры гэтым дапасаваньне грамадзянскіх законаў да тых або іншых праваадносін па аналёгіі не павінна быць абмяжоўваема такім чынам, як гэта робіцца цяпер арт. 5 уступнага закону да ГК УССР; абарона інтарэсаў рабоча-сялянскай дзяржавы і працоўных, як мэта закону, наогул павінна быць пуцяводнай зоркай судзьдзі пры дапасаваньні ім норм грамадзянскага права—гэта агульны прынцып нашага ладу і нашага закону,але для кіраўніцтва суду неабходна канкрэтна паказаць, пры якіх менавіта ўмовах (схожасьць норм з акалічнасьцямі данай справы) дапушчальна аналёгія закону і аналёгія права і з якімі абмяжаваньнямі (напрыклад, пытаньне аб пашырэньні норм, складаючае выключэньне з агульных правіл). Ва ўсякім выпадку, зараз пры хуткім тэмпе разьвіцьця гаспадарчага жыцьця, калі нормы кодэксу бадай ці здолеюць прадугледзець усе нараджаючыяся формы праваадносін, аналёгіі права і закону павінен быць дадзен большы прастор.

Вельмі выгадна адрозьніваецца сваёй паўнатою праграма разьдзелу аб *удзельніках гаспадарчага звароту* (асобы). Новым у гэтай частцы зьяўляецца паказаньне на комплексы маемасьцяй з спэцыяльным назначэньнем і поўным юрыдычным абасабленьнем, як на юрыдычную асобу.

Закончваючы свае заўвагі на праграму агульнай часьці праэктуемага кодэксу, мы нямосжам не пашкадаваць аб тым, што вучэньне аб зьдзелках аднесена да разьдзелу аб праве абавязальным; гэтым як-бы падкрэсьліваецца тое нярэдкае ў жыцьці і нават сярод судзьдзяй заблуджэньне, быццам паняцьце „зьдзелка“ і паняцьце „дагавор“ пакрываюць адно другое. Але-ж бо зьдзелкі адносяцца ня тольні да абвязальнага права. Зьдзелкі могуць параджаць і спыняць усякага роду права: і рэчавыя, і абавязальныя, і спадчынныя. У адрозьненьне ад многіх чужаземных заканадаўств у нас зьдзелка сама па сабе абасноўвае набываньне рэчавых праў, не патрабуецца для гэтага далучэньня яшчэ факту перадачы рэчы. Значэньне зьдзелак для рэчавага права ў нас яшчэ больш, чым у іншых мясцох“ *), зьдзелка ёсьць паняцьце радавое ў стасунку да паняцьця „дагавор“: усякі дагавор ёсьць зьдзелка, але далёка ня ўсякая зьдзелка ёсьць дагавор. Дзеля гэтага агульнае вучэньне аб зьдзелках неабходна зьмясьціць у агульных палажэньнях беспасрэдна за вучэньнем аб суб‘ектах права. Такое вынясеньне за дужкі агульных норм аб зьдзелках вызваліць складальнікаў кодэксу ад неабходнасьці паўтараць гэтыя нормы ў некалькіх мясцох. Самы разьдзел аб зьдзелках пажадана азаглавіць гэтак: „набываньне і спыненьне праў; гэтым падкрэсьлівалася-бы значэньне зьдзелкі, як дзеяньня, накіраванага на здабываньне і спыненьне праў.

Па тых-жа меркаваньнях пажадана вылучыць агульнае палажэньне аб аб‘ектах права, зьмясьціўшы іх між разьдзеламі аб асобах і зьдзелках.

Такім чынам, наўпрэкі думцы камісіі, мы мяркуем, што няма падстаў адыходзіць ад прынятай дзейнічаючым ГК сыстэмы, у катарай ёсьць агульная часьць распадаючайся на разьдзелы: а) асноўныя палажэньні, б) суб‘екты праў, в) аб‘екты праў і г) зьдзелкі.

У заключэньне яшчэ адно пажаданьне: прыняць сапраўдныя меры да спрашчэньня рэдакцыі закону. „Тэзісы“ аб гэтым цьвёрда і пэўна гавораць, але ў схэме ёсьць прапановы малазразумелыя і для юрыста. Так адзел III азаглаўлен вельмі складана: „правоотношения по распределению между участниками хозяйственного оборота средств производства и потребления“. Мяркуючы па праграме гэтага разьдзелу, ён павінен зьмяшчаць у сабе нормы аб маемасных правох, чаму і было-б прасьцей даць гэтаму разьдзелу кароткі загаловак. Тэзіс 13 аб надворным боку грамадзянскага кодэксу і значным спрашчэньні выкладаньня яго ня выклікае, напэўна пярэчаньняў. Па гэтаму повалу ўсё-ж належыць заўважыць, што пры складаньні кодэксу нельга асабліва захопліваца ідэяй спрашчэньня яго мовы; спрашчэньне гэта павінна мець граніцы і не абарочвацца ў вульгарызацыю. Нельга забывацца, што асноўныя паняцьці грамадзянскага кодэксу далёка ня так проста, каб яны, нават пры самым лёгкім і ўдобазразумелым выкладзе былі ўпаўне даступны мала разьвітому чалавеку; укарэньваньне ў гушчу насельніцтва пазнаньня грамадзянскага права павінна ісьці не адным чытаньнем голых арт., а іх растлу-

*) Проф. А. Гойхбарг к выработке „основ гражд. законадательства (ЕСЮ, № 34-27г.)

мачэньнем у дакладах, гутарках і ў папулярных брашурах; асабліва ўхіляцца юрыдычных тэрмінаў няма падставы; бо цяжкі для разуменьня ня тэрміны, а тыя складаныя паняцьці, каторыя выкладаюцца ў законе; паняцьці гэтыя павінны заўсёды растлумачвацца (вусна і пісьмова), тады і тэрміны запомняцца. Не забудземся, што дзякуючы працы партыйных працаўнікоў зараз нават у малапісьменным асяродзьдзі вельмі нядрэнна разьбіраюцца ў палітычнай тэрміналёгіі, каторая таксама цяжкая, як і юрыдычная.

**Б. Ватацы**

# МАЕМАСНАЯ АДКАЗНАСЬЦЬ ДЗЯРЖАВЫ.

Пытаньне аб грамадзянскай адказнасьці дзяржавы за маемасную страту, учыненую няправельнымі дзеяньнямі ўрадавых асоб, зьяўляецца адным з спрэчных пытаньняў, якія трэбуюць разьвязаньня. Пэўнасьць у гэтым пытаньні вымагаецца ў інтарэсе аховы правільнасьці грамадзянскага звароту. Асабліва адчуваецца патрэба ў пэўнасьці і яснасьці пытаньня аб правох асоб, якія панесьлі страту ад службовых растрат, дзеля таго, што растраты зьяўляюцца часта.

Пры ўзьніканьні на практыцы пытаньня аб тым, хто зьяўляецца абвязаным узнагародзіць пакрыўджанага за маемасную страту заданую яму няправільнымі дзеяньнямі ўрадовай асобы, звычайна спыняюцца на арт. 449 Г.К. У адпаведнасьці з палажэньнямі гэтага артыкулу пытаньне разьвязваецца ў тым сэнсе, што ўстанова зьяўляецца адказнай за няправільныя дзеяньні свайго супрацоўніка толькі ў выпадках, асобна паказаных у законе і пры гэтым толькі тады, калі пакрыўджаны ў час абскардзіў няправільныя дзеяньні і калі няправільнасьць прызнана адпаведнай судовай ці адміністрацыйн. установай. Дзеля таго, што звычайна зьбежнасьці ўсіх трох момантаў ня бывае, дык пакрыўджаны ніякай узнагароды за страту не атрымлівае—ўстанова прызнаецца неадказнай, а з вінаватага няма чаго спагнаць за атсутнасьцю ў яго маемасьці.

Гэтакае тлумачэньне арт. 449 зьяўляецца правільным, але дасканала няправільна асноўвацца толькі на гэтым законе. Арт 449 звычайна абмяркоўваецца зусім паасобку ад другіх палажэньняў Грамдзянскага Код., што скажае правільны сэнс артыкулу. У частковасьці не бярэцца пад увагу арт. 108, а таксама й тое, што арт. 449 уваходзіць у XIII разьдзел „обязательственного права“, названы „обязательства, возникающие вследствие причинения другому вреда“. Арт. 108 гаворыць аб тым, што абавязкі ўзьнікаюць з умоў і другіх паказаных у законе падстаў і як частковыя выпадкі „другіх“ падстаў называецца „неосновательное абогащение“ и „причинение другому лицу вреда“. Такім чынам рэдакцыя арт. 108 не заставляе сумненьня, што „причинение другому лицу вреда“ зьяўляецца толькі частковым выпадкам паўставаньня абавязка ўзнагарадзіць страту. Калі-б разьдзел XIII Гр. Код. прадугледаў усе выпадкі паўставаньня гэтака абавязку, дык відавочна, што віна прыватнай асобы ў страце заўсёды абмяркоўвалася паводле 445 арт., а віна прадпрыемства, чыннасьць якога зьвязана з падвышанай небясьпекай, толькі паводле 446 арт. У рачавістасьці два паказаныя артыкулы 445 і 446 маюць вельмі абмежаванае ўжываньне. Без параўнаньня, часьцей пры разьвязаньні пытаньня страты ўжываюцца арт. 119, 143, 441—444 і іншыя. Аб адказнасьці, напрыклад, чыгункі маецца цэлы шэраг палажэньняў у статуце аб чыгунках.

Наданьне арт. 449 непрызвычаенага яму значаньня тлумачыцца выключна тым, што палажэньні яго разглядаюцца ў няправільным пэрспэктыўным стане. Яшчэ рымскае права строга дзяліла абавязкі па падставах іх узьнікнаеньня на дзьве галоўныя групы: абавязкі з кантрактаў (abligationes ex contractu) і абавязкі з няправільных дзеяньняў (abligationes ex delicto). Пры гэтым слова „кантракт" ужывалася ў сваім першапачатковым сэнсе дзеля абазначэньня ўсялякай установы праваадносін паміж паасобных асоб. Калі абавязак з няправільных дзеяньняў мог узьнікнуць адносна кожнай асобы, каторую зачапілі гэтыя няправільныя дзеяньні, дык абавязак з кантракту мог узьнікнуць выключна адносна тэй асобы, з якой раней устаноўлены былі тыя ці йншыя праваадносіны дзеля таго, што абавязак узьнікаў якраз з прычыны парушэньня гэтых адносін.

З гэтага пункту погляду, прынятага і Грамадзянскім Кодэксам, і трэба падыйсьці да арт. 449.

У тых выпадках, калі паміж пакрыўджаным і дзяржавай ня было першапачаткова ўстаноўлена кантрактных ці квазі—кантрактных адносін, напэўна трэба ўжываць арт. 449. Гэты артыкул гаворыць аб „няправільных службовых дзеяньнях", г. зн. аб тых дзеяньнях, якія хоць і зьяўляліся выкананьнем службовых абавязкаў, але выйшлі з граніц дадзенага дзяржавай паўнамоцтва, і як раз у парушэньні граніц месьціцца няправільнасьць. Паводле агульнага прынцыпу (выкладзенага ў арт. 39 г. к.) дзеяньне даверанага абавязкова дзеля даверальніка толькі ў граніцах поўнамоцтва. „Няправільныя службовыя дзеяньні", якія учынілі страту, не накладаюць абавязкаў на джяржаву дзеля таго, што ўчынены па-за граніцамі паўнамоцтва. Дзеля гэтага зусім лёгічна правільна пастанова 449 арт. аб тым, што адказнасьць дзяржавы ўзьнікае толькі ў выпадках, якія спэцыяльна паказаны ў законе. Агульнае правіла—неадказнасьць дзяржавы; у выключных выпадках (калі ёсьць паказаньне закону) дзяржава зьяўляецца адказнай.

Да падобных выпадкаў, калі абавязак узьнікае ex delicto, магчыма, напрыклад, аднесьці раненьне міліцыянэрам падарожнага на вуліцы, калі міліцыянэр ужыў зброю з парушэньнем адпаведных правілаў. Калі адказнасьць дзяржавы ня вызначана законам, дык дзеля гэтай адказнасьці няма адпаведных дапушчэньняў.

Зусім іншыя суадносны ўзьнікаюць, калі страта ўчынена прычыны папярэдня вызначаных кантрактовых ці квазі—кантракто вых праваадносін. Дазволім сабе спыніцца на двох—трох прыкладах Асоба здае на пошту грошы дзеля адпраўкі па паказанаму адрэсу Атрымаўшы ўстаноўлены квіток, асоба адходзіць зусім супакойнй пэўная, што грошы ня загінуць дзеля таго, што зданы дзяржаўнаа установе. У пасьледку які небудзь супрацоўнік паштовай установы растраціць гэтыя грошы. Ці зьяўляецца дзяржава (ў асобе паштовай ўстановы) адказнай за грошы перад адправіцелям? Якія меркаваньні можна паказаць на карысьць неадказнасьці дзяржавы? Зусім не зьмяняецца стан, калі супрацоўнік у выкананьне свайго службовага абавязку праўна прыняў грошы не ў памяшканьні ўстановы, але па-за сьцянамі яе. Напрыклад, судовы выканаўца ў кватэры даўжніка, дзе павінна была адбыцца продаж маемасьці даўжніка, прыйме грошы ў пагашэньне даўга. Чаму дзяржава павінна быць вызвалена ад адказнасьці за гэтыя грошы, калі яны будуць растрачаны судовым выканаўцам? Даўжнік, які перадаў грошы, зусім ня ведаў асабіста выканаўца, ніяк пэрсанальна верыць выканаўцу не павінен быў, але даў яму грошы, як прадстаўніку дзяржавы дзеля таго, што выканаў-

ца чыніў зусім праўна. Ня можна тут-жа не адзначыць наступнае неўразуменьне, калі дзяржава неадказна зазагінуўшыя грошы: хто павінен урэшце пенесьці страту ад растраты выканаўца—асоба, якая дала яму грошы, ці асоба, якой грошы прызнаны былі. Хто з іх учыніў большую хібу і праявіў большую лёгкадумнасьць? Пазычальнік, які звярнуўся ў Суд за аховай сваіх праў і ў рэшце ня атрымаў сваіх грошай, ці даўжнік, які даверыўся прадстаўніку дзяржавы і даручыў яму грошы?

Трэба ўзяць пад увагу, як паказана вышэй, што 449 арт. Г.К. гаворыць аб „няправільных службовых дзеяньнях„. Але ў разгледжанных выпадках страта здаралася не ад службовых дзеяньняў. Растрата ня можа іменавацца „няправільным службовым дзеяньнем" дзеля таго, што яна ня ёсьць „службавае" дзеяньне. Растрата ёсьць злачынства і імянуецца службовым злачынствам дзеля таго, што ўчынена і магла быць учынена толькі ўрадовай асобай. Службовае злачынста ні ў якім разе ня ёсьць перавышэньне граніц паўнамоцтва „Няправільнае службавае дзеяньне" і „службовае злачынства" ня. ёсьць толькі розныя ступеньні аднаго і таго паняцьця.

Дзеяньня службовай асобы, выкананыя ў граніцах дадзеных яму праў і ўскладзеных на яго абавязкаў, утвараюць квазі-кантрактныя праваадносіны паміж дзяржавай і паасобнай асобай. Паводле 30 арт. Г. К. праваадносіны гэтыя абавязковы дзеля дзяржавы і ўскладаюць на яе абавязкі. Калі гэтыя праваадносіны парушаны, дык наступаюць вынікі падобныя вынікам парушэньня ўмовы (арт. 132—153 Гр. Код.).

Зьмест арт. 407 Гр. Код. РСФСР і арт. 449 Гр. Код. БССР тожсамы, паміж тым тлумачэньне гэтага закона рознае.

Пленум найвышэйшага суда РСФСР, „выходзячы з таго, што ўстановы нясуць маемасную адказнасьць за цэласьць маемасьці прыватных асоб, якая прынята праз іх ці службовымі асобамі дзеля захаваньня ці ў часовае загадваньне на падставе прадпісаньня закону ці заснованага на ім распараджэньня ўлады" . . пастанавіў „растлумачыць, што дзяржава зьяўляецца адказнай за грошы, атрыманыя судовым выканаўцам па выканальных лістох і растлумачаныя тым самым" (судебн. практ. 1927 г., № 5 атр. 5).

Вышэйшая Арбітражная Камісія пры Савеце Працы і Абароны (СТО) ў вырашэньні сваім па справе № 27 за 1927 г. паказвае: „паказаны (407) арт., як і ўвесь разьдзел XIII „обязательственного права" Г. К., мае на ўвазе адказнасьць за шкоду і страту, учыненыя аднэй асобай другім пры адсутнасьці паміж імі якіх-небудзь устаноўленых кантрактамі ці законам адносін (абавязкі з забароненых дзеяньняў ў процілегласьць абавязкам з кантрактаў)". На падставе гэтых меркаваньняў В. А. К. палічыла акруговы суд адказным за грошы, атрыманыя па вэксалёх і потым прыўлашчаныя натарыусам.

У часопісі „Е. С. Ю." за 1927 г. (№ 18 стар. 555) зьмешчан абежнік НКЮ і НКУн. Спр. РСФСР ад 26/IV 1927 г., за № 76/166 аб адказнасьці ўстаноў міліцыі перад трэцімі асобамі за растраты, учыненыя службовымі асобамі гэтых ўстаноў. У абежніку гаварыцца, што ўчыненая працаўніком міліцыі растрата спагнаных у парадку службовага даручэньня грошай, напрыклад, па выканальнаму лісту, па пастанове адпаведнай адміністрацыйнай установы аб накладаньні штрафу за парушэньне абавязковай пастановы і г. д., ня можа разглядацца, як няправільнае яго службовае дзеяньне ў сэнсе арт. 407 Г. К, дзеля таго, што гэтая растрата ня мае якой-небудзь прамой сувязі з яго службовымі дзеяньнямі па яго вытворчасьці спагнаньняў.

Дзеля гэтага ў выпадках такіх растрат арт. 407 Гр. К. не павінен ужывацца, і ўстанова міліцыі павінна несьці за гэткую растрату маемасную адказнасьць як перад асобай, з якой было вытворана спагнаньне, таксама й перад тэй асобай, на карысьць якой грошы былі спагнаны.

Зусім працілеглага погляду трымаецца НКЮ БССР. На запытаньне аднаго з дяржаўных прэдпрыемств аб адказнасьці Акруговага Суду за растрату, учыненую Судовым выканаўцай НКЮ адказаў, што законам не прадугледжана одказнасьць дзяржавы за растрату судовага выканаўцы грошай, якія ён атрымаў у службовым парадку што дзеля гэтага на падставе арт. 449 Гр. Код. дзяржава не павінна адплаціць страту ад растраты і што растрачаныя грошы павінны быць спагнаны толькі з вінаватага судовага выканаўцы.

*Б. Ільляшэвіч.*

## ПРЫНЦЫПЫ І ЖЫЦЬЦЁ *).

**(Касацыйны працес і якія у ім патрэбны зьмены).**

У сучасны момант, калі пытаньні зьвязаныя з спрашчэньнем нашага апарату, з скарачэньнем працэсу, з адсячэньнем таго, што сеньня стала ўжо не запатрэбаваньнем жыцьця, а формай, традыцыяй (і ў большасьці хваробнай)—калі ўсе гэтыя пытаньні для нас зьяўляюцца актуальнымі, мы лічым неабходным высунуць пытаньне, якое ў нас у Беларускай юстыцыі пакуль што не стаяла, але якое, па нашай думцы, жыцьцё ставіць, як пытаньне чарговае.

Мы лічым, што прышоў час, калі трэба ўзьняць пытаньне як аб характары, а таксама і аб самой працы нашых касацыйных інстанцый. Гэтае пытаньне, вядома, немагчыма вырашыць цалком сёньня-ж Яно яшчэ не дастаткова высьветлена, няма належнага абмену вопытам, няма належных статыстычных выкладак, на якіх мы-бы мелі магчымасьць ужо сёньня абгрунтаваць нашы меркаваньні па ўсіх галінах, (як крымінальнай так і грамадзянскай) і па ўсіх касацыйных інстанцыях (акрсуд, найвышэйшы суд).

А таму сеньня мы пакуль што на разгляд нашых чытачоў можам дадаць некалькі думак па аднэй толькі галіне-крымінальнай і толькі аб найвышэйшым судзе.

Калі рэальна мы перад сабой паставім пытаньне, ці здавальняе нас наогул праца Крым. Кас. Кал. дык мы павінны будзем даць такі адказ: так у агульным—гэтая праца здазвальняючая, але—...але ў гэтай працы ёсьць моманты, якія затрымліваюць працу, моманты, якія зьяўляюцца на наш погляд хваробнымі.

Гэтыя моманты, вядома, грунтуюцца на „тэорэтычных прынцыпах“, вядома яны амаль што ні „ад веку“ існуюць у заканадаўстве, вядома што ў „Эўропах“—таксама мы знойдзем гэтакую-ж практыку, абгрунтованую на гэтакай-жа тэорыі.

Мы лічым, што трэба ў сур'ёз паставіць пытаньне аб характары працэсу—у яго касацыйнай часцы—і, можа, пакуль што толькі ў найвышэшым судзе. У чым тут пытаньне?

---

*) АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:
I. Гэты артыкул друкуецца ў парадку абгаварэньня.
II. Пажадана, каб судовыя працаўнікі і абаронцы выказалі сваю думку па закранутых пытаньнях.

А ўсё яно ўкладаецца ў вялікі прынцып „состязательности“ працэсу. І вось практыка, жыцьцё—усе гэта гаворыць аб тым, што „спаборніцтва“—якое цягнецца праз увесь крмынальны працэс пачынаючы з моманту судовага сьледзтва, трэба канчаць там, дзе выносіцца, агалашаецца прысуд суду першай інстанцыі. Спаборніцтва ў касацыйнай часцы працэсу застаецца з аднаго боку спаборніцтвам на паперы (як аб гэтым пакажуць лічбы), з другога боку спаборніцтвам „з адным бокам“—і па трэцьцяе—спаборніцтвам такім чынам ужо не паміж бакамі, а паміж адным „бокам“ і судом.

І запраўды вось лічбы, мы лічым вельмі яскравыя, якія гавораць самі за сябе: з ліку 820 касацыйных спраў, разгледжаных ККК Найвышэйшага Суду за 1927 г., абарона выступіла ў 6 проц. гэтых спраў. Будзем яшчэ мець да таго на ўвазе, што выступала яна ў гэтых 6 проц. ня толькі адна, але часта і ў тых выпадках, калі Пракуратура таксама давала заключэньне аб адмене справы і калі мы адкінем гэтыя „сумесныя“ выступленьні дык на „бок“ выпадае усяго 3,5 усіх разгледжаных спраў.

Да таго трэба мець увесь час на увазе, што тут як раз мы маем „аднабокі“ бок. Тут нябыло таго „спаборніцтва“ якое мы маем заўсёды ў судзе 1-й інстанцыі—а толькі „абарону“ інтарэсаў асуджаных, а не пакрыўджаных.

З кім-жа было спаборніцтва? Нам могуць адказаць—ведама з кім, з пракурорам. А мы гаворым—не. Выбачайце--не з пракурорам, бо пракурор у паседжаньнях Крымінальна-Касацыйнай Калегіі ні ў якім разе і ніколі не зьяўляўся і не зьяўляецца „бокам“.

Ен прадстаўнік дзяржавы і сваё заключэньне дае пасьля спаборніцтва бакоў. (А што гэтыя заключэньні больш аб'ектыўны, чым можа прадставіцца незнаёмаму з практыкай калегіі чалавеку—аб гэтым гаворыць наступная лічба: з агульнага ліку разгледжаных спраў, пракурор даў заключэньне аб адмэне па 20 проц. гэтых спраў).

Адсюль—трэба рабіць той вынік, які мы зрабілі ў пачатку артыкулу: у „аднабокім„ спаборніцтве бок спрачаецца з судом, а гэта яшчэ падкрэсьліваецца і тым, што з агульнага ліку спраў, па якіх выступалі прадстаўнікі „боку“ суд згадзіўся толькі ў 18 проц. гэтых спраў. Такім чынам у 82 проц. бок дамагаўся незаконнага, ці пацыходзіў да справы выключна з пункту погляду інтарэсаў абвінавачанага, а не калектыву, не дзяржавы. У гэтых выпадках замест дапамогі суду толькі цягнулася валакіта, уносілася блытаніна.

Вось гэтыя лічбы, гэтая практыка і тая фармальная зацяжка, якая выклікаецца вялікім, але ў данным выпадку з нашага пункту погляду аджыўшым у гэтай частцы працэсу прынцыпам— усе гэта гаворыць аб неабходнасьці зьмяніць у корані працэс у касацыйнай інстанцыі Вярхсуду.

І праўда—у першай інстанцыі нам патрэбны бакі, спрэчкі—гэта пакуль яшчэ так, бо там суд—гэта суд над нашай цемрай, над сацыяльнымі хваробамі, над злачынствам—там суд зьяўляецца спосабам выхаваньня масаў. Касацыйная інстанцыя ёсьць у першую чаргу і больш за ўсё—„суд над судом“ і гэта трэба памятаць.

Нашае заканадаўства вельмі вузка разглядае тыя моманты, якія цягнуць адмену прысуду. Гэта пацьвердзіла і наша практыка. Новы артыкул 420 КПК зусім дае магчымасьць скараціць колькасьць спраў, якія адмяняюцца для новай „вандроўкі“, ад сьледчага да пракурора, ад пракурора да суда і г. д.

Мы лічым, што галоўнае ў касацыйнай працы—гэта тыя прыватныя вызначэньні, на якіх мы вучым нашых суседзьзяў. Яны даюць

карысны матар'ял і ён больш паказальны, чым тыя проценты спраў, якія былі адменены як з удзелам бакоў так і бяз іх.

А дзеля таго, каб знайсьці судовыя памылкі 1-й інстанцыі — не памылкі, якія прыцягваюцца ў касскаргах „за валасы"—памылкі ў артыкуле, якія наша практыка адносіць да артыкулаў інструкцыйнага зьместу, (і аб іх мы пішам у прыватных адзначэньнях), а памылкі зьместу, памылкі прынцыповыя, а ня формы—вось, каб іх знайсьці не патрэбна дапамога бакоў.

І зноў зробім адноску на лічбы—з агульнага ліку касскаргаў у 92 проц. мы маем адноску на парушэньне... арт. 319. А гэта толькі гаворыць, што з касацыйнай інстанцыі імкнуцца зрабіць інстанцыю апэляцыйную. А на гэты шлях мы яшчэ не станавіліся і пакуль што не станем. І далей, калі мы возьмем матывы адмены прысудаў і матывы, якія прыводзіліся прадстаўніком абвінавачанага (прадстаўніком, а не абвінавачаным, бо такі выпадак калі выступаў сам абвінавачаны меў месца толькі адзін раз)—дык убачым, што ў 85 проц. (!) Крымінальна-Касацыйная Калегія адменяла прысуд не па матывах касскаргаў.

Мы лічым, што гэтых лічбаў, больш чым выстарчальна хапае, каб падкрэсьліць правільнасьць нашай думкі.

Нас запытаюць: а як-жа прынцып? Мы адкажам на гэта: усяму свой час. Да гэтага часу мы ўвесь судовы працэс ставілі на рэйкі з паборніцтвам, а ў сучасны момант, калі мы нават у судзе 1-й інстанцыі даем права суду адсячы спрэчкі бакоў, калі мы там даем права выклікаць сьведак тых, якіх лічыць неабходным выклікаць суд, калі там мы часткаю такім чынам сьціскаем і значна сьціскаем гэты прынцып спаборніцтва—дык аб яго ліквідацыі і ліквідацыі канчатковай ў стадыі касацыйнага разгляду крымінальных спраў у найвышэйшым судзе па нашаму шкадаваць ня трэба.

**Міхайлаў.**

---

## АБ ГРАНІЦАХ ПРАУ КАСАЦЫЙНАЕ ІНСТАНЦЫІ ЗЬМЯНЯЦЬ ПРЫГАВАРЫ.

(У падарку абгаварэньня).

Пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР за 10 лістапада 1927 г. у адпаведнасьці з Асновамі Крымінальнага Судаводзтва СССР зьменены арт. арт. 419 а і 420 Кр. Пр. Код., якія ў новай рэдакцыі зьліты ў адзін арт. 420 Кр. Пр., які ў судовай практыцы да гэтай пары ня мае адзінства практыкі і выклікае шэраг спрэчных момантаў.

Папершаму, узнікла пытаньне—ці пашырае правы касацыйнае інстанцыі Акругоснага Суду новая рэдакцыя арт. 420 Кр. Пр. Код. у часцы права на зьмену прыгавароў і па параўнаньню з раней існаваўшым арт. 419-а Кр. Пр. Код.?

Выходзячы з агульнай палітыкі савецкага заканадаўства ў напрамку зьнішчэньня цеганіны трэба адказаць станоўча, бо няма ніякага сэнсу перадаваць справу дзеля новага разгляду, калі неабходныя зьмены ў прагавары мае магчымасьць зрабіць сама касацыйная інстанцыя.

Гэта пашырэньне праў выцякае таксама з таго, што Вярхоўны Суд, які раней пры зьмене прыгавароў кіраваўся арт. 437 Кр. Пр. Код. у сучасны момант дапасоўвае арт. 420 Кр. Пр. Код. у новай рэдакцыі, а арт. 437 Кр. Пр. Код. з апошняга наогул выключан і,

такім чынам, Касацыйнае Аддзяленьне Акруговага Суду ўроўнена ў правох з Касацыйнай Калегіяй Вярхоўнага Суду.

Калі мы ўгледзімся ў дакладны сэнс ранейшага арт. 419-а Кр. Пр. Код. і цяперашняга п. „б“ арт. 420 Кр. Пр. Код., то мы павінны будзем таксама прыйсьці да выніку, што п. „б“ арт. 420 Кр. Пр. Код. пашырае правы Касацыйнай інстанцыі, іменна:

раней Акрсуд меў магчымасьць зьмяніць прыгавар толькі ў двох выпадках:

а) наяўнай неадпаведнасьці азначанай судом меры сацыяльнае абароны зробленаму дзеяньню;

б) ня правільнага дапасаваньня закону, пры чым рамкі гэтых зьмен былі абмяжованы дзьвюма ўмовамі—адзначаная касацыйн. інстанцыяй мера сацыяльнае абароны: 1) не павінна перавышаць пакараньня прызначанага судом першае інстанцыі; 2) не павінна зьмякчацца ніжэй разьмеру прадугледжанага адпаведным артыкулам Кр. Код.

У сучасны мамант рэдакцыя п. „б“ арт. 420 Кр. Пр. Код. гаварыць: Акрсуд. . . „мае права зьмяніць прыгавар, калі гэта магчыма без асобнага справавядзеньня па праверцы доказаў“.

Такім чынам, выходзячы з дакладнай рэдакцыі п. „б“ арт. 420 Кр. П. Код. раней існуючыя абмежаваньні, устаноўленыя арт. 419-а Кр. Пр. Код. цяпер скасаваны.

У сувязі з паказаным вельмі цікава і мае вялікае практычнае значэньне пытаньне—пры наяўнасьці якіх умоў магчыма дапасаваньне п. „б“ арт. 420 Кр. Пр. Код.

На наш погляд зьмена прыгавара магчыма ў наступных выпадках:

1) Калі Касацыйнай інстанцыяй будзе устаноўлена рэзкая неадпаведнасьць абранай судом першае інстанцыі меры сацыяльнае абароны зробленаму злачынству ў бок цяжкасьці пакараньня і ў гэтых выпадках касацыйная інстанцыя мае права паменшыць альбо перайсьці да меней цяжкай меры сацыяльнае абароны.

Адначасова трэба адзначыць, што ў гэтай галіне было больш ўсяго ўхілаў, якія выражаліся ў тым, што Акрсуды вельмі шырока карысталіся гэтым правам, памяншаючы незначна пакараньне. У сувязі з гэтым НКЮ быў прымушан выдаць дырэктыву аб дапасаваньні п. „б“ 420 арт. толькі ў выпадках сапраўднай і відавочнай неадпаведнасьці меры сацыяльнае абароны.

2) Касацыйная інстанцыя, выявіўшы выпадкі неправільнага дапасаваньня 28 і 36 арт. арт. Кр. Код., мае магчымасьць выключыць іх дапасаваньне, не передаючы справу для новага разгляду.

3) Таксама, пры наяўнасьці ўмоў, якія патрабавалі ад суда першае інстанцыі дапасаваньня ўмоўнага пакараньня (36 арт. Кр. Код.) альбо пераходу мяжы адпаведнага арт. Кр.Код. у бок памяншэньня пакараньня альбо пераходу да іншага меней цяжкага пакараньня (28 арт. Кр. Код.), то Касац. інстанцыя мае права гэта зрабіць сама, а таксама ў выпадках, калі судом першае інстанцыі і быў дапасован 28 арт. Кр. Код., але ўсе-ж пакараньне зьяўляецца не адпавядаючым зробленаму дзеяньню, касацыйнай інстанцыі дадзена права зрабіць далейшае зьмякчэньне пакараньня.

4) Калі будзе выяўлена неправільная кваліфікацыя злачынства, Касацыйная інстанцыя мае права перакваліфікацыі, без перадачы справы на новы разгляд у выпадках, калі мера сацыяльнае абароны пры правільным дапасаваньні закону ня перавышае альбо меней той, якая адзначана судом першае інстанцыі, пры гэтым касацыйная інстанцыя мае магчымасьць вытварацьу агульным парадку памяншэньне пакараньня.

На рэшце, спрэчным зьяўляецца пытаньне-ці мае права касацыйная інстанцыя ў парадку п. „б“ 420 арт. Кр. Пр. Код. пры відавочнасьці неадпаведнасьці прыгавара зробленаму дзеяньню, зьмяніць прыгавар у бок павышэньня пакараньня?

У № 9-10 „Весьцей НКЮ“ зьмешчан артыкул пад назвай „Крымінальна-Працэсуальны Кодэкс БССР і агульна-саюзныя Асновы Крымінальнага Судаводзтва“, дзе аўтар лічыць (стар. 4.), што Касацыйная інстанцыя мае права зьмяніць прыгавор як у бок памяншэньня, так і ў бок павялічэньня мер сацыяльнае абароны. *)

На мой погляд гэтае палажэньне не адпавядае духу справавядзеньня ў Касацыйнай інстанцыі, бо згодна арт. 424 Кр. Пр. Код. павышэньне меры сацыяльнай абароны пры паўторным разглядзе справы магчыма толькі ў выпадках прынясеньня пратэсту Органамі Пракуратуры.

Выходзячы з гэтага трэба прызнаць, што касацыйная інстанцыя, сама, пры адсутнасьці пратэсту Пракуратуры, ня мае права зьмяніць прыгавар у бок павышэньня меры сацыяльнае абароны.

У выпадку, калі Пракуратурай будзе прынесен пратэст на неадпаведнасьць адзначанай прыгаварам суда першай інстанцыі меры сацыяльнае абароны зробленаму, Касацыйная інстанцыя павінна на падставе п. 4 арт. 413 Кр. Пр Код. прыгавар скасаваць і справу перадаць дзеля новага разгляду.

У мэтах устанаўленьня адзінства судовай практыкі ў гэтай галіне, Вярхоўны Суд павінен, па магчымасьці ў кароткі тэрмін, выдаць адпаведанае растлумачэньне.

**В. Гінцбург.**

## АБ СПРАШЧЭНЬНІ РАБОТЫ СУДОВА-СЬЛЕДЧАГА АПАРАТУ.

*(Даклад Нам. Народнага Камісара Юстыцыі тав. Эднэрала на нарадзе судовых, сьледчых, пракурорскіх і адміністрацыйных работнікаў гор. Менску 7-11|1-1928 года.)*

Тав. **Эднэрал** у сваім дакладзе адзначае, што сапраўды вельмі часта ў нашым апараце форма заядае сутнасьць. Гэта аб'ясьняецца тым, што пролетарыяту, калі ён узяў ў свае рукі ўладу, прышлося будаваць новы дзяржаўны апарат на чыстым месцы, ня маючы перед сабою гатовых форм. Першыя гады пасьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі пашлі на пабудову скялету нашага дзяржаўнага апарату, аб старанай абдзелцы яго некалі было думаць у той час. Па сканчэньні-ж грамадзянскай вайны, калі на першы плян выступіла гаспадарчае будаўніцтва, ва ўвесь рост было пастаўлена пытаньне аб надворнай аддзелцы нашага апарату. Кампартыя і савецкая ўлада паставілі перед сабой задачу зрабіць дзяржаўны апарат гібкім, танным і даступным шырокім масам насельніцтва. Нельга нам адмаўляць таго, што ў першыя гады нашага дзяржаўнага будаўніцтва мы карысталіся ў частковасьці і спадчынай старога апарату, і ў наша будаўніцтва пралезла многа нам чуждага. Наркамат Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі

*) Прыходзіцца выразіць толькі вялікую жаль, што Рэдакцыя „ВЕСЬЦЕЙ НКЮ“ не указала, што гэта думка толькі аўтара альбо самой рэдакцыі.

СССР на падставе маючыхся дырэктыў нашай партыі, ў асаблівасьці за апошні год заняўся пытаньнем рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату наогул і судовага апарату ў прыватнасьці.

Мы павінны цьвёрда і рашуча, ў цесным кантакце з Рабоча-Сялянскай Інспэкцыяй, пайсьці ў наступленьне на цяганіну, бюракратызм і галавацяпства.

НК РСІ Саюзу зрабіў абсьледваньне судовага апарату і пракуратуры паасобных губэрняй РСФСР і на падставе абсьледваньня вынес шэраг прапаноў, каторыя ў корані спрашчаюць судовую і пракурорскую работу. Пры абсьледваньні Рабоча-Сялянская Інспэкцыя выявіла невыстарчальную адказансьць судовага і пракурорскага апарату, і пагэтаму стала на шлях устанаўленьня большай адказнасьці судовых работнікаў.

Народны Камісарыят Юстыцыі, атрымаўшы матар'ялы НК РСІ СССР, неадкладна прыступіў да рэалізацыі іх, г. зн. да правядзеньня іх у жыцьцё. У сучасны момант Народны Камісарыят Юстыцыі ў значнай часьці ўжо выпаўніў прапановы НК РСІ СССР, а па астатніх прапановах распрацаваў адпаведныя законапраэкты. Якія-ж зьмены ў чыннае законадаўства ўносіць НКЮ на падставе прапаноў РСІ СССР і якія мерапрыемствы ўжо праведзены ў жыцьцё?

У галіне паляпшэньня тэхнікі процэсу Народным Камісарыят Юстыцыі дадзены ніжэйнаступныя дыроктывы:

а) справы ў судох назначаць да слуханьня адразу пры прыёме заяў і абвяшчаць старанам тут-жа пад расьпіску аб дні слуханьня справы;

б) позвы аб выкліку ў суд, як правіла, павінны высылацца поштай;

в) у позвах павінны паказвацца ня толькі інкрымініруемыя артыкулы КК, але і кароткая сутнасьць абвінавачваньня;

г) пры вырашэньні крымінальных спраў адразу-ж вырашаць усе пытаньні, якія зьвязаны па справе, адначасна з вынясеньнем прыгавору;

д) прапанована зьнішчыць пры вядзеньні судовага пасяджэньня ўжываньня строгіх юрыдычных тэрмінаў;

е) прыём скарг павінен рабіцца асабіста нарсудзьдзямі, пры чым скаргі павінны прыймацца і ў сьвяточныя базарныя дні;

ж) судзьдзям даецца, паводле новага проэкту Наркам'юсту, права самотна разьвязваць ніжэйнаступныя пытаньні: 1) устанаўліваць сьпіс сьведак і 2) вытрабоўваць дакумэнты і іншыя доказы. Дзеяньні судзьдзі па падрыхтоўцы справы да слуханьня абскарджваньню ў другую інстанцыю не падлягаюць, а могуць быць вырашаны пры слуханьні справы ў судовым пасяджэньні;

з) выносіць нематываваныя рашэньні, калі іск даказан;

і) карыстацца артыкулам 177 ГПК у выключных выпадках.

Апроч того дадзены судовым органам паказаньні аб недапусьцімасьці падвядзеньня пад артыкул аб хуліганстве такіх выпадкаў, каторыя падлягаюць разгляду суду ў парадку прыватнага абвінавачваньня;

к) справы павінны назначацца да слуханьня не пазьней 48 гадзін з моманту паступленьня справы, пры чым дадзены дырэктывы, каб тэрміны назначэньня спраў былі мінімальнымі, з падлікам часу неабходнага для ўручэньня позваў і зьбіраньня старанамі неабходных матар'ялаў.

Распрацован парадак назначэньня да слуханьня касацыйных спраў праз нарсудзьдзяў, а таксама назначэньня спраў да слуханьня ў нарсудох праз Міліцыю і сьледчы апарат.

У галіне падсуднасьці па распрацованаму НКЮ проэкту акруговым судом дадзена права са згоды пракурора перадаць любую справу на разгляд нарсуда, за выключэньнем тых спраў, па якіх магчыма дапасаваньне вышэйшай меры соцыяльнай абароны. Таксама дадзена судом права у выпадку, калі пры разглядзе справы выявіцца, што справа падсудна акруговаму суду, гэту справу разглядзець, але з тэй ўмовай, што мера соцыяльнай абароны не перавысіць вышэйшага разьмеру санкцыі першапачатковага абвінавачваньня. Па такога роду справах прыгавор нарсуда падлягае касацыі не ў акруговы суд, а ў Вярхоўны.

Побач з гэтым, згодна проэкту пашыраецца падсуднасьць нарсудоў па грамадзянскіх справах да 2000 руб. Таксама, як і па крымінальных справах, нарсудом даецца права разглядзець справу, калі ў судовым пасяджэньні выявіцца, што цана іску перавышае ўстаноўленую законам для разгляду ў нарсудзе. Рашэньні па гэтакіх справах падлягаюць абскарджваньню ў ГК Вярхсуду. Апрача таго, па проэкту нарсудам даецца права разглядаць цэлы шэраг іскаў дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, абгрунтованых, на бяспрэчнага характару, дакумэнтах, у парадку судовага загаду.

У галіне тэрмінаў вядзеньня сьледзтва распрацованы проэкты зьмены артыкулаў КПК, якімі ўстанаўліваюцца тэрміны дазнаньня сьледзтва: а) дазнаньне павінна закончавацца ў месячны тэрмін; б) сьледзтва —у двухмесячны тэрмін; в) пракуратуры для афармленьня спраў дадзен сямідзённы тэрмін.

Тэрміны-ж, устанаўліваемыя дзейнічаючымі артыкуламі КПК, ня зусім дакладны і даюць органам сьледзтва і дазнаньня магчымасьць утвараць зацяжку, бо да якога ліку сьледчых справа не пападала, кожны лічыць, што ён мае права трымаць справу ў пряцягу двох месяцаў. Новы праэкт ухіляе гэты парадак і ўстанаўляе цвёрдыя тэрміны, нягледзячы на тое, у колькіх органах сьледзтва і дазнаньня справа находзілася ў справавядзеньні. У выключных выпадках проэкт дае права пракуратуры асобна матываванай пастановай працягнуць тэрмін вядзеньня сьледзтва, але ня больш чым на адзін месяц.

У галіне выкліку сьведак і спрэчак старон: дзеля таго, каб даць суду магчымасьць ухіліцца празьмернага допыту сьведак, а таксама выслухоўваць бесканечныя спрэчкі старон, Наркамюстам распрацован проэкт, якім даецца права спыняць допыт сьвэдак за яснасьцю справы, а таксама ўстанаўляць рэглямэнт спрэчак старон.

У галіне спыненьня спраў новы проэкт у корані ломіць стары парадак: 1) распарадчыя пасяджэньні ва ўсіх судовых установах скасоўваюцца; 2) спыненьне ў нарсудох спраў, якія ўзнікаюць у парадку прыватнага абвінавачваньня, робіцца самотна нарсудзьдзёй; 3) справы, па якіх вядзецца сьледзтва, спыняюцца непасрэдна Пракуратурай і накіроўвацца ў суд не павінны. Такі-ж парадак устанаўляецца для спыненьня дазнаньняў, якія па новаму проэкту будуць спыняцца самастойна сьледчымі органамі.

Усе пытаньні, якія раней вырашыліся ў распарадчым пасяджэньні, па новаму праэкту, падлягаюць вырашэньню самотна судзьдзей, (нарсудзьдзяў членам акрсуду і членам Вярхсуду)

Апрача таго пашырана дзеяньне артыкула 4-а на справы прыватнага абвінавачваньня.

Скаргі на дзеяньні сьледчых і пракурораў па спыненьню справы прыносяцца выключна вышэйстаячай пракуратурай.

У галіне забясьпячэньня іскаў проэктам устанаўляецца парадак, згодна якога па алімэнтных справах і справах аб заработнай плаце

судовыя органы пры вырашэньні спраў абавязкова павінны ставіць пытаньне аб забясьпячэньні іскаў.

У галіне прымірэньня старон праэкт дапушчае прымірэньне толькі да ўнясеньня прыгавору. Апрача таго, праэкт устанаўляе, што справы па арт. арт. 103. 196 і інш. могуць быць спынены за прымірэньнем старон.

У галіне тэрмінаў абарочваньне прыгавораў ў выкананьне Наркамюстам распрацаванны наступныя проэкты:

1) Прыгаворы павінны абарочвацца ў выкананьне ў 48 гадзін пасьля ўступленьня прыгавору ў сілу па неарыштанскіх справах і ў 24 гадзіны па арыштанскіх справах.

2) Пашыран круг асоб, якія выконваюць рашэньне. Рашэньні могуць абарачвацца ў выкананьне судовымі выканаўцамі, сельскімі саветамі, міліцыяй і распарадчымі крэдытаў дзяржаўных, гаспада- рчых і каапэрацыйных органаў. Нагляд за сваечасовым выкананьнем рашэньняў памяненымі органамі па новаму праэкту ўскладзен на на- родных судзьдзяў. Усе паказаньні, якія будуць давацца нарсудзь- дзямі асобам, якія выконваюць рашэньне, зьяўляюцца для іх абавяз- ковымі. Такі парадак дасьць магчымасьць разгрузіць судовых выка- наўцаў ад выкананьня дробных рашэньняў і ўскорыць процэс выка- наньня рашэньня. Побач з гэтым Наркамюстам распрацавана, згодна прапановы РСІ СССР, такса аплаты за выкананьне дзеяньня органаў, выконваючых рашэньне.

У галіне адзінства касацыйнай практыкі Народным Камісарыятам Юстыцыі дадзены наступныя паказаньні:

1) арганізаваць пэрыядычныя нарады крымінальных і грама- дзянскіх аддзелаў акруговых судоў з народнымі судзьдзямі;

2) прапанована паглыбіць рэвізыйны парадак пры разглядзе гра- мадзянскіх і крымінальных спраў у касацыйным парадку;

3) разгарнуць шырэй практыку даваньня растлумачэньняў па выяўленых пры разглядзе касацыйных спраў парушэньнях праз пры- ватныя вызначэньні;

4) асьцярожна ўжываць арт. 419а КПК.

У галіне пашырэньня праў Пленуму Вярхоўнага Суду Калегія НКЮ не згадзілася з прапановай РСІ СССР аб прадастаўленьні Пле- нуму Вярхоўнага Суду права па хадайніцтву суду першай інстан- цыі самастойна зьмякчаць і зьмяняць прыгавор без уваходжаньня ў Прэзыдыум ЦВК.

Калегія НКЮ лічыць, што права зьмякчэньня і зьняцьця пака- раньня павінна застацца выключна за Прэзыдумам ЦВК.

У галіне перадачы паасобных спраў на разгляд адміністрацый- ных органаў маецца прапанова НК РСІ СССР, выключыць з ведань- ня судоў і перадаць на разгляд адміністрацыйных органаў справы аб хуліганстве учыненае ў першы раз. Калегія НКЮ з данай прапа- новай не згадзілася і лічыць, што справы аб хуліганстве павінны за- стацца ў веданьні судовых органаў.

У галіне зьмены артыкулаў Крымінальнага Кодэксу Калегія НКЮ не згадзілася таксама з прапановай НК РСІ аб зьмене арт. 172 КК у тым сэнсе, што калі пры разглядзе справы ў судзе будзе ўстаноў- лена, што ў даным выпадку маецца абаюдная абраза, суд павінен вынесьці абвінавальны прыгавор у адносіне абедзьвюх старон.

Калегія НКЮ лічыць, што калі згадзіцца з прапановай РСІ СССР, дык гэта ня дасьць нікаму магчымасьці па такіх справах заба- раняць свае інтарэсы ў крымінальным парадку.

Па пытаньні аб растратах і рэцыдывістых па крадёжах Народ-

ным Камісарыятам Юстыцыі дадзены яшчэ да атрыманьня прапаноў РСІ СССР паказаньні, якія вычэрпываючым чынам вырашаюць данае пытаньне. У адносінах злодзеяў-рэцыдывістых прапанована ўзмацніць рэпрэсію і ар. арт. 28 і 36 КК ужываць толькі ў выключных выпадках.

У галіне суцяжніцтва Наркамюстам распрацованы наступныя проэкты:

1) прысуджаць суцяжніка за карысьць другой стараны выдаткі, якія панесены ёй ў сувязі з суцяжніцтвам;

2) вясьці барацьбу з суцяжніцтвам прадстаўнікоў дзяржаўных установ шляхам прыцягненьня да адказнасьці і

3) у адносінах крымінальных спраў была ўключана ўвага да адпаведнага артыкулу КПК, якая дала-б магчымасьць суду накладаць на асоб, якія імкнуцца зацягваць справу, штраф у разьмеры 50 р. Але пры разглядзе проэкту ў Калегіі НКЮ, апошняя з гэтым не згадзілася і прапанавала даную ўвагу з проэкту выключыць.

У галіне культурных мерапрыемстваў Наркамюстам распрацоўваецца пытаньне аб разгрузцы судоў ад спраў прыватнага абвінавачваньня, якія ўзьнікалі галоўным чынам на грунце адсталых форм жыцьця.

У галіне агульнага нагляду Пракуратуры проэкт прадугледжвае: 1) утварэньне густой сеткі адміністрацыйна-праўных сэкцый пры гарсаветах; 2) паглыбленьне нагляду за выданьнем абавязковых пастаноў; 3) прысьпешыць парадак расьсьледваньня спраў, якія ўзьнікаюць у парадку скарг; 4) узмацніць удзел пракуратуры ў судовай рабоце; 5) устанавіць такі парадак, каб протэсты пракуратуры разглядаліся ў самы кароткі тэрмін; 6) расьсьледваньне па скаргах павінна пачынацца не пазьней, чым праз два дні; 7) пры расьсьледваньні скаргаў і заметак ухіляцца пісьмовых запытаньняў і выкарыстоўваць тэлефоны і жывую сувязь; 8) весьці жорсткую барацьбу з валакітай і бюракратызмам у галіне разгрузкі спраў у судовых органах.

Для таго, каб разгрузіць нарсуды ад дробных крымінальных і грамадзянскіх спраў НК РСІ ў вывадах па матар'ялах абсьледваньня судовых органаў РСФСР прапануе арганізаваць сельскія і мясцовыя суды. Наркамюстам распрацаваны паводле гэтых прапаноў проэкты палажэньня аб сельскіх і мясцовых судох:

а) Сельскія суды, паводле распрацованага НКЮ Палажэньня, павінны быць арганізаваны ў відзе вопыту ў паасобных раёнах. Сельскія суды павінны разглядаць справы з цаной іску да 15 руб. Склад суду ўтвараецца з 3-х членаў сельсавету. Нагляд за працай сельскіх судоў ускладаецца на пракуратуру і нарсудзьдзяў. Нарсудзьдзі, паводле проэкту, павінны рэвізаваць сельскія суды не радзей 1-га разу ў год. Інструкцыйныя паказаньні нарсудзьдзяў зьяўляюцца для іх абавязковымі. Нарсудзьдзям даецца права вытрабаваць справу з сельскіх судоў у парадку нагляду. Разьбірацельства спраў у гэтых судох публічнае і вуснае. Рашэньне сельскіх судоў выкладаюцца ў пісьмовай форме. Зьяўляецца канчатковым і падлягае неадкладнаму выкананьню. Нарсуду даецца права адмены рашэньняў сельскіх судоў, калі па справе дапушчана грубое парушэньне закону. Даецца таксама нарсудзьдзям права прыпыняць рашэньні сельскіх судоў, але ня болей, чым на 2 тыдні, у які тэрмін нарсудзьдзя абавязан вырашыць пытаньне аб адмене рашэньня ў парадку нагляду.

б) Мясцовыя суды арганізуюцца пры кожнай ўстанове, дзе маец-

ца штат ня менш 20-ці чалавек. Там, дзе штаты меншыя, адзін суд а^‘яднае некалькі ўстаноў. На мясцовыя суды ўскладаецца разгляд спраў, якія зьвязаны з падняцьцем працоўнай дысцыпліны ўстановы. Мерамі ўплыву на парушнікаў працоўнай дысцыпліны за ўчыненьне асобных відаў злачынстваў ўстанаўляюцца: штраф, выгавор, заўвага, зьверхурочныя працы, выкананьне пэўных работ і інш.

Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць, што ўстанаўленьне такіх форм суда, як сельскія і мясцовыя суды, дасьць вялікую эканомію ў сродках, разгрузіць нарсуды ад дробных катэгорый спраў, а таксама палегчыць насельніцтву яўку ў суд. Апрача таго, мясцовыя суды дадуць магчымасьць умацаваць працоўную дысцыпліну на прадпрыемствах і ўстановах, а таксама дасьць магчымасьць калектывам выхоўваць паасобных сваіх членаў.

У галіне разгрузкі залежай Наркамюст лічыць, што правядзеньне ў жыцьцё амністыі, выданай ў азнаменаваньне 10-ці годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі, увядзеньне сельскіх і мясцовых судоў, а таксама прадстаўленьне права нарсудом спыняць справы прыватнага абвінавачваньня за сілай арт. 4а КППК, прывядуць к паўнеспрыяючым вынікам.

У вагуле Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць, што прапановы Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ў корані вырашаюць пытаньне аб спрашчэньні судова-сьледчага і пракурорскага апарату і зьнішчаюць валакіту ў працы гэтых органаў. НКЮ лічыць прапановы РСІ СССР вельмі мэтазгоднымі, жыцьцёвымі і заклікае ўсіх судовых працаўнікоў к неадкладнаму правядзенью гэтых прапаноў ў жыцьцё.

---

### Заключнае слова.

Тов. **Эднэрал** у заключным слове зазначыў, што ў агуле проэкты Наркам‘юсту, распрацованыя на падставе матар‘ялаў РСІ, асобных папярэчаньняў не спаткалі. Асабліва гарачыя спрэчкі выклікала пытаньне аб сельскіх і таварыскіх судох. Па асобных пытаньнях можна зрабіць наступныя вывады.

Судовыя выканаўцы павінны быць пакінуты ў горадзе ў колькасьці 3-х чалавек, астатні штат павінен быць пярэдан міліцыі. Пакідаць судовых выканаўцаў ў раёне немэтазгодна, бо, нямаючы выездных сродкаў, яны фізычна пазбаўлены магчымасьці выконваць рашэньні, чым і аб‘ясьняецца вялікая колькасьць папрокаў на іх.

Міліцыя ў БССР ствіць высока, але нельга сказаць, што яна зусёй сьледчай работай справіцца. Маюцца прапановы ўтварыць судовую міліцыю, але я ў мэтазгоднасьць гэтай меры ня веру, цяжка ўтрымоўваць армію пры сьледчых. Мы павінны скараціць лік спраў, передаваемых сьледчым, пашыраўшы правы міліцыі.

Тав. **Кроль** прапануе перадаць разгляд спраў па дробных кражах міліцыі. Гэтага нельга прыняць. Памойму гэтыя справы можна таксама перадаць таварыскім судом.

Ня трэба баяцца сельскіх судоў, сельсаветам даручаюцца і большыя справы і з дробнымі іскамі яны справяцца. У ліку пярэчаньняў супроць сельскіх судоў было і тое, што яны парушаць стройнасьць нашай судовай сыстэмы. Але гэта не такая вялікая страта, за тое мы ня будзем мець выпадкаў, калі чалавек з-за 8-мі рублёў вымушан хадзіць 240 вёрст. Тварыскія суды прынясуць многа карысьці. Тав. Сільвікаў кажа, што для рабочых будуць горшыя суды ў калектывах, а для нэпмана будзе добры кваліфікаваны суд. Гэта напэў-

на ня так. Рабочагамы павінны выхоўваць у сваім калялктыве, а нэпмана будзе судзіць агульны суд.

Калі мы разгрузім нарсуды ад дробных спраў, ім прыдзецца вынесьці ня 2000 прыгавораў, а 300, але сапраўды сур'езных прыгавораў.

У адносінах рацыяналізацыі пракурорскай работы належыць адкінуць абсьледваньне больніц, школ і г. д. Трэба больш заняцца сьледчай, судовай і палітычнай працай.

Прапановай РСІ аб прадстаўленьне Вярхоўнаму Суду права самастойнага зьмякчэньня прыгавора, я ня згодзен.

Побач з рацыяналізацыяй судовага апарату стаіць пытаньне аб рэарганізацыі калегіі абаронцаў. Нам трэба знайці ўмовы, ў якіх-бы мы маглі працаваць з гэтай групай інтэлігэнцыі, каторая правяла за час існаваньня калегіі вялікую працу, і на гэту працу дзяржава не патраціла ні капейкі.

Пытаньне аб назначэньні спраў вельмі сур'ёзнае і супраціўленьня судзьдзяў процiў гэтага новаўвядзеньня дарэмны. Гэты вопыт дасьць вялікія вынікі ў галіне зьнішчэньня валакіты.

Справы аб хуліганстве, па мойму, можна перадаць у адміністрацыйныя органы. У адносінах меры пакараньня за хуліганства тав. **Радусьзянковіч** прапануе павялічыць ніжэйшую граніцу пакараньня да 1 месяца. Я з гэтым ня згодзен.

З суда належыць выключыць дэпозытныя і іншыя дробныя справы і гэта таксама дасьць вялікае спрашчэньне.

Па пытаньні аб суцяжніцтве я з Калегіяй НКЮ ня згодзен і лічу, што прыняцьце супроць сутяжнікаў рэпрэсійных мер неабходна.

Прысланы проэкт КПК многа скарочвае працу суда і ў корані зьнішчае валакіту. Мы павінны прыкласьці ўсе стараньні, каб яшчэ спрасьціць працэс. Але нам ня трэба станавіцца на шлях НКЮ РСФСР, каторы скараціў лік артыкулаў, але дабавіў да іх множства паясьненьняў і ўваг дробным шрыфтам.

---

# ВЫНІКІ ВЫВУЧЭНЬНЯ І ПРАВЕРКІ РАБОТЫ РЭАРГАНІЗАВАНАГА АПАРАТУ НАРКАМ'ЮСТУ БССР.

У мэтах вывучэньня работы, а таксама і вучоту дасягненьняў у галіне правядзеньня ў жыцьцё функцыянальнай сыстэмы ў рэарганізаваным 10-га чэрвеня 1927 г. апарату Наркамюсту, Эканомкамісіяй мясцкому, сумесна з прадстаўніком ад адміністрацыі, 1-га лютага 1928 г. было зроблена абсьледваньне апарату Наркамюсту, у выніку якога было ўстаноўлена:

Апарат НКЮ амаль што поўнасьцю пераведзен на функцыянальную сыстэму. Функцыянэры-выканаўцы, у сэнсе ўзгадненьня розных прынцыповых пытаньняў, падпарадкаваны альбо Наркому, альбо яго намесьнікам. Есьць выпадкі сападпарадкаваньня (у судовай інспэкцыі і часткай у Цэнтральнай Пракуратуры).

Функцыі разьмяркованы мэтазгодна. Пераблытанасьці іх няма. Аб'яднаньне канцылярскіх і тэхнічных функцыяў у адзіным сакратарыяце дала толькі адзін станоўчы бок, г. зн. устанаўленьне адзінай номэклятуры нарадаў для ўсяго Наркамату, падпарадкаваньне агульнай рэгістратуры аднэй асобе—сакратару НКЮ і разьмеркаваньне атрымліваемай карэспандэнцыі адпаведна функцыям.

Па сутнасьці працы—функцыянальнасьць у выкананьні розных даручэньняў і перапіскі тэхнічнымі працоўнікамі была і раней (да-

рацыяналізацыі). Новая сыстэма кіруючым складам установы ўсвоена. Распарадчыя дзейнічаньні кіраўнічага адміністрацыйнага пэрсаналу паскораны. Дзеля шпаркага прахаджэньня перапісак, запатрабаваньняў розных матар'ялаў ад установ і г. д., кіраўнічым адміністрацыйным пэрсаналам нададзены тэхнічным працоўнікам (сакратарам функцыянэраў-выканаўцаў) правы накіроўваць за сваім подпісам розныя запытаньні, запатрабаваньні і прапановы. Прахаджэньне папер, у сувязі з гэтым, значна палепшалася; затрымкі ў працы няма; перашкод да выкананьня няма. Па прынцыповых пытаньнях дзьве подпісі -функцыянэра з адміністрацыйнага пэрсаналу і функцыянэра—выканаўца.

Правы і абавязкі функцыянэраў з адміністрацыйнага пэрсаналу рэглямэнтаваны законам. (Палажэньне аб судабудаўніцтве). Правы-ж функцыянэраў-выканаўцаў залежаць (у сэнсе пашырэньня, альбо памяншэньня іх правоў) ад функцыянэраў з адміністрацыйнага пэрсаналу.

Абавязкі строга разьмежаваны ў адпаведнасьці з функцыямі асноўнай галіны працы, так: функцыянэры з адміністрацыйнага пэрсаналу маюць службовую сувязь непасрэдна з кіраўніком установы (Наркомам) альбо яго намесьнікам (у час адсутнасьці першага). Стары парадак падпарадкаваньня функцыянэра-загадчыку, а загадчыка Наркому больш ня існуе. Яны зносяцца з падведамственымі ўстановамі і акруговымі ўстановамі непасрэдна. Дырэктыўныя указаньні, цыркулярныя распараджэньні і розныя тлумачэньні даюцца непасрэдна функцыянэрамі з адміністрацыйнага пэрсаналу і падпісваюцца ім і функцыянэрам-выканаўцам.

Палажэньне і інструкцыя, рэглямэнтыруючыя работу і ўзаемаадносіны супрацоўнікаў, у сучасны момант ня маюцца, але ўжо распрацоўваюцца. Уведзеная функцыянальная сыстэма значна палепшыла працу і паскорыла вырашэньне розных пытаньняў.

Штаты зацьверджаныя і фактычныя не разыходзяцца. Нагрузка пэрсанала работай дастаткова. Пасьля рэарганізацыі апарату-нагрузка павялічылася. Выпадкаў найманьня часовых працаўнікоў, за выключэньнем архіварыўса, ня было. Звышурочныя работы па машынапісі і рэгістратуры маюць месца. Нагрузка машынага бюро вялікая. Перапіскі, заключэньні і іншая праца затрымліваюцца друкаваньнем да 7-10 дзен, з прычыны недахопу машыністак (было скарочана па рацыяналізацыі 3 машыністкі).

Усе штатныя адзінкі скарыстоўваюцца мэтазгодна і па непасрэднаму іх прызначэньню. Выпадкаў ненармальнасьцяў і пратэкцыянізму пры скарачэньні апарату (штату) у сувязі з рэарганізацыяй —ня было. У апараце застаўся сапраўды больш кваліфікаваны пэрсанал, з большым стажам работы, прыймаючы больш удзелу ў грамадзкай працы каляктыву і з меншай матар'яльнай забясьпечанасьцю. Гэта тлумачыцца дастатковай ўвязкай працы мясцкому з адміністрацыяй.

Скарочаныя ў сувязі з рэарганізацыяй апарату працоўнікі ўзяты на вучот. Адміністрацыяй і прафэсыйнай ячэйкай-мясцкомам (па згодзе), пры першай магчымасьці скарочаныя працоўнікі скарыстоўваюцца. Дагэтуль (з 10 чэрвеня да сёньняшняго дню) прыняты на сталую працу тры чалавекі.

З пераходам на функцыянальную сыстэму чоткасьць і тэмп работы ўстановы падняўся. Узаемаадносіны з падпарадкаванымі ўстановамі і іншымі ўстановамі спросьціліся. Паралелізм, загрузка ўзгадненьнямі і іншыя—выжыты.

Дубліраваньне працы сваіх акруговых органаў, а апошнія сваіх раённых органаў яшчэ маюць мейсца. Некаторыя з гэтых прац, як прагляд абавязковых пастаноў і акруговымі пракурорамі і цэнтральнай Пракуратурай павінны на некаторы час застацца. Гэта выклікаецца практыкай работы (апратэставаньне ўжо ўзгодненых з акрпракурорамі абавязковых пастаноў, асабістыя істотныя указаньні па іх, удасканаленьня пастаноў у адпаведнасьці з дзейнічаючым заканадаўствам). Накіраваньне сьледчых спраў у суды (нарсуды) і (акрсуды) спрошчана. Раней сьледчыя справы, падсудныя акрсуду, накіроўваліся да вучастковага пам. пракурора, праглядаліся ім і потым накіроўваліся да Акруговага Пракурора, якім таксама праглядалася (ужо паўторна) і потым толькі накіроўваліся ў суд. Цяпер гэта робіць толькі вучастковы пам. пракурора, паведамляючы акрпракурора аб накіраваньні справы ў суд. Рацыяналізавана і значна паскорана прахаджэньне сьледчых спраў.

Паралелізму паміж падпарадкаванымі ўстановамі ня было. Ліквідацыя раней быўшага некаторага паралелізму ў установе, удасканаленьне праў і абавязкаў асобных функцыянэраў дало значнае паскарэньне работы ў прахаджэньні розных пытаньняў. Застаўшыйся з прычыны цяжкасьці строгага разьмежаваньня абавязкаў між функцыянэраў (кансультантаў і агульным наглядам пракуратуры) паралелізм, выжыт шляхам асобнай дагаворанасьці і згаворанасьці па некаторых агульных пытаньнях адпаведных функцыянэраў. Колькасьць узгадненьняў з увядзеньнем функцыянальнай сыстэмы паменшылася.

З фактычна пераданых праў мясцовым органам трэба адзначыць:

а) перамяшчэньне вучастковых пам. пракурора ў межах акругі перадана акрпракурору;

б) назначэньне, перамяшчэньне і звальненьне вучастковых і старэйшых сьледчых—таксама;

в) зацьверджаньне народных судзьдзяў перадана Акрсудам і АВК (раней было НКЮ) і г. далей.

У бліжэйшы час Наркамюсту трэба: як мага хутчэй распрацаваць палажэньне, рэгуліруючае работу і ўзаемаадносіны супрацоўнікаў, перапрацаваць картачную сыстэму дзелаводзтва, якую ўвесьці ў жыцьцё на мясцох, а таксама яшчэ больш паглыбіць працу па спрашчэньні грамадзянскага і крымінальнага працэсу.

**А. Кіпарысаў.**

---

## АБ СПРАШЧЭНЬНІ ЗЯМЕЛЬНАГА СУДУ І НАБЛІЖЭНЬНЕ ЯГО ДА НАСЕЛЬНІЦТВА *)

Зямельны суд, зьяўляючыся адным з асноўных рэгулятараў зямельных адносін у вёсцы, дапасоўваючы і ажыцьцяўляючы зямельную палітыку Савецкага Ураду, тым самым усямерна ўмацоўвае асновы нацыяналізацыі зямлі, аднэй з асноўных задач, пацьверджаных XV Зьездам УсеКП(б) у рэзалюцыі аб працы ў вёсцы па дакладу т. Молатава.

Само сабою разумеецца, што спрашчэньне зямельнага суду непавінна адбіцца на якасьці яго работы ў справе ажыцьцяўленьня пастаноўленых перад ім задач.

У мэтах спрашчэньня зямельнага суду і набліжэньне яго да

*) Ад рэдакцыі: Зьмяшчаецца ў дыскусыйным парадку.

насельніцтва трэба паставіць пытаньне аб выняцьці пэўнага кругу зямельных спрэчак з веданьня Раённых Зямельных Камісій і аб перадачы іх на вырашэньне сельскага савету, каторы і павінен стаць ніжэйшай ячэйкай зямельнага суду.

Якія-ж зямельныя справы можна ў нас, у БССР перадаць на вырашэньне сельскіх саветаў?

Аднак раней неабходна сказаць пару слоў аб тым, як справа абстаіць паводле чыннага заканадаўства БССР.

Дзеючае палажэньне аб сельскіх саветах БССР ад 3-га ліпеня 1925 г. (З. З. БССР за 1925 г., № 31, арт. 291) у п. „п“ арт. 16 паказвае, што сельскі савет „Папярэдня разглядае паасобныя зямельныя спрэчкі між грамадзянамі на падставе асобных на тое інструкцый цэнтральнай улады, а таксама вырашае ўсе дробныя зямельныя спрэчкі ў тых выпадках, калі магчыма добраахвотная згода спрачаючыхся“.

Неабходна адзначыць, што „асобныя інструкцыі“, аб каторых упамінаецца ў вышапрыведзеным п. „п“ арт. 16 Палажэньня аб сельсаветах, да сучаснага моманту ня выданы. Такім чынам, паводле дзеючага законадаўства БССР сельскія саветы ня маюць права вырашаць у *прымусовым парадку* зямельныя спрэчкі, а могуць толькі вырашаць дробныя зямельныя спрэчкі, калі магчыма добраахвотная згода спрачаючыхся.

Ітак, якія-ж справы можна выняць з веданьня Раённай Зямельнай Камісіі і перадаць на вырашэньне сельскага савету.

Перш за ўсё іскі аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня ў спрошчаным парадку разгляду спраў аб законах зямлі (увага 3 да арт. 199 Зям. Код.); потым іскі членаў двара ў парадку арт. 84 Зям. Код. аб выплаце ім грашыма або натурай за прылічаючуюся ім долю маемасьці. Нарэшце, сельсаветам трэба перадаць таксама іскі непрацаздольных старыкоў, членаў двара, к апошняму аб прысуджэньні ім сродкаў на ўтрыманьне ардынарыі, іскі аб тым-жа малалетніх членаў двара ў асобе іх апякунаў, калі сумеснае жыцьцё іх у двары з астатнімі членамі двара немагчыма.

Наогул аб магчымасьці падаваньня непрацаздольнымі і малалетнімі членамі двара к апошняму, як такавому, іскаў аб сродках на ўтрыманьне, ардынарыі, трэба мець на ўвазе наступнае:

Паводле Зямельнага Кодэксу, сялянскі двор,—гэта невялікі першапачатковы калектыў, у каторым кожны яго член мае права на ідэальную долю яго маемасьці. Асабістасьць юрыдычнага становішча маемасьці агульнага карыстаньня двара і заключаецца, паводле арт. 65 Зям. Код., у тым, што яна прыналежыць усім членам двара *„у поўным яго складзе“* непадзельна без вызначаных долей удзелу ў агульнай маемасьці паасобных членаў. Уся маемасьць агульнага карыстаньня двара: сельска-гаспадарчы інвэнтар, будова, ураджай і г. д. прыналежыць усім членам двара, як адзінаму суб‘екту, чаму паасобны член двара ня можа прадаць або наогул адчужаць сваё права на агульную маемасьць. Да маемасьці агульнага карыстаньня сялянскага двара не дапасавальны арт. арт. 61—65 Грамадзянскага Кодэксу, развражаючыя аб агульнай уласнасьці, каторая прызнае пэўныя долі ўдзельнікаў і дапушчае адчужэньне гэтых долей. Досыць трапна і вобразна характарызуе маемасныя адносіны членаў двара праф. Мартынаў у сваёй брашуры „Земельный строй и земельные отношения РСФСР“ (Издание Наука и Школа 1925 г.). Ён зазначае: „маемасныя адносіны членаў двара можна характарызаваць, як злучнае права данай групы асоб на маемасьць працоўнай гаспадаркі.

Гэта ёсьць канкурыруючыя раўнаважныя правы на адну і тую-ж маемасьць. Кожны член двара мае поўнае права на ўвесь маемасны склад двара, паколькі яно не сьцясняецца і ня церпіць сьцясьненьня з прычыны раўнасільнага яму права другога члена. Гэта правамоцтва, сьціскаючыся пад націскам канкуруючага права, расшыраецца да поўных граніц пры адпадзеньні гэтага апошняга".

Толькі пры падзелах ідэальная доля члена двара на маемасьць агульнага карыстаньня атрымоўвае канкрэтную рэальную форму ў відзе выдзелу яму пэўнай часьці гэтай маемасьці.

З сказанага аб юрыдычным становішчы сялянскага двара, паводле чыннага законадаўства, відаць, што двор ёсьць свайго роду першапачатковы калектыў.

Хоць малалетні ў сілу сваіх фізычных асаблівасьцяй і ня можа працаваць у гаспадарцы, але ён, як раўнапраўны член двара (калектыву), мае права трэбаваць ад апошняга яго ўтрыманьня.

Калі-ж члены двара ствараюць немагчымыя ўмовы для малалетняга для сумеснага жыцьця, дык трэба мяркаваць, што малалетні ў асобе сваёй апекі мае права падаць іск аб прысуджэньні яму з двара, як такавога, членам каторага ён зьяўляецца, сродкоў на утрыманьне тым больш, што па сэнсу арт. 73 Зям. Код. асобы, якія не дасягнулі 18 летняга ўзросту, ні асабіста, ні праз сваіх апякуноў ня маюць права патрабаваць падзелу двара. Па тых-жа падставах таксама і непрацаздольныя старонкі, члены двара, у выпадку немагчымасьці ўтварыць самастойную жыцьцёвую гаспадарку і недапусьцімасьці падзелу за сілаю арт. 72 Зям. Код., калі яны не жадаюць выйсьці з гаспадаркі ў парадку арт. 84 Зям. Код. між тым супольнае іх жыцьцё ў двары немагчыма, мае права падаць да двара, як такавому, у асобе яго гаспадара іск аб сродках на ўтрыманьне, андынарыі нават і ў тым выпадку, калі паводле кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы, гаспадар і астатнія члены двара іх не павінны ўтрымоўваць. Гэта знаходзіць у сабе, у прыватнасьці, пацьверджэньне таксама ў увазе 2 да арт. 21 Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы, каторы кажа, што маемасныя правы і абавязкі сўпругаў— працоўных землякарыстальнікаў рэгулююцца Зямельным Кодэксам, і ў увазе да арт. 62 таго-ж Кодэксу, паводле каторага маемасныя правы і абавязкі бацькоў і дзяцей у складзе сельскага двара ўстанаўляюцца адпаведнымі артыкуламі Зям. Кодэксу.

Што тычыцца падсуднасьці паказаных іскаў членаў двара аб прысуджэньні ім з апошняга андынары, дык гэта пытаньне вычэрпываючага адказу ў чынным заканадаўстве не знаходзіць.

Калі падыйсьці вузка фармальна да вырашэньня гэтага пытаньня, дык паколькі падсуднасьць зямельных камісій зьяўляецца спэцыяльнай і наколькі арт. арт. 199 і 200 Зям. Код. разважаючымі аб падсуднасьці зямельных камісій, а таксама арт. арт. 19 і 20 інструкцыі Наркамзему зямельным камісіям аб парадку вядзеньня ў іх зямельных спраў ад 11 сьнежня 1928 г. разважаючымі аб тым-жа, паказаныя іскі не прадугледжаны, дык апошнія падсудны народнаму суду.

Аднак, маючы на ўвазе, што паказаныя іскі абгрунтоўваюцца не на Кодэксе Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, а на адпаведных артыкулах Зямельнага Кодэксу і прыймаючы пад увагу арт. 79 Зям. Код. у новай рэдакцыі, належыць усё-ж прыйсьці да вываду, што такога роду справы падсудны зямельным камісіям.

Я мяркую, што паказаныя іскі членаў двара аб прысуджэньні ім андынарыі можна бесхваробна перадаць на вырашэньне сельсавету,

каторы, знаючы мясцовыя бытавыя ўмовы, падлічыць моцнасьць двара, яго штогодны прыбытак, а таксама неабходны для малалетніх і непрацаздольных старыкоў пражытачны мінімум.

Ітак, я лічу, што ў відзе вопыту можна на вырашэньне сельскіх саветаў перадаць іскі аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня ў спрошчаным парадку, іскі, якія падаюцца членамі двара ў парадку арт. 84 Зям. Код. і, нарэшце, іскі малалетніх (у асобе іх апякуноў) і непрацаздольных старыкоў аб прысуджэньні ім з двара андынарыі.

Каб ухіліцца судовай валакіты і каб не передаваць сельсаветам на новы разгляд спраў пры неабходнасьці адмэны рашэньняў сельсаветаў трэба ўстанавіць, каб апошнія маглі быць абскарджаны ў Раённую Зямельную Камісію не у касацыйна-рэвізыйным парадку, які парадак установлен у УССР, згодна пастановы Ўсе УЦВК, і СНК УССР аб зьмене і дапаўненьні Зямельнага Кодэксу УССР ад 27 чэрвеня 1927 г., а ў касацыйна-апэляцыйным парадку па аналёгіі з установленым, паводле чыннага заканадаўства БССР, парадкам разгляду ў Акруговых Зямельных Камісіях скаргаў на рашэньне Раён. Зем. Кам. Гэта значыць, што Раённым Зямельным Камісіям пры разглядзе скарг на рашэньні, пастанаўленьне сельсаветамі павінна быць дадзена права таксама разглядаць справу па сутнасьці, дапытваць сьведак, уваходзіць у ацэнку доказаў і. г. д. і вынасіць рашэньне па сутнасьці.

Рашэньні Раённай Зямельнай Камісіі па такіх-жа справах павінны быць канчатковымі без права абскарджаньня іх у інстанцыйным парадку. Павінна быць дадзена магчымасьць абскарджваць такія рашэньні толькі ў парадку нагляду ў асобую Камісію Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

Рашэньні па зямельных спрэчках, якія перадаюцца на разгляд сельсаветаў, павінны пастанаўляцца апошнімі не на пленуме або прэзыдыумам сельсавету, а асобнай камісіяй пры старшыне або члене сельсавету ў складзе трох чалавек.

У мэтах набліжэньня зямельнага суду да насельніцтва трэба ня толькі часьць функцый раённых зямельных камісій ў галіне вырашэньня зямельных спрэчак перадаць сельсаветам, але таксама павялічыць падсуднасьць РЗК за конт Акруговых Зямельных Камісій.

Так, напрыклад, паводле чыннага заканадаўства (п. „а“ арт. 200 Зям. Код.), зямельныя спрэчкі, у каторых адной з старон зьяўляецца дзяржаўная або грамадзкая ўстанова, падсудны ў першай інстанцыі Акруговай Зямельнай Камісіі, між тым, такія справы (за выключэньнем тых, каторыя зьвязаны з выкарыстаньнем дзяржаўных маемасьцяй) могуць быць без усякай шкоды як у адносінах правільнага вырашэньня іх, так і ў адносінах абароны дзяржаўных і грамадзянскіх інтарэсаў перададзены на вырашэньне Раённ. Зем. Кам. у якасьці першай інстанцыі. Адсюль запытаньне, няўжо-ж ня здолее РЗК вырашыць спрэчку між сельсаветам або сялянскім камітэтам узаемадапамогі, з аднаго боку, і грамадзянінам, з другога боку, напрыклад, аб некалькіх гэктарах зямлі. Дзе тут складанасьць пытаньня ў параўнаньні з іншымі справамі, каторыя РЗК разглядае.

Нарэшце, у сувязі з пытаньнем аб набліжэньні зямельнага суду да насельніцтва, лічу неабходным затрымацца на наступным пытаньні, а менавіта, ці мэтазгодна часьць функцый асобай калегіі вышэйшага кантролю па зямельных справах у галіне разгляду зямельных спраў у парадку нагляду перадаць акруговым зямельным камісіям У УССР агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю зямельных камісій, а

таксама сельскіх саветаў па разгляду зямельных спрэчак і разгляду скарг у парадку нагляду на рашэньні іх асяродкаваны ў Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

У РСФСР-ж., паводле арт. 215 Зям. Код. у рэдакцыі пастановы Усе ЦВК і СНК РСФСР ад 6 сьнежня 1927 году („Изв." ад 22 сьнежня 1927 г. № 293), часьць функцый АКВК у адносінах разгляду зямельных спраў у парадку нагляду перадана губэрнскім зямельным камісіям, а менавіта апошнія выращаюць у парадку нагляду скаргі і пратэсты службовых асоб, прынасімыя на вызначэньні і ўступіўшыя ў законную сілу рашэньні валасных зямельных камісій, а таксама на вызначэньні і рашэньні панятовых зямельных камісій, пастаноўленыя імі ў якасьці другой інстанцыі.

Маючы на ўвазе, што аднастайнае дапасаваньне і тлумачэньне закону настойліва патрабуе асяродкаваньня агульнага кіраўніцтва работаю зямельных камісій, у тым ліку і разгляд скарг у парадку нагляду на рашэньні апошніх у адным цэнтры, меркаваў-бы нямэтазгодным перадаць у нас у БССР акруговым зямельным камісіям часьць функцый Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па разгляду ў парадку нагляду скраг і пратэстаў на ўступіўшыя ў законную сілу рашэньні зямельных камісій тым больш, што і ў тэрыторыяльных адносінах гэта ня выклікаецца неабходнасьцьцю, як у РСФСР.

**Д. Гарцман.**

## ЗЯМЕЛЬНЫ СУД.

За час з 1 кастрычніка 1926 г. па 1 кастрычніка 1927 г. у праізводзтве 104 раённых, 8 акруговых зямельных камісій і Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах БССР было спрэчна-зямельных 36.483, землеўпарадчых 10.718 і мэліарацыйных 11, а ўсяго 47.212 спраў.

Ніжэй прыводзіцца табліца, з якой відаць, наколькі павялічылася і палепшылася (+), ці паменьшылася і пагоршысаля (—) работа зямельнага суду ў справаздачным годзе параўнальна з папярэднім 1926 г. Безадносныя лічбы 1926 г. прымаюцца за 100 проц., а адносныя (проценты) раўнаюцца непасрэдна:

| № | Галіна працы. | 1926 г. | 1927 г. | Проц. узросту. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | У пачатку апэрацыйнага году было нявырашаных спраў . . . . | 5071 | 5681 | +12 |
| 2 | Паступіла за год новых спраў . . | 34107 | 41531 | +22 |
| 3 | Усяго падлягала вырашэньню . . | 39178 | 47212 | +20 |
| 4 | Вырашана за год спраў . . . | 32577 | 38841 | +19 |
| 5 | Засталося нявырашаных спраў у канцы году . . . . . . . | 6601 | 8371 | —27 |
| 6 | З ліку нявырашаных спраў знаходзілася ў праізводстве звыш 3 месяцаў . | 949 | 1137 | —19 |
| 7 | Процант аскарджэньня . . . | 25 | 24 | + 1 |

| № | Галіна працы. | 1926 г. | 1927 г. | Проц. узросту. |
|---|---|---|---|---|
| 8 | Процант адмены пастаноў зямельных камісій . . . . . . | 49 | 41 | + 8 |
| 9 | Процант абрэвізаваньня за год зямельных камисій . . . . | 34,5 | 37,5 | + 3 |
| 10 | Лік распараджэньняў Асобай Калегіі па селькораўскіх артыкулах у друку . | 80 | 98 | +22 |
| 11 | Распрацована прынцыповых пытаньняў, якія выявіліся ў практыцы зямельных ворганаў . . . . . | 120 | 98 | —18 |
| 12 | Па прапанове АКВК яе працаўнікамі зьмешчана ў часопісах артыкулаў у галіне зямельнага права . . . | 16 | 24 | +50 |

Табліца гэта паказвае, што ў справаздачным годзе параўнальна з папярэднім значна павялічыўся лік спраў, якія падлягалі разгляду зямельнага суду БССР. Хоць зямельныя камісіі разглядзелі ў гэтым годзе больш спраў, чым у 1926 г., аднак яны ня здужалі вырашыць усе паступіўшыя справы. З гэтае прычыны лік неразгледжаных спраў у канцы справаздачнага году значна павялічыўся параўнальна з яго пачаткам. Павялічыўся таксама ў канцы году лік нявырашаных спраў, якія знаходзіліся ў праізводтве звыш 3 месяцаў.

Няўпраўку гэтую дало скарачэньне штатаў акруговых зямельных камісій. У прыватнасьці, скасаваньне пасады дзелавода вельмі дрэнна адбілася на інтарэсах насельніцтва. У дні пасяджэньняў зямельнай камісіі сакратар сядзіць у судзе, а канцэлярыя зачынена. Сяляне, якія па сваіх справах прыяжджаюць у акруговую зямельную камісію, мусяць па некалькі дзён траціць у горадзе, альбо ні з чым варочацца да хаты.

Зусім ненармальным зьяўляецца становішча ў Менскай, Магілёўскай і Варшанскай зямельных камісіях. Яны не спраўляюцца з разглядам тэй масы зямельных спраў, якія да іх паступаюць. Менская акруговая зямельная камісія ў справаздачным годзе таксама, як і ў папярэднім, дае найбольшы процант (28) звароту спраў у раёнfamnyя зямельныя камісіі для новага разгляду, чым парушае арт. 167 працэсуальнай інструкцыі.

З раённых зямельных камісій найбольш нявырашаных спраў (20 проц.) у канцы году мелі камісіі Менскай і Мазырскай акруг, а найбольшы процант аскарджэньня пастаноў далі раённыя зямельныя камісіі Варшанскай і Полацкай акруг. Самы высокі процант адмены пастаноў (56) прыходзіцца на райземкамісіі Гомельскай акругі, г. зн., што работа іх патрабуе сталага інструктаваньня і рэвізыі. У такім сама, амаль, становішчы знаходзяцца зямельныя камісіі Магілеўскай і Мазырскай акруг.

Што-ж тычыцца да якасьці пастаноў зямельнага суду, наогул, дык яна ў гэтым годзе палепшылася. Зьменшыўся процант аскарджэньня яго пастаноў і процант адмены іх вышэйшымі інстанцыямі.

Гэта сьведчыць, што насельніцтва здаволена работай зямельнага суду і што ён у гэтым годзе больш правільна вырашае падсудныя яму справы.

Пастановы зямельных камісій адмяняюцца ў інстанцыйным парадку ня толькі па фармальных падставах, г. зн. з прычыны парушэньня працэсуальных правілаў, а галоўным чынам з прычыны парушэньня норм матар'яльнага права. У гэтых адносінах вышэйшыя інстанцыі строга праводзяць у сваіх пастановах зямельную палітыку і клясавую лінію, якія адбіваюцца ў зямельным законадаўстве.

У праізводстве зямельнага суду БССР у справаздачным годзе былі 2 аснаўныя групы спраў—спрэчна-зямельныя і земляўпарадчыя. З агульнага ліку 36.483 спраў першай катэгорыі больш за ўсё было сямейна-маёмасных падзелаў сялянскіх гаспадарак—35 проц. і захопаў зямлі—31 проц. З агульнага ліку 10.718 земляўпарадчых спраў прыходзіцца на землянадзяленьне 42 проц., абрэзку буйных гаспадарак 24 проц. і ўнутрывязковае земляўпарадкаваньне 19 проц. Лічбы гэтыя сьведчуць аб вялікім імкненьні сялянства да падзелу гаспадарак і захопаў зямлі, процi чаго павінны быць прыняты належныя захады.

Земляўпарадкаваньне ў БССР пакуль што накіравана галоўным чынам на падзел сярод беднякоў дзяржаўнага занаснага фонду і адабраньне лішкаў зямлі ад буйных гаспадарак. Гэтыя мерапрыемствы, якія арганізавана раўняюць землякарыстаньне, павінны дапамагчы разьвіцьцю ўнутрывясковага земляўпарадкаваньня.

З паасобных акруг больш за ўсё даюць спраў аб падзелах сялянскіх гаспадарак Менская, Гомельская і Магілёўская акругі. Захопы зямлі пануюць у Мазырскай акрузе, дзе зусім мала чыста земляўпарадчых спраў. Апошнія добра пашыраюцца ў Гомельскай акрузе. Адабраньне лішкаў зямлі аб буйных гаспадарак ідзе галоўным чынам у Менскай і Аршанскай Акругах, землянадзяленьне ў Мазырскай і Бабруйскай.

Каб высьвятліць пытаньe, які лік насельніцтва абслужыў зямельны суд ў мінулым годзе, трэба мець на увазе, што у сярэднім на спрэчна-зямельную справу прыходзіцца 1,5, а на земляупарадчую 8 двароў, пры чым сярэдні склад двара 4 асобы, якія пішуць аб гэтым у сваіх справаздачах зямельныя камісіі. Такім чынам будзем мець, што ў спрэчна-зямельных справах прымалі ўдзел 54.725 двароў, альбо 218.900 асоб, а ў земляўпарадчых справах, 84.744 двара ці 342.976 асоб.

Сацыяльнае становішча ісцоў у супрэчна-зямельных справах будзе такім: беднякоў 46 проц., сераднякоў 46 проц., заможных 2 проц. і іншых 2 проц. (установы і арганізацыі). У земляўпарадчых справах удзельнічае 37 проц. беднякоў, 46 проц. сераднякоў, 15 проц. заможных (абрэзка іх гаспадарак) і 2 проц. іншых.

Для палепшаньня пастаноўкі зямельнага суду патрэбны наступныя мерапрыемствы:

а) Рэарганізацыя зямельнага суду дзеля прыбліжэньня яго да насельніцтва. У гэтых мэтах трэба было-б зьмяніць у законадаўчым парадку падсудасьць Асобай Калегіі і зямельных камісій, аслабаніць іх ад шэрагу зямельых спраў, перадаць апошнія на разгляд зямельных камісій з судовымі функцыямі пры сельскіх саветах і забяспечыць іх неабходнымі сродкамі.

б) Пакуль ня будзе рэарганізаваны зямельны суд, трэба узмацніць дзеяльнасьць яго інстанцый. У гэтых мэтах трэба аслабаніць старшыню раённай зямельнай камісіі ад усякіх другіх абавязкаў. Сумяшчэньне ў аднэй асобе пасад загадчыка зямельнага стала раеннага выканаўчага камітэту і старшыні райземкамісссіі даводзіць да прыпыну яе работы. У акруговых зямельных камісіях і Асобай Калегіі неабходна павялічэньне складу адпаведна з колькасьцю у іх працы.

в) Падняцьце кваліфікацыі працаўнікоў зямельных камісій праз арганізацыю для іх кароткатэрміновых курсаў перападрыхтоўкі і забясьпячэньне камісій літаратурнай па зямельнаму праву.

г) Бязупыннае інструктаваньне і паверка працы зямельных камісій праз рэвізіі на месцы, бо толькі 27 проц. пастаноў раённых зямельных камісій аскаргоўваецца у акруговыя зямяльныя камісіі, а для апошніх процэнт абскарджэньня паніжаеецца да 17. У сярэднім-жа 76 прац. вырашаных зямельным судам пастаноў застаецца не праверанным у інстанцыйцым парадку за адсутнасьцю скарг і пратэстаў на зробленыя постановы. Адсутнасьць скарг далёка не заўсёдю сьведчыць аб палітычнай правільнасьці рашэньняў. Дзеля гэтага праверка неабскарджаных постаноў зямельнага суду можа быць ажыцьцяўлена толькі праз рэвізыі на месцы.

**Вішнеўскі А.**

---

## ПРАЦА РАЁННЫХ ЗЯМЕЛЬНЫХ КАМІСІЙ У 1928 г.

Да 1-га кастрычніка 1926 функцыянавала ў БССР сто раённых зямельных камісій. Пасьля ўзбуйненьня БССР за лік Гомельскага і Рэчыцкага паветаў з пачатку 1927 г. стала дзейнічаць 118 раённых камісій. Потым пасьля скасаваньня 14 раёнаў з 15 чэрвеня 1927 г. функцыянуюць 104 раённыя зямельныя камісіі, прыняўшы ў свае вядзеньне справы скасованых камісій.

З пададзеных раённымі зямельнымі камісіямі зьвестак дзейнасьць іх у справаздачным годзе прадстаўляецца ў наступным відзе.

У справавядзеньні ўсіх раённых зямельных камісій да 1-га кастрычніка 1926 г., засталося ня вырашаных 2827 спрэчна-зямельных і 614 земляўпарадчых, усяго 3441 спраў. У справаздачным годзё зноў паступіла на разгляд раённых зямельных камісій 22.325 спрэчна-зямельных і 4437 земляўпарадчых, усяго 26.762 справы. Такім чынам у справавядзеньні ўсіх раённых зямельных камісій ў справаздачным годзе было 25.152 спрэчна-зямельных і 5051 земляўпарадчых, а ўсіх наогул 30203 справы. У сярэднім, значыць, на кожную раённую зямельную камісію прышлося ў год па 290 справы.

Разгледжана за справаздачны час ўсімі раённымі зямельнымі камісіямі 20898 спрэчна-зямельных і 4415 земляўпарадчых, а ўсяго 25313 спраў, г. зн.: ў сярэднім кожная раённая зямельная камісія разгледзіла за год па 243 справы.

Засталося неразгледжаных у вядзеньні раённых зямельных камісій 4254 спрэчна-зямельных і 636 земляўпарадчых, а ўсяго 4890 спраў, што складзе 16 проц. усіх спраў, якія знаходзяцца ў справавядзеньні. Залеж не разгледжаных раённымі зямельнымі камісіямі спраў павялічыўся за год на 1449 спраў. З агульнага ліку 4890 ня вырашаных спраў—659, г. зн. 13 проц. знаходзілася ў справаводстве больш 3-х месяцаў.

Калі параўнаць працу раённых зямельных камісій ў справаздачным годзе з папярэднімі гадамі, то акажацца:

| ГОД | На працягу году было спраў | | К канцу справаздачнага году засталося нявырашаных спраў | % ня вырашаных да агульнага ліку спраў. знаходзячыхся ў справавядз. |
|---|---|---|---|---|
| | У справавядзеньні | Вырашана | | |
| 1924 | 21987 | 19069 | 2918 | 13 |
| 1925 | 20358 | 17450 | 2908 | 14 |
| 1926 | 24286 | 20456 | 3830 | 15,8 |
| 1927 | 30203 | 25313 | 4890 | 16,2 |

Такім чынам ў справаздачным годзе адбылося значнае павялічэньне ліку спраў, паступіўшых ў справаводзтва раённых зямельных камісій і вырашаных імі. Рэшта-ж нявырашаных спраў, хоць і павялічалася, але мала зьмянілася параўнальна з мінулым годам у процантных адносінах к агульнаму ліку спраў, якія знаходзяцца ў справавядзеньні.

З разгледжаных у справаздачным годзе раённымі зямельнымі камісіямі 20898 спрэчна-зямельных спраў абскарджана ў акруговыя зямельныя камісіі 5003 справы, г. зн. 25 проц., процант-жа абскарджваньня рашэньняў раённых зямельных камісій па земляўпарадчых справах значна вышэй—складае 36 проц., бо з 4415 разгледжаных раённымі зямельнымі камісіямі гэтага роду спраў абскарджана ў інстанцыйным парадку 1568. У агульнай-жа суме 25313 вырашаных раённымі зямельнымі камісіямі спраў ўсіх катэгорый абскарджана 6871, што дасьць 27 проц. абскарджаньня супроць 28 проц. за папярэдні апэрацыйны год. Зьнізіўся ў справаздачным годзе таксама процант адмены рашэньняў раённых зямельных камісій з боку акруговай ў параўнаньні з папярэднім годам з 50 да 41 проц. Лічбы гэтыя сьведчаць аб большым усваеньні райземкамісіямі зямельнага заканадаўству, павышэньні ў сувязі з гэтым якасьці іх працы, каторая адначасна ў большай меры, чым раней, стала здавальняць інтарэсам насельніцтва.

Супастаўленьне працы раённых зямельных камісій ў справаздачным годзе па паасобных акругах дае наступныя лічбы.

| АКРУГІ | Лік РЗК | Усяго было ў справаводзтве РЗК спраў | Вырашана спраў | Засталося ня вырашаных спраў | % нявырашаных спраў | З ліку выраш. спраў абскар. у АЗК | % абскардж. спраў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйск. . | 14 | 4247 | 3693 | 554 | 13 | 1047 | 28 |
| Віцебск. . . | 12 | 3860 | 3226 | 634 | 16 | 783 | 24 |
| Гомельск. . | 10 | 1934 | 1604 | 330 | 17 | 479 | 30 |
| Менская . . | 17 | 5550 | 4447 | 1103 | 20 | 1336 | 30 |
| Магілеўск. . | 16 | 5029 | 4318 | 711 | 14 | 1013 | 23 |
| Мазырск. . | 11 | 3246 | 2584 | 662 | 20 | 521 | 20 |
| Аршанск. . | 14 | 3700 | 3189 | 511 | 14 | 992 | 31 |
| Полацк. . . | 10 | 2637 | 2252 | 385 | 15 | 700 | 31 |
| РАЗАМ: | 104 | 30203 | 25313 | 4890 | 16 | 6871 | 27 |

З табліцы гэтай відаць, што найбольшая залеж нявырашаных спраў маецца ў раённых зямельных камісіях Менскай і Мазырскай

акругі, а найбольшы процант абскарджаньня, вынасімых райземкамі-
сіямі рашэньняў, прыходзіцца на Полацкую, Аршанскую і Менскую
акругі. Калі пры гэтым мець на ўвазе, што па Менскай і Мазырскай
акругах, як гэта відаць з справаздачы па акруговых зямельных ка-
місіях, досыць высокі процант адмены імі рашэньняў райземкамісіі,
то прыдзецца зрабіць вывад аб нездавальняючай пастаноўцы справы
ў першай інстанцыі зямельнага суду, галоўным чынам па Менскай
акрузе.

Знаходзячаяся ў справаздачным годзе ў справаводзтве раённых
зямельных камісій справы па катэгорыях падзяляюцца наступным
чынам: з агульнага ліку 25152 спрэчна-зямельных спраў было 9046
сямейна-маемасных падзелаў, 1783 іскі аб выплатах пры выходзе
членаў з недрабімага двара, 2030 іскаў аб вастанаўленьні паруша-
нага землякарыстаньня і спрошчаным парадку судаводзтва, 5682
іншых зямельных захопаў, 2090 іскаў аб выключэньні зямлі з пра-
цоўнага карыстаньня, 557 спрэчак аб працоўнай арэндзе зямлі, 104
скаргі на прыгаворы сходаў, 28 скарг на сельскі савет па арт. 70
Зем. Кодэксу, 437 спрэчак аб дарогах і прагонах, 11 спрэчак аб пра-
ве карыстаньня водамі, 4183 сраў іншых катэгорый. Такім чынам з
ліку спрэчна-зямельных спраў больш усяго ў справаводзтве раённых
зямельных камісій было спраў аб сямейна-маемасных падзелах сяля-
нскіх гаспадарак 36 проц., аб усякіх парушэньнях чужога земляка-
рыстаньня 30 проц. і іншых спраў 16 проц.

У справаздачным годзе таксама як і ў ранейшыя ў справаводз-
тве раёных зямельнх камісій больш усяго было спраў аб сямейна-
маемасных падзелах сялянскіх гаспадарак, хоць пастановай Савету
Народных Камісараў ад 10 красавіка 1925 г. зямельным камісіям
дазволена рабіць судовы падзел двароў толькі ў выключных выпад-
ках. Наяўнасьць іх у відзе поўнай немагчымасьці супольнага жыць-
ця членаў дьара служыць падставай для прыняцьця іску аб падзеле.
Здавальняюцца-ж азначаныя іскі далёка не заўсёды, бо падзел гас-
падаркі ў натуры дапушчаецца толькі тады, калі на долю кожнай з
падзяляючыхся старон выпадае жыцьцёвая гаспадарка.

У катагорыю іншых спраў уваходзяць іскі па спадчыне, аб
аднаўленьні прапушчанага тэрміну на абскарджваньня рашэньня,
аб неправільным выкананьні рашэньняў, аб замацаваньні зямлі ў
працоўнае карыстаньне і папраўненьні землякарыстаньня.

З агульнага ліку 5051 земляупарадчых спраў, якія знаходзіліся
ў справаводзтве раённых зямельных камісій ў справаздачным годзе,
было 138 спраў, а міжсялённым земляупарадкаваньні, 800 аб поўным
разьмеркаваньні ўгодзьдзяў, 107 аб гаспадарчым упарадкаваньні
сяленьняў на месцы, 27 аб выдзелах з грамады, 949 выключэньні
зямлі і скарыстаньня буйных гаспадарак, 2657 надзяленьняў зямлею
з запаснага фонду і 373 іншых земляупарадчых спраў. Такім чынам
з ліку земляупарадчых спраў больш усяго было ў справаводзтве
раённых зямельных камісій спраў аб надзяленьні зямлею з складу
запаснага фонду 43 проц., аб выняцьці лішкаў з карыстаньня буйных
гаспадарак 19 проц. і аб унутрысяленным земляупарадкаваньні 16
проц.

Катэгорыі спрэчна-зямельных і земляупарадчых спраў, якія
даюць у сярэднім па ўсіх 104 раённых зямельных камісіях найболь-
шы процант, разьмяркоўваецца па паасобных акругах наступным
чынам.

| Акругі | Спрэчна-зямельныя справы ў Р. З. К. | | | | | Земляўпарадчыя справы ў Р. З. К. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульн. лік спраў | Падзелы двароў | % | Захопы зямлі | % | Агульн. лік спраў | Унутр. сялен. зем-упарад. | % | Абрэзка буйн. гасп. | % | Землян. надзял. | % |
| Бабруйск. . . | 3669 | 1379 | 37 | 1402 | 38 | 578 | 46 | 8 | 80 | 14 | 356 | 61 |
| Віцебск. . . | 2520 | 835 | 33 | 434 | 17 | 1340 | 408 | 30 | 287 | 21 | 544 | 40 |
| Гомельск. . . | 1867 | 763 | 41 | 593 | 32 | 67 | 34 | 51 | — | — | 7 | 10 |
| Менская . . . | 4506 | 1882 | 42 | 1014 | 23 | 1044 | 33 | 3 | 251 | 24 | 647 | 62 |
| Магілеўск. . . | 4403 | 1754 | 40 | 1064 | 24 | 626 | 129 | 21 | 57 | 9 | 378 | 60 |
| Мазырская . . | 3090 | 633 | 20 | 1757 | 57 | 156 | 4 | 3 | 6 | 4 | 126 | 80 |
| Аршанская . . | 3050 | 1179 | 39 | 686 | 22 | 650 | 85 | 13 | 202 | 31 | 262 | 40 |
| Полацкая . . | 2047 | 621 | 30 | 762 | 37 | 590 | 61 | 10 | 66 | 11 | 337 | 57 |
| Разам. | 25152 | 9046 | 31 | 7712 | 30 | 5051 | 800 | 16 | 949 | 19 | 2657 | 53 |

З табліцы гэтай відаць, што ў першай інстанцыі зямельнага суду больш усяго ў процантных адносінах маецца спраў аб сямейна-маемасных падзелах у Менскай, Гомельскай і Магілёўскай акругах. Захопы зямлі прэваліруюць у Мазырскай акрузе, дзе мала спраў па ўнутрысялённаму зямляупарадкаваньні. Апошняя больш усяго разьвіта ў Гомельскай акрузе. Абрэзка буйных гаспадарак практыкуецца галоўным чынам у Аршанскай акрузе, а землянадзяленьне—ў Мазырскай.

Нарэшце, з прывадзімай ніжэй табліцы відаць наколькі палепшылася або пагоршылася праца па паасобных яе галінах усіх раённых зямельных камісій у справаздачным годзе ў параўненьні з папярэднім, прычым абсалютныя лічбы 1926 г. прыняты за 100 проц., а адносныя (проценты) зраўніваюцца непасрэдна.

| № | Галіна працы. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | % росту |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Колькасьць спраў ўсіх катэгорый ў справаводзтве . . . . . . | 24286 | 30203 | + 24 |
| 2 | Разгледжана спраў. . . . . . | 20456 | 25313 | + 24 |
| 3 | Процант разгледжаных да агульнага ліку спраў, якія знаходзяцца ў справаводзтве. . . . | 84,2 | 83,8 | — 0,4 |
| 4 | Засталося неразгледжаных спраў к канцу апэрацыйнага году . . . . . . | 3830 | 4890 | — 28 |
| 5 | З ліку неразгледжаных спраў знаходзілася ў справаводзтве больш 3 месяцаў . . . | 534 | 659 | — 23 |
| 6 | Процант спраў, якія знаходзіліся ў справаводзтве больш 3 месяцаў . . . . | 14 | 13 | + 1 |
| 7 | Процант абскаржваньня рашэньняў Райземкамісіі ў другую інстанцыю. . . | 28 | 27 | + 1 |
| 8 | Процант адмены рашэньняў райземкамісіі ў інстанцыйным парадку . . . . | 50 | 41 | + 9 |

Прыведзеныя табліцы паказваюць, што ў справаздачным годзе ў параўнаньні з папярэднім значна павялічалася колькасьць спраў, якія знаходзяцца ў справаводзтве раённых зямельных камісій і разгледжаных імі. У той жа час яшчэ больш павялічалася залеж спраў, якія засталіся неразгладжанымі к канцу справаздачнага году, з прычыны таго, што зямельныя камісіі не справіліся з разглядам усіх паступіўшых у іх справаводзтва за год спраў. У справаздачным годзе паменшыўся некалькі процант нявырашаных спраў, якія зна-

ходзіліся ў справаводзтве раённых зямельных камісій больш 3 месяцаў, што сьведчыць аб паступовым зьнішчэньні валакіты. Паменшыўся таксама процант абскарджваньня рашэньняў раённых зямельных камісій ў акруговаю камісію і процант адмену ёю абскарджаных рашэньняў. Гэтыя лічбы паказваюць паляпшэньне якаснага боку дзейнасьці райземкамісіі. Для далейшага паляпшэньня пастаноукі справы ў раенных зямельных камісіях неабходна ўзмацненьне іх дзейнасьці.

Е. В.

## АБ АСКАРДЖВАНЬНІ ПАСТАНОЎ ЗЯМЕЛЬНЫХ КАМІСІЙ ПА ПЫТАНЬНЯХ РАСТЛУМАЧЭНЬНЯ РАШЭНЬНЯУ *)

Пры разглядзе Раённай Зямельнай Камісіяй справы ў парадку арт. 185 Гр. Проц. Код., узьнікла наступнае пытаньне: ці падлягаюць вызначэньні зямельных камісій, пастаноўленыя ў парадку растлумачэньня рашэньняў, абскарджваньню ў агульным парадку?

Повадам да падняцьця гэтага прынцыповага пытаньня паслужыла наступнае:

Пленум Вярхоўнага Суду БССР, у пасяджэньні сваім ад 20 лістапада 1926 г. (прат. 26 пар. 5), выслухаўшы справу па пытаньню аб растлумачэньні арт. 185 ГПК, *знайшоў*, што вызначэньне суду па пытаньні аб растлумачэньні арт. 185, у адносіне растлумачэньня рашэньняў, не зьяўляюцца зусім такімі вызначэньнямі, па якіх дапушчаюцца скаргі, паводле арт. 249, цяпер арт. 292 ГПК БССР, і растлумачыў, што абскарджваньне вызначэньня суду аб растлумачэньні рашэньня, пастаноўленага ў парадку арт. 185 ГПК, як не прадугледжанае законам, *недапушчаецца*.

Зямельная-ж камісія, кіруючыся арт. 155 інструкцый аб парадку разгляду спраў ў зямельных камісіях, знаходзіць, што скарга на растлумачэньне рашэньня, пастаноўленага ў парадку арт. 185 ГПК, можа быць абскарджана ў агульным парадку.

Такое тлумачэньне зямельнаю камісіяю праў старон на абскарджваньне вызначэньняў, пастаноўленых у парадку арт. 185 ГПК, павінна лічыцца неправільным. І вось чаму.

Інструкцыя аб парадку разгляду спраў ў зямельных камісіях выдана Народным Камісарыятам Земляробства на падставе арт. 205 Зямельнага Кодэксу 14 сьнежня 1925 г.

Па дакладнаму сэнсу гэтага 205 арт., разгляд спраў ў Зямельных Камісіях і выкананьне пастаноўленых рашэньняў, вызначаецца, выданымі ў адпаведнасьці з Грамадзянскім Пропэсуальным Кодэксам Народным Камісарыятам Земляробства, інструкцыямі і правіламі. Значыцца, усе інструкцыі і правілы, выдаваемыя НКЗ, перш за ўсё павінны цалком і поўнасьцю адпавядаць законадаўчым нормам, якія прападаны ў галіне нашага процэсуальнага права, выкладзеным у ГПК.

Цяпер, калі такая аўтарытэтная судовая ўстанова, як Вярхоўны Суд БССР, пасьля выданьня НКЗ інструкцыі 20 лістапада 1926 г., растлумачыла, што вызначэньні, пастаноўленыя ў парадку арт. 185

*) Ад Рэдакцыі: Меркаваньні аўтара аб абавязковасьці для зямелькамісій тлумачэньняў Вярхсуду няправільны, бо, паводле арт. 51 палаженьня аб судабудаўніцтве, земкамісіі нагляду з боку Вярхсуду не падлягаюць.

Што датычыцца паказаньня аўтара на недапушчальнасьць абскаржаньня пастановы земкамісіі па пытаньнях аб растлумачэньні рашэньня, дык у гэтай адносіне аўтар мае рацыю, хоць і паводле іншых падстаў.

ГПК, абскаржваньню не падлягаюць, то адсюль запытаньне, ці абавязкова яно для спраў, вырашаных у гэтым парадку Зямельнымі камісіямі?

Так, абавязкова, бо яно абавязкова для народных судоў. А з тае прычыны, што зямельныя камісіі, паводле арт. 198 Зям. Код., карыстаюцца правамі народнага суду, то здавалася-б, што растлумачэньне як адносячаяся да арт. 155 інструкцыі аб парадку вядзеньня судовых спраў ў зямельных камісіях, поўнасьцю яе растлумачваючае і, маючае прамую адносіну да растлумачанага 20-га лістапада 1926 г. Вярхоўным судом арт.185 ГПК, мае поўнае дапасаваньне і да спраў, разгледжаных у парадку растлумачэньня рашэньняў і Зямельнымі Камісіямі, што дае поўную падставу мяркаваць, *што арт. 155 інструкцыі аб парадку разгляду спраў, выкліканых неабходнасьцю растлумачэньня рашэньняў, у адпаведнасьць з кіраўнічым растлумачэньнем Вярхоўнага Суду ад 20 га лістапада 1926 г. павінна быць зьменена ў сэнсе недапушчэньня абскарджаньня ў агульным парадку рашэньняў, пастаноўленых у парадку арт. 185 ГПК Зямельнымі Камісіямі.*

Пытаньне гэта на мой погляд, патрабуе кіраўнічага і вычэрпываючага растлумачэньня на старонках выдаваемай часопісі, а таксама пажадана было-б, каб таварышы на старонках гэтай-жа часопісі выказалі свае думкі па зачэпленаму пытаньні.

Чл. Кал. аб. **В. Прусаў.**

---

# ВЫНІКІ ПРАЦЫ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І АКРУГОВЫХ КАМІСІЙ ПА ДАПАСАВАНЬНІ АМНІСТЫІ ДА 10-й ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКАВАЕ РЭВАЛЮЦЫІ.

Падрыхтоўчая праца да дапасаваньня амністыі 10-й гадавіны Кастрычнікавае Рэвалюцыі пачалася 11 лістапада 1927 г. выданьнем інструкцыі Наркам'юстам і Наркаматам Унутраных Спраў. Гэтай інструкцыяй прадуглядалася ўтварэньне ў кожным акруговым цэнтры Камісіі па дапасаваньні амністыі, у склад якой ўваходзілі: Пам. Пракурора акругі, член Акрсуду і Начальнік Спраўдому.

Для кіраваньня дзейнасьцю акруговых камісій, для разгляду скаргаў на іх дзеяньні, а таксама і для іх інструктаваньня, пры Наркам'юсьце інструкцыяй прадуглядалася ўтварэньне цэнтральнай камісіі з прадстаўнікоў: ад Пракуратуры Рэспублікі, Вярхоўнага Суду і Інспэкцыі месцоў зьняволеньня НКУС.

Працу сваю Камісіі распачалі 15-16 лістапада 1927 г. і павінны былі скончыць яе да 1 студзеня 1928 г., але ўпасьледку, у працэсе працы камісіяй сустрэліся перашкоды пры дапасаваньні 2 ч. 3 пункту акта аб амністыі ў адносіне рэцыдывістых і зьняволеных, маючых паўторную судзімасьць. Гэта затрудненьне, пасьля папярэдняга высьвятленьня цераз ЦВК БССР у ЦВК СССР канчаткова было вырашана толькі 28 сьнежня 1927 г., у сувязі з чым і тэрмін сканчэньня працы камісіі быў прадоўжан да 20 студзеня 1928 г.

Праца акруговых камісій была скончана да 20-25 студзеня г. г. і праца Цэнтральнай камісіі толькі 15 лютага г. г. У сучасны момант як акруговыя камісіі, так і цэнтральная распушчаны.

Пры падлічэньні вынікаў працы камісій высьвятліліся наступныя рэзультаты:

## Праца Цэнтральнай Камісіі

Паступіла: заяў для непасрэднага разгляду апрача акруговых камісій—42, скарг на пастановы акруговых камісій—194, запытаньняў акруговых камісій, пракуратур, суда, органаў дазнаньня і іншых установ—51.

З непасрэдна прадстаўленых заяў разгледжана: па сутнасьці—36, зварочана для разгляду ў Акркамісіі з прычыны адсутнічаньня пры заявах—копій прыгавораў, даведак аб заліку рабочых дзён і г. д.—6.

З разгледжаных па сутнасьці: адмоўлена—9, вызвалена—16, скарочан тэрмін пакараньня на 1/2—1, скарочан тэрмін пакараньня на 1/3—8, вызвалена ад высылкі—1, зьнята паражэньне ў правох—1.

З разгледжаных скарг на пастановы акруговых камісій: згадзіліся з пастановамі акр. камісіі—29 і не згадзіліся—165. З ліку 165 зварочана акр. камісіям для перагляду іх пастаноў у адпаведнасьці з данымі Цэнтральнай Камісіяй указаньнямі—130, і скарочан тэрмін пакараньня—35.

З разгледжаных скарг і заяў большая частка (каля 95 проц.), прыпадае на сялян. Значная колькасьць адмененых пастаноў акр. камісій (165) тлумачыцца тым, што ў некаторых прыгаворах ня ясна ўказана сацыяльнае пахаджэньне зьняволеных, а таксама і таму, што акр. камісіі, пры вынясеньні сваіх пастаноў, асабліва па справах аб дзяржаўных злачынствах (57-73 арт. КК) проста адмаўлялі, не указваючы чаму і на падставе чаго. Па гэтаму пытаньні акр. камісіям даны адпаведныя ўказаньні.

Дзеля большай ўвязкі ў рабоце Цэнтральнай Камісіі з Акруг. Камісіямі, пасьля кожнага пасяджэньня Цэнтр. Каміс. (іх было 8) распаўсюджваліся копіі пратаколаў Акр. пракурорам і Спраўдомам і ў некаторых выпадках і Акрсудом (калі былі з боку іх якія-небудзь запытаньні). Апрача гэтага па розных запытаньнях акр. камісій дадзена тлумачэньне -51, тлумачэньні даваліся галоўным чынам па п. п. 2, 2 ч. п. 3,4,5 і 11 пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР аб амністыі.

## Праца Акруговых Камісій.

Вызвалена з-пад варты:—у Аршанскай акрузе—222 чал., у Бабруйскай акрузе—394, у Віцебскай акрузе—263, у Гомельскай акрузе—319, у Менскай акрузе—524, у Мозырскай акрузе—217, у Магілеўскай акрузе—295 і Полацкай акрузе—157, усяго па Беларусі—2391 чал. Вызваленыя з-пад варты па свайму сацыяльнаму станові шчу разьмяркоўваюцца: рабочых—13,6 проц. жанчын-работніц—0,8 проц., сялян—80,8 проц., сялянак—0,3 проц., служачых—1,6 проц., і розных—2,9 проц.

Па роду злачынстваў вызваленыя разьмяркоўваюцца:

| | Арш. | Бабр. | Віцеб. | Гом. | Менс. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) Дзяржаўныя злачынствы (58—73) . . | 8 | — | — | — | 12 | 20 |
| 2) Супроць парадку кірав. (74—104 арт. КК) | 31 | 68 | 46 | 13 | 65 | 223 |
| 3) Службовыя злачынствы (105—118 арт. КК) | 8 | 15 | 10 | 10 | 26 | 69 |
| 4) Злачынствы гаспадарчыя (126—141 арт. КК) | 3 | 9 | 7 | 21 | 7 | 47 |
| 5) Злачынствы супроць жыцьця, здароўя і інш (142—179 арт. КК) | 81 | 166 | 129 | 174 | 216 | 766 |
| 6) Маемасныя злачынствы (180—199) арт. КК) | 89 | 133 | 64 | 96 | 190 | 572 |
| 7) Вайсковыя злачынствы (200—214) . . | 2 | 3 | 7 | 5 | 8 | 25 |
| РАЗАМ . . | 222 | 394 | 263 | 319 | 524 | 1722 |

Па астатных акругах—Мозырскае, Магілеўскае і Полацкае зьвестак з падзеламі на катэгорыі злачынстваў няма, але мяркуючы па прывядзеных вышэй лічбовых даных трэба адзначыць, што і ў гэтых акругах прыблізна ў гэтай прапорцыі разьмяркоўваецца лік зьняволеных.

Скарочан тэрмін пакараньня на 1/2: у Аршанскай акрузе—298, у Бабруйскай акрузе—267, у Віцебскай акрузе—355, у Гомельскай акрузе—230, у Менскай акрузе—469, у Мазырскай акрузе—32, у Магілеўскай акрузе—354 і у Полацкай акрузе—122, усяго па Беларусі 2127.

Скарочан тэрмін пакараньня на 1/3: у Аршанскай акрузе—104, у Бабруйскай акрузе—143, у Віцебскай акрузе—220, у Гомельскай акрузе—103, у Менскай акрузе—92, у Мазырскай акрузе—21, у Магілеўскай акрузе—46 і ў Полацкай акрузе—78, усяго па Беларусі—807.

Тэрмін скарачэньня кары на адну палову адносіцца галоўным чынам да працоўных і адну трэць да непрацоўных, рэцыдывістаў і асуджаных за розныя злачынствы ў другі раз.

Усім вызваленым па амністыі ў кожнай акрузе давалася дапамога, напрыклад, у Магілеўскай акрузе—вопраткай, грашама і літэрамі, усяго на суму 939 руб. 17 кап., апрача гэтага меліся выпадкі, калі адміністрацыя Спраўдамоў аказвала дапамогу зьняволяным у апрадзяленьні на службу і прадастаўленьні работы.

**А. К.**

---

## РАЗЬВІЦЬЦЁ І СКЛАД ЗЛАЧЫНСТВА У БССР.

### Агульная часьць.

Стан злачынства з пункту гледжаньня разьвіцьця дынамікі паасобных відаў злачынств, а таксама складу правапарушнікаў можа быць вывучана па даных крымінальнай статыстыкі аб ліку паступіўшых у судовыя установы і зарэгістраваных вышукам і міліцыі спраў аб злачынствах, а таксама аб ліку асуджаных.

Пытаньне аб руху злачынства у БССР у апошнія тры гады досыць поўна высьветлена папярэднімі нарысамі, а ў даным мелі мэтаю устанавіць відазьмены складу асуджаных па полу, ўзросту, сямейнаму, сацыяльна-клясаваму прыметах па групах злачынств.

Але для таго, каб ясьней уявіць характэрныя асаблівасьці гэтых відазьменаў па паасобных групах злачынств, трэба даць характарыстыку зьмен гэтых у цэлым усім злачынствам.

Паловы склад асуджаных па сутнасьці прадстаўляе досыць разнастайную сацыяльную масу з мужчын, жаночая злачыннасьць мінімальная. Але назіраецца агульнае разьвіцьцё злачынства ў краіне за шэраг гадоў у залежнасьці ад якой устанаўляецца павышэньне жаночай злачыннасьці. У даваенныя гады жаночая злачыннасьць у Меншчыне складала 10,2 проц. усяго ліку асуджаных акруговым судом у пэрыяд 1886-1913 г. У сучасны момант (1925-1926 г.) у ліку, асуджаных 12 проц. жанчын.

Узросны склад асуджаных на працягу кароткага пэрыяду часу зьмяняецца няпрыкметна.

**Разьмеркаваньне асуджаных па ўзросту:**

| гг. | 14-15 г. | 16-17 | 18-19 | 20-24 | 25-29 | 30-39 | 40-49 | 50-59 | 60 і вышэй | Жанчын |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 . . | 0,3 | 2,9 | 5,0 | 21,7 | 15,6 | 21,9 | 13,4 | 9,0 | 8,1 | 2,91 |
| 1925 . . | 0,3 | 3,1 | 5,7 | 23,2 | 17,1 | 22,0 | 13,0 | 7,9 | 6,4 | 1,3 |
| 1926 . , | 0,2 | 2,7 | 5,4 | 25,6 | 18,1 | 21,2 | 11,6 | 6,8 | 5,6 | 2,8 |
| % насяленьня па перапісу . | 4,9 | 5,2 | 4,4 | 9,8 | 7,8 | 11,2 | 8,2 | 6,4 | 6,9 | — |

Як паказваюць прыведзеныя даныя найбольш інтэнсіўна злачынасьць у ўзросьце у 20-24 гады і да 39 год уключна, перавышае ў 2 разы чымся процант гэтых узросных груп у насельніцтве.

Наглядаецца на працягу трох год досыць устойлівы рад адных і тых-жа паказьнікаў злачынства асоб да 20 год, потым далей 20-24 гады ў 25-29 год наглядаецца павышэньне процанту злачынства, а ўзросьце старэй 30 год наглядаецца зьніжэньне злачынства. Такім чынам узрост ад 20-29 год зьяўляецца найбольш няспрыяючым па ўзроўню злачынства і па тэмпу далейшага яго разьвіцьця.

Ня спыняючыся падрабязна на іншых умовах разьвіцьця злачынства, зачэпім толькі сацыяльны склад і меры сацыяльнай абароны.

Сацыяльна-Клясавы склад асуджаных прадстаўляе сабою сур'ёзную і важную праблему ў вывучэньні фактараў злачынства, бо клясавыя суадносіны ў абшчыне само зьяўляецца фактарам злачынства. У чужаземнай літаратуры гэтаму пытаньню аддадзена вельмі мала досьледаў. Апрача таго матар'ял крымінальнай статыстыкі розных краін не параўняем.

У сілу праведзеных меркаваньняў супастаўляць злачынствы асоб розных груп насельніцтва, не прадстаўляецца магчымым. Лічым усё-ж ня лішнім прывесьці кароткую характарыстыку разьмеркаваньня асуджаных па сацыяльнаму становішчу.

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Сельскія гаспадары . . . | 70,1 | 79,3 | 78,0 |
| Гаспадары інш. . | 5,6 | 4,6 | 4,7 |
| Служачыя . . | 2,7 | 2,5 | 3,5 |
| Рабочыя. . . | 7,7 | 6,4 | 6,6 |
| Прыслугі . . | 3,0 | 0,3 | 0,3 |
| Беспрацоўн. . . | 2,0 | 1,3 | 1,2 |
| Іншыя . . . | 5,6 | 1,2 | 1,1 |
| Дэклясаван. . . | 0,3 | 1,2 | 1,0 |
| Несамадзен. . . | 2.0 | 1,4 | 1,3 |
| Невядом. . . | 1,5 | 0,2 | 0,6 |
| Усяго . . . | 100 | 100 | 100 |

Найбольшы процант асуджаных складаюць гаспадары ў сельскай гаспадарцы і далей ўжо з резкім адхіленьнем астатнія групы ў ліку якіх 6,6 проц. складаюць рабочыя, 4,7 проц. іншыя гаспадары і 3,5 проц. служачыя. Больш рацыянальна было-б супаставіць гэтыя лічбы з данымі аб ліку прыведзеных груп ў насяленьні, але пакуль гэтых даных у рэзультацэ перапісу 1926 г. яшчэ няма. Наглядаецца параўнальна з 1924 г. павышэньне проценту ў злачынстве сельскіх гаспадароў, служачых і дэклясаваных і адпаведна зьніжэньне рабочых і ўсіх астатніх.

Папярэдняе ўтрыманьне пад вартай ў апошнія гады ўжываецца ў меншых долях.

з і х.

| ГАДЫ | Утрымоўвалася пад вартай | да 15 д. | да 1 м. | 1—2 м. | 2—3 м. | 3—6 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | 12,9 | 20,3 | 16,9 | 21,0 | 12,0 | 16,5 |
| 1925 | 8,1 | 18,2 | 17,4 | 23,6 | 13,8 | 17,1 |
| 1926 | 7,8 | 19,3 | 20,8 | 21,1 | 11,4 | 14,7 |

Як відаць, зьніжэньне процантаў папярэдняга ўтрыманьня досыць рэзкае—з 12,9 проц. у 1924 г., да 7,8 у 1926 г. З другога боку, наглядаецца ўстоўлівасьць проценту, утрымоўваючыхся да 15 дзён (20,3 проц.—19,3 проц.) і далей ад 1 месяца да 3, а да 1 месяцу—наглядаецца павышэньне (з 16,9 проц. да 20,8 проц.). У той жа час трэба зьвярнуць увагу на зьніжэньне проценту, утрымоўваючыхся больш доўгі час ад 3 месяцаў і болей.

Меры соцыяльнай абароны залежаць ад ступені соцыяльнай нябясьпекі правапарушнікаў, а таксама і ад характару злачынных дзеяньняў. Наколькі відазьмянілася іх ужываньне відаць з наступнага.

| ГАДЫ | Умоўна | Тэрмінов. | Да 6-ці м. | Ад 6-ці м. да 1 году | Ад 1 году да 2-х г. | Ад 2 х г. да 3-х г. | Ад 3-х г. до 5-ці г. | Ад 5-ці г. да 8-мі г. | Ад 8-мі г. да 10-ці г. | Маемасн. | Прым. раб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | 13,7 | 24,3 | 13,3 | 5,5 | 3,0 | 1,2 | 0,7 | 0,3 | 0,3 | 34,3 | 17,2 |
| 1925 | 20,2 | 22,3 | 15,2 | 3,5 | 2,0 | 0,9 | 0,9 | 0,2 | 0,1 | 30,1 | 24,5 |
| 1926 | 13,9 | 26,1 | 19,5 | 3,5 | 2,0 | 0,9 | 0,7 | 0,4 | 0,1 | 33,0 | 25,5 |

Процант мер соцыяльнай абароны дапасоўваемых на працягу 1924-26 г. хістаецца і досыць рэзка. Дапасаваньне ўмоўнага асуджэньня павышана было ў 1925 г. да 20,2 проц., а ў 1924 і 1926 г. ніжэй, складаючы па 13,7 проц. Потым тэрмінова пазбаўленьне волі павышаецца з 24,3 проц. у 1924 г. да 26,1 проц. у 1926 г. Наглядаецца ў той жа час скарочаных тэрмінаў да 6 месяцаў (з 13,3 проц. у 1924 г. да 19,5 проц. у 1926 г.). Астатнія тэрміны хістаюцца то ў бок павышэньня, то адваротна і ўстойлівых радоў пакуль пабудаваць няма магчымасьці.

Меры соцыяльнай абароны па сацыяльных групах прадстаўлены ў наступных даных.

| | Умоўна. | Тэрмінова. | З іх да 6 месяц. | Прымус. работ. | Маем. ўзыск. | Інш. | УСЯГО. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гаспадары у сел.-гасп. 1924 г. | 11,4 | 20,6 | 12,4 | 19,8 | 37,8 | — | 100 |
| 1925 г. | 18,8 | 19,0 | 14,1 | 27,2 | 32,5 | — | 100 |
| 1926 г. | 12,4 | 23,4 | 18,0 | 28,8 | 34,3 | — | — |
| Служач. 1924 г. | 18,8 | 29,9 | 6,8 | 10,7 | 23,0 | — | 100 |
| 1925 г. | 27,2 | 31,0 | 12,5 | 9,0 | 25,3 | — | — |
| 1926 г. | 22,7 | 39,2 | 13,4 | 6,7 | 25,4 | — | — |
| Рабочыя 1924 г. | 17,4 | 35,4 | 16,9 | 15,0 | 22,3 | — | 100 |
| 1925 г. | 26,6 | 29,4 | 19,8 | 20,5 | 18,3 | — | — |
| 1926 г. | 20,1 | 34,9 | 23,0 | 18,8 | 23,6 | — | — |
| Беспрацоўн. 1924 г. | 20,2 | 37,4 | 16,4 | 13,2 | 18,6 | — | 100 |
| 1925 г. | 28,0 | 45,5 | 29,7 | 11,9 | 10,0 | — | — |
| 1926 г. | 24,3 | 47,4 | 32,8 | 11,6 | 14,6 | — | — |
| Дэклясав. 1924 г. | 6,6 | 62,6 | 29,6 | 5,5 | 4,4 | — | 100 |
| 1925 г. | 8,6 | 81,7 | 36,8 | 2,7 | 2,4 | — | — |
| 1926 г. | 5,5 | 90,1 | 38,0 | 1,0 | 0,7 | — | — |

Павышанае дапасаваньне, параўнальна, умоўнага асуджэньня наглядаецца ў адносінах служачых, рабочых і беспрацоўных; ніжэй ў два разы ў стасунку к сельскім гаспадарам і зусім нязначна—дэклясаваны. Таксама важна адзначыць павышэньне проценту дапасаваньня ўмоўнага асуджэньня ў 1926 г., параўнальна з 1924 г., а зьніжэньне—параўнальна з 1925 г. ў стасунку асуджаных пералічаных соцыяльных груп за выключэньнем дэклясаваных.

Тэрміновае пазбаўленьне волі ў максімальнай ступені дапасоўваецца да дэклясаваных (да 90 проц.), потым у два разы менш беспрацоўных, рабочых, служачых і сельскіх гаспадароў. Пры гэтым наглядаецца зьніжэньне ступені дапасаваньня тэрміновага пазбаўленьня волі да рабочых, да другіх груп дапасаваньня стала часьцей.

Далей тэрміч да шасьці месяцаў ў 1926 г. да ўсіх соцыяльных груп дапасоўваецца часьцей папярэдніх год.

Прымусовыя працы і маемасныя ўзысканьні дапасоўваюцца вельмі рэдка да дэклясаваных. Да іншых груп у рознай ступені. Так да гаспадароў сельскай гаспадаркі прымусовыя працы складаюць ад 19,8 проц. да 28,8 проц., да беспрацоўных ад 13,2 проц. да 11,6 проц і служачых усяго ад 10,7 проц. да 6,7 проц., маемасныя ўзысканьні да гаспадароў дапасоўваюцца больш 30 проц., служачых каля 25 проц. і рабочых каля—20 проц. Устанаўляецца залежнасьць ступені дапасаваньня адных за конт другіх. У стасунку служачых і ў іншых групах яны ідуць у раўналежнасьці.

Наогул у разьвіці злачынства наглядаецца тэндэнцыя павышэньня, найбольш рэзка праяўляючаяся ў асабістых злачынствах. Склад асуджаных, а таксама меры сацыяльнай абароны, дапасоўваемыя да тых і іншых сацыяльных груп больш яскрава будуць пададзены ў наступных разьдзелах падрабязнага аналізу па групах злачынства.

(Працяг будзе ў наступным нумары).

**С. Слупскі.**

# Старонка практыка.

## РАЗВОД У ВЕСЦЫ. *)

Адным з галоўнейшых мерапрыемстваў Савецкай Улады ў справе вызваленьня жанчын, зьяўляецца прадстаўленьне ёй магчымасьці скасаваць шлюб у любую хваліну, калі пры тых, або іншых меркаваньнях яна не пажадае прадаўжаць супольнае жыцьцё з мужам. Спрашчэньне да мінімуму фармальнасьцяй, якія зьвязаны з атрыманьнем разлукі, у сучасны момант зусім зьмяніла самую сутнасьць шлюбу ў параўнаньні яго з дарэвалюцыйным мінулым. Раней атрыманьне разлукі саправаждалася такімі цяжкасьцямі, што уступаючы ў шлюб, жанчына фактычна аддавала сябе ў дажывотнае ўладаньне мужу і калі ў паследку шлюб аказаўся няўвадлым, дык да канца дзён сваіх супругі павінны былі цягнуць на сябе яго ланцугі. Пры гэтым страдаючай асобай аказвалася, звычайна, жанчына, якая, па самай сваёй прыродзе і законах таго часу, была ў поўнай залежнасьці ад мужа. У сучасны-ж момант шлюб зьяўляецца свабодным саюзам мужчыны і жанчыны, якія ўладаюць аднолькавымі правамі, і можа быць скасован, як па абаюдай згодзе, так і па воле аднаго з супругаў. Такім чынам прычыны свабоды разлукі, у сучасны момант шлюб ужо не зьяўляецца для жанчыны дажывотнай катаргай, бо ў любую хвіліну можа быць ёю скасован, тым больш, што і маемасныя правы яе абаронены законам.

Аднак, існуе многа мільёнаў працоўных жанчын, которыя па ўмовах свайго быту, ня могуць упоўнай меры скарыстаць переватгі свабоды разводу і якія ён іншы раз ставіць у самае бязвыхаднае становішча—гэта жанчыны-сялянкі. У той час, як у гарадох натуральным вынікам разлукі зьяўляецца падзел між быўшымі супругамі нажытай імі за час супольнага жыцьця маемасьці, а таксама спыненьне супольнага жыцьця у вёсцы, вельмі часта, разлука не зьяўляцца да жанчыны сродкам вызваліцца ад мужа, нягледзячы на поўную немагчымасьць сумеснага жыцьця. Гэта звычайна бывае ў тых выпадках, калі разлучаюцца супругі, якія жывуць, ў так званых „недрабімых гаспадарках“; г. зн. гаспадарках, якія па колькасьці зямлі не падлягаюць падзелу ў натуры. А такіх гаспадарак—вялікая колькасьць. Праўда, жанчына пасьля разлукі можа выйсьці з таго двара у парадку арт. 84 З. Код. Але куды яна пойдзе, і як яна праіснуе, калі доля яе, выплачваемая грашыма і, к тому-ж у растэрмінаваньне, звычайна, настолькі нікчэмна, што існаваць на яе больш ці менш працяжны пэрыяд часу зусім нельга. Яшчэ у тым выпадку, калі яна малада, у яе ёсьць надзея ўступіць праз шлюб у другі двор, а калі яна ўжо паджылая і слабая?—Замуж яе ніхто вя возьмеды і працаваць яна няможа. І вось ёй волей ня волей, а прыходзіцца заставацца ў аднэй гаспадарцы з разлучаным мужам, на што яна, як член двара, мае права. Але якое-ж будзе яе існаваньне, асабліва, калі муж возьме другую жонку. Добра, калі ёй будуць даваць кусок хлеба, але-ж, звычайна, і гэтага ня бывае. Яе лічаць

*) Ад Рэдакцыі: Зьмяшчаецца ў дыскусыйным парадку.

лішкавым ротам, папікаюць кожным куском, яна штомінутна выслухоўвае лаянку ад быўшага мужа і яго новай жаны і, у канцы канцоў, усё такі бывае вымушана пайсьці галодная, абарваная, а іншы раз і пабітая. Аднак, калі-б адмоўныя вынікі разлукі абмяжоўваліся-б толькі тымі выпадкамі, калі ўступіўшая ў двор, шляхам шлюбу, жанчына, вымушана пасьля разлукі пайсьці з яго, падчыняючыся настаяньню быўшага мужа, то з гэтым яшчэ можна было-б мірыцца, бо, хоць матар'яльнае яе становішча і вельмі цяжкае, яна ўсё такі можа разьлічваць, што яе прыме назад той двор, з якога яна выходзіла замуж, хоць у сілу ўвагі 1-ай да арт. 64 З. К., яна і страціла свае правы ў гэтым двары. Апрача таго, яна разумее, што раз яна разлучылася, то натуральна неабходна пайсьці з таго дому, куды яна ўступіла шляхам шлюбу, чаму і ў маральных адносінах ёй лягчэй перанасіць рэзультат разлукі—выгнаньне з двара быўшага мужа.

Але-ж у практыцы шмат такіх выпадкаў, калі жанчына бярэ да сябе у двор мужа, які прыходзіць на поўную гаспадарку. І вось пажыўшы некалькі год, а іншы раз і меней такі „прымак" пачынае сыстаматычна нанасіць жонцы лаянкі і пабоі, наогул, усім, чым можа, і ў канцы канцоў, даводзіць яе да разлукі і выганяе з дому. Што можа яна зрабіць? якім чынам ёй абараніць свае правы? калі яна зьвернецца ў зямельныя органы, то самае большая, што яны могуць зрабіць—пацьвердзіць яе правы, як члена двара. Аднак, гэта ніякіх канкрэтных рэзультатаў нядасьць, бо быўшы муж, як фізычна дужэйшы, знайдзе спосабы прымусіць яе кінуць усё і пайсьці з двара, дзе раней усё прыналежала ёй. У даным выпадку адзіным рэальным спосабам абароны праў разлучанай жанчыны было-б высяленьне быўшага мужа з яе гаспадаркі, але па чыннаму заканадаўству, ён, як член двара, ня можа быць прымусовым парадкам толькі зьвязаных з членствам праў, і калі ён сам не ўразумее свайго абавязку пайсьці пасьля разводу з гэтай гаспадаркі, куды ён увайшоў шляхам шлюбу, то становішча жанчыны ў такіх выпадках абсалютна бязвыхаднае. Бывае і так, што ўдава з малымі дзяцьмі бярэ да сябе на гаспадарку мужа, каб утрымаць гаспадарку ад разбурэньня і падняць наногі дзяцей. І тут яна памылілася і замест памочніка ўзяла да сябе чалавека, які прыйшоў толькі дзяля таго, каб пажывіцца чужым. Ён пачынае „гаспадарыць" па свайму. У 2-3 гады даводзіць гаспадарку да мінімуму і на ўсе пратэсты жаны адказвае кулаком. У даным выпадку амаль нічога нельга зрабіць, каб выратаваць гаспадарку ад руйнаваньня. Можна, напэўна хадайнічаць аб назначэньні, у парадку арт. 67 З. К. новай галавы двара, але гэтага, звычайна трудна бывае дабіцца, бо „гаспадар" заўсёды знайдзе сьведак сабутыльнікаў, якія дакажуць, што ён працуе і вядзе гаспадарку, як патрэбна. Але нават калі і ўдасца дабіцца зьмены гаспадара дому „дэ-юрэ", то „дэ-фактэ", гэтакім застаецца дужэйшы, г. зн. муж-растачыцель. Добра яшчэ, калі пажывіўшыся, чым папала такі гастралёр, ўзяўшы разлуку, выйдзе з гаспадаркі шукаць другую даверчывую ўдаву, але бывае інакш—узяўшы разлуку, ён хутка жэніцца на другой і ўводзіць яе ў дом сваёй быўшай жонкі, дзе прадаўжае распараджацца, як гаспадар. Што ў такім выпадку застаецца рабіць разлучанай жонцы і яе дзецям, як злучыць інтарэсы 2-х зусім чуждых і варажых друг другу сямейств у аднэй гаспадарцы?

Дзеля таго, каб паўней высьвятліць зачэпленае мною пытаньне прывяду яшчэ адзін прыклад найбольш часты ў практыцы сялянска-

га быту. Старыкі бяруць сваёй дачцы мужа, каторы, тым самым, робіцца поўнапраўным членам двара. Праз некалькі часу высьветляецца, што новы член двара прышоўся не па „двару“. Пачынаюцца звычайныя у такіх выпадках бойкі і спрэчкі, якія прыводзяць да разлукі. Прымак не жадае выхадзіць з двара і пачынае самым жорсткім чынам прасьледваць быўшую жану і старыкоў, і, у канцы канцоў, бярэ сабе новую жонку. Звычайна, такая гісторыя канчаецца тым, што старыкі забіраюць клумкі, кідаюць месца, дзе яны пражылі дзесяткі год, і дзе ўсё нажыта іх працай і ідуць па сьвету.

З вышэй прыведзеных выпадкаў, узятых без усякіх афарбовак з рэчайстага жыцьця, само сабою напрашваецца вывад, што разлука ў вёсцы пры існаваньні некаторых норм зямяльнага права, прыводзіць, вельмі часта, к самым уродлівым зьявішчам. Як-жа ўвязаць інстытут разлукі з зямельным правам, каб і для жанчын вёскі разлука зьяўлялася спосабам абароны, а не парушэньнем яе праў? Як абараніць наогул, сялянскі двор ад прымакоў, каторыя ідуць туды не працаваць, а пажывіцца. Мне здаецца, усе пачынаньні ў гэтай галіне павінны быць абрачаны на згубу да таго часу, пакуль будзе непарушана стаяць формула: „уступіўшыя ў склад двара з прычыны шлюбу або прымацтва або прыёму новых членаў, набываюць права на карыстаньне зямлёю і маемасьцью агульнага карыстаньня ў склдзе данага двара на агульных падставах і трацяць права на карыстаньне зямлёю ў складзе другога двара“ і „выплата грашыма ў парадку арт. 84 З. К. можа быць прысуджана толькі па згодзе выходзячага з складу двара члена, бо бяз згоды ніхто няможа быць пазбаўлен праў членства двара“. Пагэтаму калі-б унесьці ў Зям. Код. зьмены ў тым духу, што разлучаны супруг мае права патрабаваць высяленьня ўступіўшага да яго ў двор супруга, канечна, з выдзелам яму яго долі маемасьці, і дапаўненьне —„што ўступіўшы ў двор шляхам шлюбу новы член, у выпадку рэзлукі, нямае права браць сабе ў гэты-ж двор новага супруга,“ то гэтыя нязначныя новаўвядзеньні рассеклі-б гардзіеў вузел, які завязаўся над многімі сельскімі гаспадаркамі.

**М. Рэйшах-Рыт.**

---

## АБ СПРАШЧЭНЬНІ ГРАМАДЗЯНСКАГА ПРАЦЭСУ.

У той час, калі ў нарсудох кожная капейка з яго скуднага каштарысу знаходзіцца на вялікім вучоце, калі кожная хвіліна дарага ў працы супрацоўніка, з прычыны вялікае нагрузкі, усё-ж пры вельмі вялікай дбайнасьці і старанасьці суда, ніяк няможна мінуць той лішняй працы, якая ўтвараецца ў зьвязку з выкананьнем працэсуальных норм грамадзянскага права; асабіста азначнае зьявішча высоўваецца ў летні пэрыяд працы ва ўсіх нарсудох. Напрыклад, пры атрыманьні позваў стораны па грамадзянскіх справах, не зьяўляючыся ў суд і не паведамляючы аб гэтым пісьмова, прыходзяць у згоду, лічачы, што суд за іх няўякаю справу спыніць, альбо зусім без усякае згоды незьяўляюцца па тых альбо іншых хатніх умовах і суд вымушан справы адкладваць бо разам з старанамі не зьяўляюцца і сьведкі, калі гэтакія маюцца па справе. І на падставе адной заявы ісца, бяз усякіх дакумэнтаў, сьцьверджаючыя іскавыя патрабаваньні на падставе арт. 98 ГПК суд няўякім разе вырашаць ня можа. Пры другім разе, такая-ж самая гісторыя паўтараецца. Справа вандрue ад назначэньня да адкладу доўгі час і дапасаваньне арт.

100 ГПК таксама немажліва, бо ў справе ніякія даныя апроч заявы ня маюцца, па якой можна-б было суду вырашыць іскавыя патрабаваньні. З прычыны чаго адклад грамадзянскіх спраў дасягае шгомясячна да 50 проц., ад чаго зьяўляецца затрата сродкаў і часу. Некаторыя суды, наколькі мне вядома, каб ухіліцца паказанай валакіты, за няяўкаю старон дапасоўваюць прыпыненьне справы ў перад да падняцьця ісцом, што ў корні супярэчыць арт. 113 ГПК. Мною дапасоўваўся ў большасьці спраў 98 арт. ГПК, але згодна рэвізіі і вызначэньняў Акрсуду аб адмене гэтакіх спраў цалкам, прышлося адмовіцца ад дапасаваньня такога роду спосабаў. Цяпер падымаецца пытаньне, які выхад для таго, каб ухіліцца вялікіх адкладаў грамадзянскіх спраў? Я лічу, што выісьцем дзеля аблягчэньня працы ў нарсудох і спыненьня непатрэбнай валакіты, якая непрыемлема пры ўмовах нашых пралетарскіх спраў, гэта дапаўненьне ГПК належным артыкулам, які даваў-бы права судом за неяўкаю старон справы спыніць, альбо мэтазгодняй, выключыць з чаргі разгляду і гэтым iсьцец не пазбаўляецца права на падняцьце гэтай самай справы па мэтаду дарэвалюцыйнай практыкі.

Нарсудзьдзя 1 вуч. Мазырскае Акругі **Ярашэвіч**

---

## ПЫТАНЬНЕ, ЯКОЕ НЕАБХОДНА ТЭРМІНОВА ВЫРАШЫЦЬ

У сучасны момант па ўсіх гарадох Беларусі праводзіцца праца па перадачы ў камунальны фонд часткі жылой плошчы немуніцыпалізаваных дамоў, а таксама па праверцы правільнасьці зробленага раней выдзяленьня.

Усе гэтыя дзеяньні ўчыняюцца на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР ад 1 лютага 1925 г. аб перадачы ў распараджэньне камунадзелаў часткі жылой плошчы немуніцыпалізаваных будынкаў (Зб. Зак. БССР 1925 г., № 9, арт. 79) з усімі наступнымі зьменамі і дапаўненьнямі гэтае пастановы (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 21, арт. 79 і 1927 г., № 47, арт. 253).

У зьвязку з правядзеньнем камунаддзеламі вышэйпаказанай працы ў пракуратуру НКЮ паступае шмат матар'ялаў з акруг, з якіх можна бачыць, што вышэйпаказаная пастанова, пры ўжываньні яе ў практыцы выклікае цэлы шэраг непаразуменьняў.

З прычыны гэтага ў Народным Камісарыяце Юстыцы была складзена камісія, якая і распрацавала праэкт новай пастановы„ аб перадачы ў распараджэньне аддзелаў камунальнай гаспадаркі часткі жылой плошчы немуніцыпалізаваных дамоў у гарадох".

Асноўныя палажэньні гэтага праэкту наступныя.

1. Гарадзкім саветам надаецца права выдзяляць у жылых дамох частку плошчы для залічэньня яе ў камунальны фонд: у акруговых гарадох—да 30 працантаў, а ў астатніх—да 10 працантаў усей жылой плошчы дамаўладаньня (а з дазволу акрвыканкому—да 20 проц. у неакруговых гарадох).

Не дазваляецца адлічэньне ў наступных выпадках:
а) у дамох, якія пабудаваны органамі будаўнічай каапэрацы, а таксама прыватнымі асобамі на праве забудоўкі;
б) у дробных дамох, жылая плошча якіх не перавышае 45,5 кв. мэтраў (10 кв. саж.).
в) у атэлях, заязных дварах, на адчыненьне і эксплёатацыю якіх атрыман устаноўлены дазвол.

2. Права вызначэньня плошчы, якая належыць выдзяленьню ў

камунальны фонд, належыць камунальным аддзелам. Вызначэньне павінна вытварацца ў прысутнасьці дамаўласьніка або яго прадстаўніка. Пры гэтым складаецца акт за подпісамі дамаўласьніка і прадстаўніка камунаддзелу. Копія гэтага акту даецца домаўласьніку.

3. На працягу двох тыдняў з моманту атрыманьня копіі акту домаўласьнік, які лічыць вызначэньне плошчы для выдзяленьня ў камунальны фонд няправільным, мае права заявіць у судзе іск аб вызваленьні лішкава выдзляемай плошчы ад залічэньня ў камунальны фонд.

Да разгляду народным судом справы па гэтакаму іску не дапушчаецца выдача ордэраў на заняцьце выдзеленай у камунальны фонд плошчы.

4. У выпадку, калі домаўласьнік ня робіць належнага рамонту тэй часткі свайго дому, якая залічана ў камунальны фонд, дзеля чаго гэтая частка прышла ў стан няпрыгоднасьці для жыльля, камунальны аддзел мае права патрабаваць праз суд выдзяленьня новай плошчы.

Замена выдзеленай раней плошчы новай таксама дапушчаецца ў кожны момант пры ўмове згоды на гэтае домаўласьніка.

Пры замене плошчы працоўныя, якія жывуць у раней занятай плошчы, перасяляюцца ў зноў выдзеленую плошчу.

5. Калі ў момант выдзяленьня жылой плошчы ў камунальны фонд гэтая плошча занята працоўнымі, яны застаюцца займаць памяшканьне і на будучы час, калі ж выдзеленую плошчу займаюць асобы з непрацоўнага элемэнту (паказаныя ў п. „*в*“ арт. 7 палажэньня аб дзяржаўным падатку ад прыбытку—Зб. Зак. СССР 1928 г., № 1, арт. 2), то яны могуць быць выселены па суду з захаваньнем арт. арт. 156 і 157 Грамадзянскага Кодэксу БССР, г. зн. па сканчэньні тэрміну дагавору найма і калі ён быў заключаны раней выдзяленьня.

6. Жыхары плошчы, якая залічана ў камунальны фонд, павінны плаціць домаўласьніку кватэрную плату па ўстаноўленых стаўках.

Дамаўласьнік мае права высяляць гэтакіх жыхароў у судовым парадку ў выпадках, цаказаных у п. п. *в, е, д, з* і *і* арт. 173 Гр. Код. БССР.

Прапануемая пастанова дае адказы на пытаньні, якія ўзьнікаюць у практыцы выдзяленьня плошчы ў камунальны фонд. Праэкт прадстаўлен Народным Камісарыятам Юстыцыі ў Камісію Законадаўчых праэктаў пры СНК БССР і пажадана, каб гэты праэкт як можна худчэй прыняў сілу закона. Закон гэты ўпарадкуе справу выдзяленьня жылой плошчы ў камунальны фонд і ня будзе, трэба спадзявацца, выклікаць толькі непаразуменьняў у жыцьці, як закон 1925 г.

**Б. В.**

16/II 1928 г.

---

## ЮРЫДЫЧНАЯ ДАПАМОГА ПА ВІЦЕБШЧЫНЕ.

Пытаньню юрыдычнае дапамогі шырокім масам насельніцтва было удзелена даволі увагі з боку НКЮ, пагэтаму цікава азнаёміцца з ажыцьцяўленьнем гэтае галіны працы на мясцох. Адказам на гэта пытаньне могуць служыць у некаторай меры ніжэйпрыведзеныя лічбы аб юрыдычнай дапамозе па Віцебшчыне.

Ва ўсіх 11-ці раёнах Віцебскае акругі ёсьць юрыдычныя кансультацыі і 6 такіх-ж кансультацый існуе ў г. Віцебску непасрэдна на розных прадпрыемствах. Пры прафэсыянальных клюбах існуе ў

горадзе 6 даведачных сталоў; 4 даведачных сталы ёсьць у раёнах і апроч таго маецца 55 даведачных сталоў непасрэдна у вёсках пры хатах-чытальнях. Такім чынам, на абшары Віцебскае акругі знаходзіцца 80 ячэяк юрыдычнае дапамогі насельніцтву. Неабходна таксама дадаць, што для юрыдычнага абслугаваньня сэзоньнікаў (сплаўшчыкаў) была арганізована часовая юрыдычная кансультацыя, якая працавала на працягу ўсяго лета

Юрыдычныя кансультацыі абслугоўваюцца галоўным чынам сябрамі калегіі абаронцаў, а ў некаторых мясцох прыймаюць удзел у працы, паказаных кансультацый, і судовыя працоўнікі. Што-ж датычыцца даведачных сталоў, то ў апошніх працуюць пераважна загадчыкі хатамі чытальнямі, але і вясковая інтэлігэнцыя таксама прыймае ўдзез у працы даведачных сталоў. Настаўнікі, студэнты, якія праводзяць свой адпачынак у вёсцы і наогул вяскоўцы з сярэдняй адукацыяй ня ўхіляюцца ад дапамогі даведачным сталом. Агульнае кіраўніцтва і інструктаваньне даведачных сталоў праводзіцца сябрамі калегіі абаронцаў, шляхам выяздаў іх у паасобныя вёскі, дзе маюцца даведачныя сталы, пры якіх выяздах растлумачваюцца загадчыкам хат-чытален розныя пытаньні юрыдычнае дапамогі насельніцтву.

Толькі ў юрыдычных кансультацыях спаганяецца плата з тых асоб, якія зварочваюцца за дапамогай, пры чым разьмер аплаты адпавядае таксе НКЮ, а ў ва многіх выпадках і ніжэй гэтае таксы, а незаможным гр-нам пры прадстаўленьні імі аб гэтым адпаведных даведак, юрыдычная дапамога аказваецца бясплатна. Бясплатнай зьяўляецца таксама і юрыдычная дапамога, якая аказваецца ў юрыдычных кансультацыях пры прадпрыемствах, а ў даведачных сталох зусім не спаганяецца плата за аказваемую юрыдычную дапамогу, хоць разьмер аплаты апошняй прадугледжан таксай НКЮ.

Што датычыць працы даведачных сталоў і юрыдычных кансультацый, то за 1-ую палову 1927 зьвярнулася 13080 асоб па розных пытаньнях юрыдычнае дапамогі, пры чым з гэтага ліку 5139 асоб зьвярнулася за дапамогай у даведачныя сталы пры хатах-чытальнях, і 7941 асоба зьвярнулася за дапамогай у юрыдычныя кансультацыі. Галоўным чынам зварочваецца насельніцтва па грамадзянскіх справах—2186 выпадкаў, некалькі ніжэй лічба юрыдычнае дапамогі па крымінальных справах (1660) і яшчэ менш па зямельных справах (1340). Астатнія выпадкі зварочваньня за юрыдычнай дапамогай прыходзяцца па адміністрацыйных і інш. справах.

З прыведзеных лічбаў відаць, што арганізацыя юрыдычных кансультацый і даведачных сталоў бязумоўна апраўдала сябе і зьяўляецца вельмі карыснай формай набліжэньня юрыдычнае дапамогі да насельніцтва і ў вядомай меры дапамагае юрыдычна няпісьменым асобам абараняць свае інтарэсы і правы.

Нельга, аднак, абыйсьці моўчкам і адмоўныя бакі працы юрыдычных кансультацый і дадаведачных сталоў. Большасьць юрыдычных кансультацый і амаль ня ўсе даведачныя сталы ня маюць ніякае юрыдычнае літаратуры, а там, дзе яна ёсьць, то гэта хутчэй намёк на юрыдычную літаратуру, але не літаратура неабходная пры штодзенай працы па аказваньню юрыдычнае дапамогі па розных галінах права.

Нездавальняючымі зьяўляюцца таксама выпадковыя выезды паасобных сяброў калегіі абаронцаў ў вёску для інструктаваньня загадчыкаў даведачнымі сталамі. Адбіваецца таксама на якасьці працы даведачных сталоў і тое, што кожны працоўнік гэтых сталоў паві-

нен невядома колькі часу чакаць чарговага прыезду сябра калегіі абаронцаў для вырашэньня розных пытаньняў, узьнікшых у яго практыцы, ня маючы адначасна магчымасьці аказваць адпаведную юрыдычную дапамогу па затруднічельных для яго пытаньнях.

Нізкай зьяўляецца таксама і колькасьць аказанае юрыдычнае дапамогі (13080 асобам), гэта тым больш пацьцьвярджаецца пры параўнаньні з лічбай аб колькасьці асоб, якія мелі справы ў судох за гэты-ж час. Так, напрыклад, за 1-ую палову 1927 г. паступіла 29116 грамадзянскіх і крымінальных спраў у судовыя органы Віцебскае акругі (у Нарсудох і Акрсудзе); калі лічыць, што ў сярэднім па кожнай справе прыцягваліся ў Суд па 2 асобы, то значыць, што за гэты час прайшло праз Суды 58232 ісцоў, адказчыкаў, абвінавачаных і пацярпеўшых і з ліку гэтых асоб толькі 3846 ч. (2186 па грам. справах плюс 1660 па крым. справах), або 6 проц., зьвярнулася за юрыдычнай дапамогай у юрыдычныя кансультацыі і даведачныя сталы. А ў якім стновішчы юрыдычная дапамога астатнім 94 проц.?.

Адказам на гэта пытаньне зьяўляюцца вышэйпрыведзеныя недахопы юрыдычнае дапамогі насельніцтву, якія недахопы адбіваюцца на якасьці працы памянёных ячэек юрыдычнае дапамогі, пры якіх умовах юрыдычныя кансультацыі і даведачныя сталы не здавальняюць патрэбнасьцяў насельніцтва у юрыдычнай дапамозе.

Міма волі ўзьнікае пытаньне, ці магчыма адхіліць тыя недахопы, якія пагоршваюць працу юрыдычных кансультацый і, галоўным чынам, даведачных сталоў на вёсцы, а калі магчыма, дык якія меры неабходны для гэтага?

Перш-на-перш, здаецца, нам неабходна забясьпечыць даведачныя сталы юрыдычнай літаратурай, а там, дзе гэта немагчыма—Нарсудзьдзям, вучастковым пракурорам і сябрам калегіі абаронцаў належыць дагаварыцца паміж сабой і размнажаць на пішучых машынках (і Райвыканкомы напэўна дадуць свае машынкі) найбольш важныя зьмяненьні законаў, якія бываюць ад часу да часу, рассылаць іх загадчыкам даведачнымі сталамі і растлумачыць парадак сыстэматызацыі гэтых матар'ялаў, каб у далейшым магчыма было адразу знайсьці неабходную законадаўчую даведку.

Сябрам калегіі абаронцаў неабходна павялічыць колькасьць выездаў у вёскі для інструктаваньня загадчыкаў даведачнымі сталамі і ўстанавіць планавасьць гэтых выездаў, нарсудзьдзям і вучастковым пам. пракурора належыць таксама прыняць удзел у гэтай працы, якая зьяўляецца часткай грамадзкай працы. Мэтазгодна было-б таксама ўвясьці пэрыядычныя нарады ўсіх загадчыкаў даведачнымі сталамі раёну і на гэтых нарадах абмеркаваць розныя пытаньні з практыкі працы даведачных сталоў. Неабходна таксама ўстанавіць больш цесную сувязь паміж загадчыкамі даведачнымі сталамі і раённымі супрацоўнікамі і сябрамі калегіі абаронцаў, што магчыма дасягнуць шляхам абмену лістамі паміж паказанымі працоўнікамі ў ва ўсіх тых выпадках, калі выезд зьяўляецца немагчымым. Гэтыя лісты дадуць магчымасьць загадчыкам даведачных сталоў адразу атрымліваць адказ на тое пытаньне, якое цікавіць іх, а не чакаць чарговага прыезду каго небудзь з раёну.

Належыць лічыць, што гэта форма інструктаваньня нізавых ячэек юрыдычнае дапамогі насельніцтву і ажыцьцяўленьне вышэйпаказаных мерапрыемств павінны палепшыць працу даведачных сталоў і дадуць магчымасьць з большым посьпехам змагацца з падпольнай адвакатурай.

**Уладаўскі.**

# АБ ПАРАДКУ НАЗНАЧЭНЬНЯ ДА РАЗГЛЯДУ СПРАЎ У КАС. ІНСТАНЦЫЯХ АКРУГОВЫХ СУДОЎ.

Абежнікам НКЮ за № 97 ад 10 лістапада 1927 году, апублікованым у бюлетэні СНК БССР № 17—1927 г. паказваецца парадак прызначэньня да разляду касацыйных спраў Акрсудоў непасрэдна Народнымі Судамі, пры падачы ў апошнія касацыйных скарг.

З свайго боку, выходзячы з практыкі, бо Аршанскім Акрсудом гэтакі парадак прымяняецца ужо на працягу 10 месяцаў, магу сказаць, што ён сябе цалкам апраўдывае і дае ў выніках значнае скарачэньне працы тэхнічнага апарату, эканомію сродкаў і на многа скарачае працяглась спраў, напрыклад: па нашай Акрузе працяглась руху касацыйных спраў раённых Нарсудоў, ня больш месяца, а гарадзкога Нарсуду, ня больш 7 дзён і гэтым самым набліжае Суд да насельніцтва, якое вельмі гэтакім парадкам здаволь· нена і само просіць працягваць яго ў далейшым.

Практыка у гэтай галіне паказала, што гэты парадак прызначэньня да разгляду спраў, нельга распаўсюджваць на арыштанскія справы, выходзячы з наступнай мэтазгоднасьці: асуджаныя народнымі судамі і знаходзячыяся пад вартай не заўсёды могуць пасьпець падаць касацыйную скаргу у той час, калі ячы яшчэ знаходзяцца у раёне, а звычайна скаргі імі ўжо падаюцца праз Спраўдомы, якія ўбольшасьці знаходзяцца ў Акруговым горадзе, там-жа, дзе і Акрсуд. Нарсуд атрымаўшы скаргу, ужо павінен прызначыць справу да разгляду, з такім разьлікам, каб пасьпець паслаць абвестку асуджанаму, ды ён і не заўсёды ўпэўнен, што апошні яе атрымае, бо бывалі такія выпадкі, што справа слухаецца кас. інстанцыяй, а асуджаны знаходзіцца дзе нябудзь на працы, бо не пасьпелі яго паведаміць, ды і на огул зацягваецца рух спраў. Пагэтаму такія справы больш мэтазгодней прызначаць на разгляду непасрэдна Акрсуду, які можа прызначыць для іх асобны дзень, ці бліжайшае пасяджэньне кас. інст., бо іх наогул і ня многа бывае.

Па маёй думцы патрэбна было-б абгаварыць пытаньне аб увядзеньні гэтага парадку і ў Вярхсудзе, дзе паводле арт. 435 КПК, старон хаць і не выклікаюцца, але зьявіўшыяся дапушчаюцца, а азнаямляцца са сьпісам спраў прызначаных да слуханьня ня ўсе маюць магчымасьці, гэта па мойму быў-бы яшчэ адзін крок да набліжэньня суду да насельніцтва.

**М. Белянец.**

# РАСТЛУМАЧЭНЬНІ ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ.

**па пытаньні хто павінэн накладаць адміністрацыйныя пакараньні за парушэньне абавязковых пастаноў выданых Горсаветамі.**

Па пытаньні, хто павінен накладаць адміністрацыйнае пакараньне за парушэнние абавязковых пастаноў Горсаветаў—Прэзыдыум горсавету або адміністрацыйны аддзел АВК, Пракуратура Рэспублікі растлумачыла:

Згодна п. „а“ арт. 18 палажэньня аб гарадзкіх саветах у рэдакцыі пастановы III сэсіі ЦВК VII скліканьня за 2 ліпеня 1926 году, гарадзкім саветам даецца права выдаваць абавязковыя пастановы і накладаць за іх парушэньне адміністрацыйныя ўзысканьні. Калі згодна арт. 15, Гарадзкія саветы не утвараюць сваіх аддзелаў, а ажыцьцяўляюць свае мерапрыемствы праз аддзелы акруговых і апараты раёных выканаўчых камітэтаў, дык гэта значыць, што гэтыя аддзелы і апараты праводзяць тэхнічную працу і не ў якім разе не ажыцьцяўляюць тых праў, якія належаць прэзыдыумам горсаветаў, як выбарным органам, якім у межах палажэньня аб іх, належыць уся ўлада на мясцох.

Згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК ад 13/XI-26 г. аб арганізацыі акрвыканкомамі адміністрацыйных аддзелаў, на гэтыя аддзелы ўскладаецца ўся адміністрацыйная праца акрвыканкому ў тым ліку і накладаньне адміністрацыйнага пакараньня. Гэта значыць папершае, што да гэтых аддзелаў датычыць накладаньне адмністрацыйнага пакараньня за парушэньне абавязковых пастаноў, выданых акрвыканкомамі, калі гэта не перададзена ніжэйшым органам на падставе арт. 7-га палажэньня, а падругое, гэта значыць, што і па гэтых абавязковых пастановах, падрыхтоўчая работа праводзіцца не сакратарыятамі, якія ліквідуюцца, а адміністрацыйнымі аддзеламі, але і гэта падлягае зацьверджаньню Прэзыдыўму, або старшыні АВК, згодна арт. 10 палажэньня.

У Компэнтацыю АВК, згодна палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў, уваходзіць апроч накладаньня адміністрацыйнага пакараньня, таксама і разгляд скарг на пастановы прэзыдыумаў Райвыканкомаў, а ў сучасны момант і горсаветаў. Відовачна, што начальнік адміністрацыйнага аддзелу, як асоба прызначная па дагавору найма ня можа адмяняць пастаноў выбраных органаў улады, якімі зьяўляюцца прэзыдыўмы Райвыканкомаў і Горсаветаў і гэта супярэчыць частцы 3-й арт. 55 Канстытуцыі БССР.

Паводле сказанага адміністрацыйныя аддзелы АВК могуць праводзіць толькі тэхнічную працу па накладаньні адміністрацыйнага пакараньня за парушэньне абавязковых пастаноу, выданых Горсаветам, пастановы-ж аб пакараньні павінны падпісвацца прэзыдыумамі горсаветаў.

**Аб месцы накладаньня пакараньня за лесапарубкі.**

Па пытаньні, дзе павінны накладацца пакараньні за лесапарубкі —па месцу лесапарубкі або па месцу жыхарства лесапарубшчыка, калі ен пражывае ў іншым раёне, або акрузе, пракуратура рэспублікі растлумачыла:

Парадак накладаньня адміністрацыйнага пакараньня за лесапарубкі, г. зн. за парушэньне арт. 99 Кр. Код., рэгулюецца Палажэньнем аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне (З. З. 25 г. № 31 арт. 228) пры гэтым,

згодна арт. 14, гэтае пакараньне накладаецца ў парадку арт.7-18 са зьменамі, паказанымі ў арт. 14-м, якія не датычаць пытаньня аб месцы накладаньня адміністрацыйнага пакараньня.

Выходзячы з сэнсу арт. 7 Палажэньня, трэба лічыць, што за парушэньне абавязковых пастаноў пакараньне прызначаецца тым органам (АВК, або РВК), якім выдана абавязковая пастанова, за выключэньнем выпадкаў, калі АВК даручыў РВК накладаньне адміністрацыйнага пакараньня за парушэньне абавязковае пастановы, выдадзенай АВК. Наколькі АВК і РВК выдаюць абавязковыя пастановы, якія абавязковы ў межах падпарадкаванай ім тэрыторыі, гэта значыць, што за парушэньне абавязковых пастаноў пакараньне накладаецца па месцу парушэньне, незалежна ад месца жыхарства парушыцеля.

З прычыны таго, што ў арт. 14 палаженьня для накладаньня пакараньня не ўнесена іншага прынцыпу, гэтае правіла аб накладаньні пакараньня па месцу парушэньня павінна ужывацца і пры парушэньні паказаных у арт. 14 палажэньня артыкулаў КК, у тым ліку і за лесапарубкі.

Гэты - ж парадак адпавядае і таму агульнаму правілу, зьмешчаному ў палажэньнях аб акруговых і раённых Зьездах Саветаў і іх выканаўчых камітэтах і аб горсаветах, згодна якога улада АВК, РВК і Горсавету пашыраецца толькі на межы падпарадкаванай ім тэрыторыі а таму яны могуць накладаць у вызначаных у законе выпадках, пакараньні толькі за учынкі, адбыўшыяся на іх тэрыторыі.

Наколькі перасьледваньне лесапарубак часта патрабуе расьсьледваньня, а часам і праверкі пры накладаньні пакараньня і пры аскарджаньні, і пакараньне павінна адбыцца ў вызначаны ў арт. 11 палажэньня тэрмін, накладаньне адміністрацыйнага пакараньня па месцу парушэньня адпаведае і задачам практычнага ажыцьцяўленьня барацьбы з лесапарушэньнямі.

# З СУДОВАЕ ПРАКТЫКІ АСОБНАЕ КАЛЕГІІ ВЫШЭЙШАГА КАНТРОЛЮ ПА ЗЯМЕЛЬНЫХ СПРАВАХ.

У студзені—месяцы 1928 г. у АКВК разглядалася цікавая з прынцыповага боку справа № 116 па спрэчцы Пульхеры Пратасевіч з гр-мі Янкам і Язэпам Бурачэўскімі аб 8 дзес. зямлі.

Акалічнасьці зправы наступныя:

Малазямельныя Янка і Язэп Бурачэўскія, жыхарствуючыя ў Магілёўшчыне, карысталіся спрэчнаю зямлею ў колькасьці каля 8 дзес. бязупынна з 1908 году па 1926 год. Да рэвалюцыі гр-не Бурачэўскія за карыстаньне спрэчнаю зямлею плацілі яе Быўшай Уласьніцы Пульхеры Пратасевіч арэнду, а пасьля Рэвалюцыі да 1926 г. давалі ёй палову ўраджаю ад спрэчнае зямлі.

У 1927 г. між Пратасевіч і Бурачэўскімі пачаліся спрэчкі аб гэтай зямлі, у зьвязку з чым і ўзьнікла гэта зямельна-судовая справа.

Бялуніцкая Раён. Зям. Кам. сваім рашэньнем ад 15 чэрвеня 1927 г. пакінула спрэчную зямлю ў карыстаньні грамадзян Бурачэўскіх.

Магілёўская Акр. Зям. Кам. адмяніла сваім рашэньнем ад 19 верасьня 1927 г. пастанову Бялыніцкае Р. З. К. і спрэчную зямлю перадала ў карыстаньне гр. Пульхеры Пратасевіч.

АКВК, разглядзеушы 13 студзеня 1928 г. гэту справу ў парадку нагляду па скарзе гр-н Бурачэўскіх, знайшла, што:

1) Гр-н Янку і Язэпа Бурачэўскіх застаў на спрэчнай зямлі дэкрэт аб сацыялізацыі зямлі ад 1918 г., які сваім 3 арт. падкрэсьліў, што права карыстацца зямлею належыць тым, якія апрацоўваюць яе ўласнай працай, і які значыць працоўных арандатараў зямлі зрабіў законнымі яе карыстальнікамі.

Гр-не Бурачэўскія карысталіся таксама спрэчнаю зямлею ў момант выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні ад 22 мая 1922 году, які ўпяршыню ўстанавіў у савецкім законадаўстве інстытут працоўнае арэнды зямлі.

2) Пагэтаму і з прычыны доўгалетняга карыстаньня спрэчнаю зямлею гр-не Бурачэўскія набылі на яе права працоўнага карыстаньня ў моц 124 арт. Зям. Код, і на іх праве на гэту зямлю ня можа адбіцца тое, што быўшая ўласьніца яе Пульхерыя Пратасевіч атрымоўвала ў іх

незаконна за карыстаньне зямлею частку ўраджаю.

3) Пульхерыя Пратасевіч асабіста з 1908 г. не абрабляла спрэчнае зямлі, якая, такім чынам, была для яе толькі крыніцаю да атрыманьня непрацоўнага даходу.

Грунтуючыся на гэтым і зрабіўшы таксама спасыланьне на зямельную палітыку Савецкага Ураду, АКВК адмяніла рашэньне Магілеўскае А.З.К. ад 19 верасьня 1927 г. і зацьвердзіла рашэньне Бялыніцкае Р.З.К. ад 15 чэрвеня 1927 г., пакінуўшы, такім чынам, спрэчную зямлю ў карыстаньні гр-н Бурачэўскіх.

**Д. Г.**

---

# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС АД 1-га КАСТРЫЧНІКА ДА 1-га ЛІСТАПАДА 1927 года.

## *А. Пастанова ўраду СССР.*

### I. Праца.

1) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 30 верасьня 1927 г. **аб прыраўнаньні працаўнікоў літаратурнае працы, а таксама мастакоў, разьбяроў і навуковых працаўнікоў у адносінах да кватэрнае платы да рабочых і служачых** („Изв. ЦИК“ № 225—1/X 1927 г.) Саюзным Рэспублікам дана права ўстанаўляць для паасобных катэгорый асоб вольных прафэсій ільготную аплату жылых памяшканьняў. Працаўнікі літаратурнае працы, для якіх літаратурны заработак зьяўляецца асноўнаю крыніцаю сродкаў да існаваньня, а таксама мастакі, разьбяры і навуковыя працаўнікі прыраўніваюцца ў адносінах да аплаты жылых памяшканьняў да рабочых і служачых.

2) Паводле пастановы СНК СССР за 30-га верасьня 1927 г. **аб прыраўнаньні працаўнікоў літаратурнае працы, мастакоў і разьбяроў і іх дзяцей, а таксама дзяцей навуковых працаўнікоў у адносінах паступленьня ў навуковыя ўстановы да рабочых і дзяцей рабочых**, („Изв. ЦИК“ № 225—1/X 1927 г.) літаратурныя працаўнікі, для якіх літаратурны заработак зьяўляецца асноўнаю крыніцаю сродкаў да існаваньня, мастакі і разьбяры карыстаюцца ў адносінах паступленьня ў навучальныя ўстановы ўсімі перавагамі, якія даюцца рабочым. Дзеці азначаных асоб, а таксама дзеці навуковых працаўнікоў у адносінах парадку прыёму у навучальныя ўстановы павінны прыраўнівацца да дзяцей рабочых.

3) Пастанова Прэзыдыуму ЦВК СССР за 26 кастрычніка 1927 г. **аб сьвяточных днях, афяраваных угодкам кастрычнікаўскае рэволюцыі, і аб асобных днях адпачынку** („Изв. ЦИК“ № 247—27/X 1927 г.) устанаўляе святкаваньне ўгодкаў кастрычнікавае рэволюцыі штогодна на працягу двух дзён—7 і 8 лістапада; асобныя дні адпачынку ўстанаўляюцца ў ліку сямі на год, у парадку, які вызначаецца Кодэксамі Законаў аб працы саюзных рэспублік.

### II. Фінансы і крэдыт.

4) Паводле Пастановы ЦВК і СНК СССР за 1 кастрычніка 1927 г. **аб дазволе Народнаму Камісарыяту Шляхоў выпусьціць гарантываную ўрадам СССР аблігацыйную пазыку на суму 6 міліёнаў чырвонцаў (60 міліёнаў рублёў)** („Изв. ЦИК“) № 226—2/X 1927 г.), гэтая пазыка выпушчаецца тэрмінам на 7 гадоў; облігацыі выпушчаюцца годнасьцю ў 10, 25, 50 і 100 чырвонцаў. Па облігацыях пазыкі налічаюцца 9 проц. гадавых, якія выплачваюцца па купонах за кожныя 3 месяцы. Пагашэньне пазыкі пачынаецца ад 1-га сакавіка 1929 г адбываецца два разы на год; у кожны тэрмін пагашаюцца облігацыі на суму 500.000 чырвонцаў. Облігацыі пазыкі карыстаюцца льготамі, як па іншых пазыках.

5) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 28 верасьня 1927 г. **аб дапаўненьні палажэньня аб дзяржаўных працоўных касах ашчаднасьці СССР** („Изв. ЦИК“ № 231—8 X 1927 г.) уводзіцца прыём касамі ашчаднасьці ад сваіх укладчыкаў падаткаў—адзінага сельска-гаспадарчага, ад прыбытку, зраўнальнага, гэрбавага збору, мясцовых падаткаў і інш.

## *Б. Пастанова ўраду БССР.*

### I. Праца.

1) Згодна пастановы ЦВК і СНК за 13-га кастрычніка 1927 г. **аб зьмене п. „е“ артыкулу 47 Кодэксу Законаў аб працы** („Сав. Бел.“) № 238—19/X 1927 г.) працоўны дагавор можа быць скасаваны ў выпадку нязьяўкі на работу ў агульнай колькасьці ў працягу трох дзён у месяц бяз важных прычын (паводле ранейшай рэдакцыі—у выпадку нязьяўкі на працягу больш трох дзён або ў агульнай колькасьці больш шасьці дзён на месяц).

### II. Вайсковая справа.

2) Пастановай СНК за 5 кастрычніка 1927 г. **аб льготах для быўшых чырвоных партызанаў і іх сем'яў** („Сав. Бел.“ № 245—27/X 1927 г.) быўшым чырвоным партызанам даны наступныя льготы: у галіне працоўнага землякарыстаньня і сельскай гаспадаркі—у адносінах выдачы насенных пазычак, карыстаньня сельска-гаспадарчым інвэнтаром з пракатных пунктаў, дачы крэдыту, выдачы лясных матар'ялаў,

атрыманьня ў працоўнае карыстаньне зямлі і інш. У галіне народной асьветы—у адносінах прыёму дзяцей чырвоных партызанаў у дзічачыя дамы, сады, калёніі, школы і звальненьня іх ад платы за навучаньне, а таксама дачы ім стыпэндый. У галіне аховы здароўя ім дадзены правы, якімі карыстаюцца застрахованыя рабочыя і служачыя. Таксама дадзен шэраг льгот у галінах сельска-гаспадарчага, падаходнага і мясцовых падаткаў, абавязковага акладнога страхаваньня і рэнтавага абкладаньня.

## III. Народная гаспадарка.

3) Пастанова ЦВК і СНК за 22 верасьня 1927 г. **аб парадку сьпісаньня даўгоў дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі** („Сав. Бел." № 224—2-X-27 г.) выдана на скасаваньне пастановы СНК за 10-VI-25 г. аб парадку сьпісаньня дробных даўгоў бяз судовага разгляду Завінавачанасьць можа сьпісвацца бяз узьняцьца іску, калі сума доўгу менш за выдаткі на яе спагнаньне, ці калі відявочна немагчыма спагнаць доўг (безнадзейныя даўгі). Кіраўнікі прадпрыемстваў маюць права самастойна сьпісваць даўгі ў суме ня перавышаючай 100 р., да 1000 руб.—з дазволу ўстановы, якой падпарадкавана прадпрыемства і звыш 1000 р.—у парадку зацьверджаньня балянсаў. Установы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца на дзяржаўным або мясцовым бюджэце, могуць сьпісваць бяз узьняцьця іску даўгі, не перавышаючыя 10 р., а на суму звыш 10 р. у парадку, які ўстанаўляецца Народнымі Камісарыятамі Фінансаў СССР або БССР.

4) Паводле пастановы ЦВК і СНК за 13 кастрычніка 1927 г. **аб нормах кватэрнай платы ў дамох, пабудаваных і адбудаваных на сродкі дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў** („Сав. Бел." № 240—21 X-27 г.) нормы кватэрнай платы ў гэтых дамох устанаўляюцца гарадзкімі і местачковымі саветамі ня ніжэй кошту эксплёатацыі адзінкі жылой плошчы, яе амортызацыі і аплаты процантаў на ўзятую для будаўніцтва пазычку; кошт амортызацыі ўстанаўляецца на 1 год ад 1 проц. да 1.5 проц. саупраўднага кошту будынку. Стаўкі аплаты памяшканьняў павінны устанаўляцца ўстановамі і прадпрыемствамі ў залежнасьці ад якасьці і ўпарадкаваньня кватэр.

---

# Агляд важнейшых актаў Савецкага Заканадаўства апублікованых за час ад 1 лістапада да 1 сьнежня 1927 г.

## *А. Пастановы Ураду СССР.*

### I. Праца.

1) Паводле пастановы СНК СССР за 10 кастрычніка 1927 г. **аб перайначаньні часовых правіл аб умовах ужываньня дапаможнае працы ў сялянскіх гаспадарках** („Изв. ЦИК" № 251—1/XI-27 г.) на сялянскія гаспадаркі прамысловага тыпу пашыраюцца законапалажэньні аб умовах працы, якія ужываюцца ў савецкіх гаспадарках, пакольні тыя ці іншыя выпадкі для сялянскіх гаспадарак прамысловага тыпу не ўстаноўлены адмысловымі законамі. Парадак аднясеньня сялянскіх гаспадарак да ліку гаспадарак прамысловага тыпу устанаўляюцца СНК саюзных рэспублік; ва ўсякім выпадку да гаспадарак прамысловага тыпу адносяцца сялянскія гаспадаркі, у якіх ужываецца праца ня менш 3 парабкоў на працягу цэлага сэзону, і таксама, калі члены двара павінны выбіраць патэнты на прамысловыя прэдпрыемствы ня ніжэй 2 разраду ці на гандлёвыя прадпрыемсгвы аба на запытак пасрэдніцтвам, незалежна ад разраду.

2) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 9 лістапада 1927 г. зацьверджана Палажэньне **пра кампэнсацыі пры пераводах і пры найме на работу ў іншыя мясцовасьці** („Изв. ЦИК" № 269—29/XI-27 г.). Рабочым і служачым якіяпераводзяцца паводле загаду наймальніка, выплачваюцца: кошт пераезду перавадзімага і членаў яго сям'і, кошт правозу хатняе маемасьці (ня звыш 240 кгр. на перавадзімага і 80 кгр. на кожнага члена сям'і), сутачныя перавадзімаму за час яго пабытку ў дарозе і дадаткова за 6 дзён (у вялічыні 1/30 яго месячнага заработку) і аднячасовая дапамога ў вялічыні месячнага заработку па месцу ранейшай работы і ў вялічыні 1/4 дапамогі самаго перавадзімага на кожнага члена сям'і, які з ім параяжджае. Рабочым і служачым, якія пераводзяцца па ўласнай просьбе і нанова наймаюцца на работу у другія мясцовасьці, компэнсацыі, прадугледжаныя гэтай пастановай, не выдаюцца.

### II. Фінансы і крэдыт.

3) Пастановай СНК СССР за 24 кастрычніка 1927 г **аб увядзеньні страхаваньня аблігацый дзяржаўнае ўнутранае выйгрышнае пазыкі 1926 году ад выхаду ў тыраж пагашэньня** („Изв. ЦИК" № 257—10-XI-27 г.) уключана ў кола опэрацый па дзяржаўнаму страхаваньню страхаваньне облігацый дзяржаўных пазык ад выхаду ў тыраж пагашэньня; страхавая ўзнагарода не павінна перавышаць розьніцы між біржавой цаной

облігацый на дзень, наступны за тыражом, і яе назоўнай вартасьцю.

### III. Коопэрацыя.

4 Пастановай СНК СССР за 15 кастрычніка 1927 г. **аб аднаўленьні ў адносінах крэдытсва-коопэрацыйных організацый чыннасьці пастановы СНК СССР за 22 ліпеня 1927 г. пра ўзварот маемасьці сельска-гаспадарчай, прамысловай і крэдытовай коопэрацыі** („Изв. ЦИК“ № 253—3-XI-27 г.) адноўлены тэрмінамі на адзін год у адносінах крэдытова-коопэрацыйных арганізацый (таварыстваў і саюзаў),якія узьнікаюць і рэорганізуюцца на падставе закону 18 студзеня 1927 г. аб коопэрацыйным крэдыце, чыннасьць пастановы СНК СССР за 22-VII-27 г. аб узвароце маемасьці сельска-гаспадарчай, прамысловай і крэдытнай коопэрацыі.

## *Б. Пастановы Ўраду БССР.*

### I. Крымінальнае права.

1) Пастанова прэзыдыуму ЦВК за 27 кастрычніка 1927 году **аб скасаваньні кары сьмерцю (растрэлу) за некатарыя злачынствы** („Сав. Бел.“ № 252—4-XI-27 г.) выдана паводле маніфэсту ЦВК СССР ад 15 кастрычніка 1927 г. Пакараньне сьмерцю (растрэл), як мера сацыяльнае абароны, касуецца за ўсе злачынствы, апроч злачынстваў дзяржаўных, вайскавых і ўзброенага разбою. Вышэйшай мерай сацыяльнай абароны, якая павінна замяніць пакараньне сьмерцю, лічыцца пазбаўленьне волі са строгай ізаляцыяй тэрмінам на дзесяць год.

### II. Зямельнае права.

2) Пастановай СНК за 20 жніўня 1927 г. **аб дапаўненьні п. „в“ арт. 5 пастановы СНК БССР за 11 лютага 1927 г. аб судовых зборах па справах, якія падсудны зямельным камісіям** („Сав. Бел“ № 255—11-XI-27 г.) ад судовых пошлін звальняюцца бядняцкія і калектыўныя сельскія гаспадаркі пры спрэчках аб праве карыстаньня зямлёй.

### Ш. Грамадзянскае судаводзтва.

3) Пастановай ЦВК і СНК за 17 лістапада 1927 г. **аб зьмене пункту „а“ артыкулу 1-га пастановы ЦВК і СНК за 29 мая 1925 г. аб пазбаўленьні народных судоў ад разгляду некаторых катэгорый спраў, разглядаемых у парадку грамадзянскага судаводзтва** („Сав. Бел.“ № 271—30-XI-27 г.) народныя суды пазбаўлены ад разгляду спраў аб устаноўленьні працоўнага стажу, калі яно зьвязана з назначэньнем пэнсіі, перадаўшы іх Галоўнай Управе Сацыяльнага Страхаваньня і яе органам на мясцох.

С. Рахманін.

---

# Хроніка.

### У Народным Камісарыяце Юстыцыі.

Народным Камісарыятам Юстыцыі за апошнія два месяцы распрацованы і накірованы ў Камісію Заканадаўчых Праэктаў наступныя заканапраэкты:

*Аб унясеньні дапаўненьняў і зьмен у Кр. Прац. Кодэксе БССР выданьня 1927 году.*

Прапанаваныя ў праэкце дапаўненьні і зьмены выклікаюцца патрэбамі рацыяналізацыі апарату, спрашчэньня судаводзтва і прысьпяшэньня прасоўваньня спраў у органах дазнаньня, судова-сьледзкіх і пракуратуры, і зроблены галоўным чынам, у адпаведнасьці з дырэктывамі НК РСІ СССР.

Найбольш істотныя з іх заключаюцца ў наступным:

I. Сьледчыя органы цалком і выключна падпарадкаваны органам пракуратуры, пры чым вучастковыя сьледчыя зьяўляюцца мясцовымі прадстаўнікамі пракуратуры. У адпаведнасьці з гэтым прынцыпам: а) па справах, падсудных народнаму суду, сьледчыя могуць зьяўляцца абвінаваўцамі; б) у выпадку нязгоды сьледчага з пракурорам адносна меры прасячэньня прапанаванай пракурорам, пытаньне вырашаецца ня судом, як цяпер, а пракурорам, якому падпарадкаваны пракурор, зрабіўшы прапанову; в) скарга на спыненьне справы сьледчым падлягае разгляду ня суду, як цяпер, а пракурору; г) у

выпадку нязгоды сьледчага з экспэртам адносна матар'ялаў пытаньне вырашаецца ня судом, як цяпер, а пракурорам;

II. Пашыраны правы пракуратуры ў галіне накіраваньня спраў, па якіх вядзецца папярэдняе сьледзтва (арт. 108 КПК) і такім чынам значна палягчаецца работа суду: а) адданьне пад суд па гэтых справах і спыненьне гэтакіх спраў ва ўсіх выпадках робяцца самастойна пракуратурай, а ня судом, як цяцер, б) скаргі на дзеяньні пракурора вырашаюцца наступным у парадку падлегласьці пракурорам, з тым, што апошняй інстанцыяй зьяўляецца акругова пракурор.

III. Устанаўляюцца цьвёрдыя тэрміны вядзеньня спраў у органах дазнаньня сьледзтва і пракуратуры.

IV. Скасоўваюцца распарадчыя пасяджэньні ва ўсіх судовых установах—народных і акруговых судох і Вярхоўным судзе. У адпаведнасьці з гэтым: 1) у народным судзе: а) спыненьне на падставе арт. арт. 4, 4-а і 202 КПК спраў, якія паступаюць у народны суд непасрэдна, у тым ліку спраў, накіраваных органамі дазнаньня ў парадку п. 2 арт. 105 КПК, прыналежыць самотна народнаму судзьдзі, б) ім жа выконваюцца ўсе падрыхтавальныя да судовага пасяджэньня дзеяньні, у тым ліку—назначэньне або дапушчэньне прадстаўнікоў старон, адмова або здавальненьне хадайніцтва старон аб выкліку сьведкаў, экспэртаў і аб вытрабаваньні іншых довадаў, пры чым судзьдзя мае права абмежоўваць колькасьць сьведкаў, якія паказваюцца старанамі для пасьведчаньня тых жа абставін, аб забясьпячэньні іску і будучай канфіскацыі і г. д., в) яму-ж даецца права вырашаць пытаньні аб рэчавых доказах, калі гэтыя пытаньні ўзьнікаюць па-за судовага пасяджэньня, а таксама складаць у пэўных выпадках разьлік судовых выдаткаў, г) яму-ж прыналежыць накіраваньне скарг на дзеяньні і пастановы народнага судзьдзі або суду і вырашэньне хадайніцтв аб аднаўленьні тэрміну і аб вызваленьні сьведкаў, экспэртаў і іншых ад вызначаных судом за неяўку штрафаў, д) яму-ж прыналежыць задаваленьне хадайніцтв аб новым разглядзе справы, па якой вынесены завочны прысуд. 2). У акруговых судох і Вярхоўным судзе выкананьне ўсіх падрыхтавальных да судовага пасяджэньня дзеяньняў, таксама вырашэньне пытаньняў, якія ўзьнікаюць па-за судовагага пасяджэньня, прыналежыць—у акруговым судзе—старшыні суду альбо яго намесьніку, у Вярхоўным судзе—старшыні суду альбо старшыні судовай і касацыйнай калегіі гэтага суду, апрача тых выпадкаў, калі выкананьне тых або іншых абавязкаў ускладаецца выключна на старшыню акруговага суду і старшыню Вярхоўнага суду па прыналежнасьці. Апрача вышэй запісанага ў аддзеле IV у народным судзе, акруговым судзе і Вярхоўным судзе пытаньне аб мове, на якой будзе весьціся справа, вырашаецца народным судзьдзёй і старшынёю акруговага суду або Вярхоўнага суду па прыналежнасьці.

V. Пашырана падсуднасьць спраў народным судом:

1) акруговаму суду даецца права перадаваць на разгляд народнага суду ўсякую справу, падсудную акруговаму суду, за выключэньнем спраў аб дзяржаўных злачынствах і тых іншых спраў, па якіх судом можа быць вызначаны растрэл.

2) Народнаму суду даецца права, калі пры разглядзе справы ў судовым пасяджэньні выявіцца падсуднасьць яе акруговаму суду і калі справа гэта не адносіцца да паказаных вышэй ў п. 1 катэгорый спраў, пастанавіць па ёй прысуд. У абодвых паказаных выпадках касацыйная скарга на прысуд народнага суду разглядаецца

Вярхоўным судом, пры чым, калі прысуд ім адмяняецца, справа можа быць перададзена ім або ў народны або ў акруговы суд.

З іншых зьмен належыць адзначыць наступныя:

1) Паводле арт. 10 2 ч. праэкту справа, па якой магчыма замірэньне, не падлягае спыненьню за замірэньнем, калі суд або народны судзьдзя знаходзяць у абставінах справы парушэньні, закранаючыя грамадзкі інтарэс. Гэтае правіла неабходна ўвясьці ў КПК з прычыны таго, што пракуратура фізычна ня мае магчымасьці ведаць аб ўсіх справах прыватнага абвінавачваньня, якія вядуцца ў народных судох данага пракурорскага вучастку.

2. У п. 2 арт. 23 зьмешчана вызначэньне тэрміну „старшыня“ „старшыня акруговага суду,“ „старшыня Вярхоўнага суду.“

3. У арт. 25, параўнальна з чыннай рэдакцыяй, выключаны ўсе артыкулы Кр. Код., па якіх у якасьці аднае з мер сацыяльнай абароны паказана пазбаўленьне волі, бо, па думцы НКЮ, гэта мера зьяўляецца аднэю з найбольш суровых і дзеля таго гэтакія справы не павінны разглядацца ў парадку судовага загаду. Адначасова ў арт. 25 уключаны арт. 104 КК.

4. У арт. 50 унесена удакладненьне ў тым сэнсе, што ў ліку абвінаваўца, якія маюць права ўступаць у судох, паказаны „грамадзкія абвінаваўцы“, выступаючыя па ардэрох пракуратуры.

5. Паводле 3 ч. арт. 105 праэкту, ў адпаведнасьці з дырэктывамі НК РСІ СССР, на органы дазнаньня ўскладаецца абавязак па справах, якія накіроўваюцца сьледчаму для адданьня пад суд, складаць пастановы аб адданьні пад суд. Гэткае правіла значна палягчае работу сьледчага, бо ён у выпадку згоды с пастановай органу дазнаньня, толькі робіць на пастанове адпаведны надпіс.

6. У арт. 108 праэкту, між іншым, паказана, што папярэдняе сьледзтва альбо паасобныя сьледзкія дзеяньні па справах, па якіх яно не абавязкова, можа вясьціся таксама па пастанове сьледчага.

7. У арт. 264 праэкту, ў адпаведнасьці з дырэктывамі НК РСІ СССР, паказана, што справа можа разглядацца ў судовым пасяджэньні таксама ў выпадку ўручэньня падсуднаму копіі абвінавальнага заключэньня ці пастановы аб адданьні пад суд альбо позвы аб яўцы ў суд менш чым за трое сутак да дню пасяджэньня, калі маецца на гэта згода падсуднага. Гэтакае правіла мэтазгодна, бо яно адхіляе лішкавы фармалізм. Аналягічнае правіла ў праэкце ўстанаўляецца і для акруговых судоў.

8. У мэтах спрашчэньня і прысьпяшаньня працэсу разгляду справы ў судовым пасяджэньні і адхіленьня непатрэбнай валакіты, ў арт. 297-а праэкту ўстанаўляецца правіла, паводле якога суд, пры разглядзе справы мае права ва ўсякі момэнт спыніць допыт сьведкі ці сьведкаў, калі прызнае, што паказаньнямі дапытаных сьведкаў зусім устаноўлены абставіны, для ўстанаўленьня якіх даная сьведка выклікалася. У адпаведнасьці з гэтым, пры наяўнасьці арт. 380 КПК, выключаны з КПК арт. 394.

У тых-жа мэтах у арт. 304 праэкту уключана правіла, паводле якога суд мае права устанаўляць для спрэчак старон, у адносіне зьместу іх, вызначаныя граніцы і абмяжоўваць гэткія спрэчкі вызначаным часам.

9. У п. „б“ арт. 420 КПК уносіцца ўдакладненьне ў тым сэнсе, што касацыйная інстанцыя мае права, на падставе ўстаноўленых першаю інстанцыяю абставін, ужыць да асуджанага арт. арт. 28 і 36 КК.

10. З арт. 441 КПК выключана правіла, паводле якога справа, ытрабаваная ў парадку нагляду старшынёю Вярхоўнага суду, альбо

старшынёй крымінальна-касацыйнай калегіі Вярхоўнага Суду, пры нязгодзе іх з спыненьнем пракуратураю справаводзтва ў парадку нагляду, перадаецца на разгляд касацыйнай калегіі. Гэткае правіла выключана на тэй падставе, што права паданьня пратэсту на прысуды ў парадку нагляду павінна цалком належаць да пракуратуры, якая зьяўляецца агульным органам нагляду за законнасьцю дзеяньняў усіх установ.

III. Аб пашырэньні на тэрыторыю быўшых Гомельскага і Рэчыцкага паветаў Гомельскай губ. РСФСР чыннасьці арт. 79 Крім. Код. БССР у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 16 кастрычніка 1926 г. (З. З. 1926 г. № 43, арт. 163.) Гэты законапраэкт распрацаван з прычыны хадайніцтв мясцовых органаў улады і ажыцьцяўленьне яго выклікаецца, галоўным чынам, больш мэтазгоднымі мерамі сацыяльнай абароны, прадугледжанымі ў арт. 79 КК у рэдакцыі БССР, параўнальна з гэткімі-ж мерамі арт. 79 КК рэдакцыі РСФСР, а таксама большай яснасьцю і дакладнасьцю зьместу арт. 79 КК БССР.

IV. *Аб таварыскіх судох пры дзяржаўных, грамадзкіх і кооперацыйных установах і прадпрыёмствах.*

Гэты праэкт распрацован у НКЮ у адпаведнасьці з дырэктывамі НК РСІ СССР з прычыны таго, што некаторыя дробныя правапарушэньні, якія цяпер прасьледваюцца ў парадку прыватнага абвінавачваньня, узьнікаюць, галоўным чынам, на грунце малакультурнасьці і патрабуюць ня столькі ўжываньня да правапарушцеляў мер сацыяльнай абароны судовапапраўнага характару, колькі ў маральным уплыве бліжэйшага таварыскага асяродзьдзя.

Паводле гэтага праэкту таварыскія суды ўводзяцца ў выглядзе спробы пры дзяржаўных, грамадзкіх і кооперацыйных установах і прадпрыёмствах гарадоў Менску, Віцебску, Гомелю і Бабруйску.

Асноўнымі момантамі гэтага законапраэкту зьяўляюцца:

а) таварыскія суды ўтвараюцца пры ўсіх дзяржаўных, грамадзкіх і кооперацыйных установах і прадпрыёмствах з лікам рабочых і служачых ня менш 25 чалавек і складаюцца з 3 сталых членаў і двух кандыдатаў, абіраемых агульным сходам рабочых і служачых установы, або прадпрыёмства.

2) Справы разглядаюцца таварыскім судом у нерабочы час публічна непасрэдна ва ўстановах або прадпрыёмствах, або ў рабочых клюбах у складзе аднаго сталага члена суду і двох засядацеляў з ліку рабочых і служачых данай установы або прадпрыёмства па чарзе ў альфабэтным парадку.

3) Нагляд і кіраваньне дзейнасьцю таварыскага суду, а таксама і інструктаваньне яго ўскладаецца на вучастковых народных судзьдзяў. Таварыскаму суду падсудны справы аб учынках рабочых і служачых установы або прадпрыёмства, пры якіх суд знаходзіцца, аб наўмысным нанясеньні удару, пабоеў і прычыненьні іншага гвалтоўнага дзеяньня (1 ч. арт. 157 КК) аб абразе і абмове (172-175 арт. арт. КК.)

4. Праследваньне за праступкі, якія падсудны таварыскаму суду, не дапушчаецца, калі з моманту учыненьня іх мінула 3 месяцы; судагаварэньне вытвараецца вусна і суд нязьвязан ніякімі фармальнасьцямі. Таварыскі суд ужывае меры уплыву: а) заўвагу, б) выгавар, в) грамадзкае ганьбаваньне, г) штраф нязвыш 15 руб., які абарочваецца на культурныя патрэбы калектыву рабочых і служачых; пастанова таварыскага суду па сутнасьці справы лічыцца канчатковай.

## Аб назначэньні, перамяшчэньні і звальненьні вучастковых і ст. сьледчых.

Пастановай ЦВК і СНК БССР ад 8 сьнежня 1927 г. (З.З. БССР № 47-1927 г., арт. 251) быў унесены дадатак да арт. арт. 68 і 82 „Палажэньня аб Судабудаўніцтве БССР“ аб тым, што перамяшчэньне памочнікаў акруговага пракурора і вучастковых сьледчых у межах акругі павінна рабіцца па загаду акруговага пракурора.

З мэтай наданьня большых праў акруговым пракурорам у справе падбору працоўнікаў—сьледчых Пракуратураў Рэспублікі ў сучасны момант прынцыпова выршана і будзе ў бліжайшы час унесен у законадаўчыя органы праэкт аб зьмене 82 арт. „Палажэньня аб Судабудаўніцтве БССР“ (З.З. БССР 1925 г. № 49, арт. 382). Па гэтаму праэкту назначэньне, перамяшчэньне і звальненьне вучастковых і ст. сьледчых у межах акругі будзе вытварацца непасрэдна распараджэньнем акруговага пракурора, з паведамленьнем аб гэтым Пракуратуру Рэспублікі. У сувязі з гэтым вядзеньне асабовых спраў, або працоўных сьпісаў на вучастковых і ст. сьледчых перадаецца цалком акрпракурору. За Цэнтральнай Пракуратурай застаецца толькі вядзеньне асабовых спраў на пракурорскі склад і цыфравы вучот на ўсіх працоўнікаў пракуратуры і сьледзтва (пракурораў, пам. пракурора і сьледчых).

---

## У БЮРО ЮРЫСКОНСУЛЬТАУ ВСНГ БССР.

4-го снежня 1928 г. адбылося чарговае пасяджэньне Бюро юрысконсультаў дзяржаўнай прамысловасьці пры ВСНГ БССР, на якім быў заслуханы даклад т. Макуня на тэму: „аб граніцах матэр'яльнай адказнасьці служачых за страты, якія былі ўтвораны дзяржоргану або каапэрацыі нядбайнымі адносінамі да службовых абавязкаў.

Дакладчык адзначыў, што чыннае заканадаўства працы ня ведае агульнай нормы аб мерах матар'яльнай адказнасьці працоўніка перад наймальнікам, апрача фактычна гарантыйнага арт. 83 К. З. аб П., які прадугледжвае адказнасьць працоўніка ў разьмеры ня звыш 1/3 месячнай стаўкі (тарыфнай) за псаваньне прыладаў, вырабаў і матар'ялаў з прычыны нядбайнасьці або не выкананьня правіл унутранага распарадку.

Калі-ж зьвярнуцца да дзеючых законаў, то сустракаюцца наступныя цяжкасьці: 1) працоўны дагавор прадугледжвае ня толькі рэгуляваньне працоўных ўзаемаадносін, але-ж і публічныя правы службовай асобы адносна кіраваньня маемасьцю, 2) У. К. і З. З. а П. не дапасаваны адносна пытаньня аб вызначэньні паняцьця: „службовая асоба“ і 3) таксама-ж няма адпаведных адносін паміж Г. К. і К. З. а П.

У юрыдычнай літаратуры ёсьць 2 пагляды адносна гэтага пытаньня:

1) меншасьць аўтараў (гал. ч. т. Вармаўскі на старонках час.: „Вопросы Труда“ за 1927 г. №№ 1 і 2) стаяць на пункце погляду аб адплаце за ўтвораную шкоду. ў выпадках адсутнічаньня дагаворных ўмоў паміж старон (403 а. Г. К.) і прыстасаваньня агульных прынцыпаў 117 і 118 а. Г. К. пры дагаворы і

2) большасьць аўтараў маючы на ўвазе прэзумпцыю, што згодна 3 а. Г. К., Г. К. не прыстасоўваецца да працоўных ўзаемаадносін, даюць пашыранае тлумачэньне 83 арт. К. З. а П., для вычэрпываючай меры адказнасьці служачых, робячы выключэньне толькі ў выпадках крымінальнай і дысцыплінарнай адказнасьці і простых норм закону аб абавязках загладзіць прычыненую злачынствам шкоду.

Прынцып 117 а. Г. К., які прадугледжвае ўтварэньне шкоды ў сэнсе адплаты за простыя страты і згубленую карысьць, ня можа пашырацца поўнасьцю на працоўныя ўзаемаадносіны, да якіх можа прыстасавацца толькі прынцып віны, бо ў супрацiўным выпадку нз працаўніка можа ўскладацца рызыка наймацеля пры аб,ектыўных ўмовах працы.

Зварочаючыся да апошніх законаў РСФСР, знаходзім ў некаторых выпадках ускладаньне на служачых поўнай адказнасьці за прычыненую шкоду, напрыклад, аб адказнасьці службовых асоб дзяржорганаў і каапэрацыі па кіраваньню нацыяналізаваных і муніціпалізаваных дамоў (С. У. 30/IV-1928 г. № 36 арт. 236), аб адказнасьці службовых асоб за матар'яльную шкоду, якая была ўтворана няправільнымі ўчынкамі па найманьню і звальненьню рабочых і служачых—С. У. 11/XII

1927 г. № 56, арт. 392, пасг. аб захадах да ахоўваньня памяшканьняў занягых установамі—С. У. 24/IX-1927 г. № 86. Апошні дэкрэт СНК РСФСР за 29 ліпеня 1927 г. прадугледжвае матар'яльную адказнасьць гандлёвых служачых дзяржаўных і каапэрацыйных прадпрыемстваў, устаноў і складаў, пад адказнасьць якіх працоўнікаў даручаюцца маемасныя каштоўнасці. Гэта адказнасьць зьяўляецца поўнай і прыстасоўваецца ў парадку грамадзянскага суду ў выпадках: 1) ўтварэньне дзяржорганў і каапэрацы! стратаў учынкамі названых асоб, якія падлягаюць крымінальнай і дысцыплінарнай адказнасьці, 2) неправільнага выдаваньня сум даручаных на гаспадарчыя патрэбы, а таксама-ж, калі незварочваецца нястрачаная рэшта гэтых сум. 3) утварэньня стратаў ад недахопаў, звыш прадугледжаных норм, матар'яльных каштоўнасьцяй, якія перададзены названым асобам пад адказнасьць для ахоўваньня або інш. мэтаў, калі гэта здарылася ад нядбайных адносін да сваіх службовых абавязкаў і 4) утварэньне матар'яльных страт дзяржорганам і каапэрацыі неправільнымі учынкамі гэтых асоб, якія пацягнулі за сабой неабходнасьць для дзяржоргану і каапэрацыі лішніх стратаў (штрафаў, пені і інш.) або поўную ці частковую страту грашовымі дакумэнтамі іх каштоўнасьці (напр., спазьненьне пры прадстаўленьні ца пратэсту вэксалёў).

Закон патрабуе ўключэньня ў працоўныя дагаворы з названымі асобамі асобных ўмоў аб аплаце за страты. Такім чынам тут праводзіцца прынцып 117 а. Г. К., але-ж абмяжаваны ў бок прызнаньня прынцыпу віны (адхіляецца абавязак адплаты за страчаную карысьць, падлічваюцца канкрэтныя абставіны, пры якіх здарыліся страты). Што-ж датычыцца да судовай практыкі, то тут пасьлядоўна праводзіцца пашыранае тлумачэньне арт. 83 К. З. а пр., з выключэньнем выпадкаў асобных дагаворных ўмоў старон або „паасобнага службовага палажэньня служачых“, калі ўжываецца адказнасьць звыш за межы арт. 83 К. З. а пр. (паст. В. С. 26-X і 30-XI-1925 г. і 28-VI-1926 г.)

У судовай практыцы УССР ёсьць характэрнае растлумачэньне Пленуму В. С. за 28|VI-1927 г. аб умовах ужываньня арт. арт. 117 і 403 Г. К. адносна матар'яльнай адказнасьці служачых, растлумачэньне выкладзена ў радакцыі вышэйпаказанага закону РСФСР, аб адказнасьці гандлёвых служачых, алеж, пашыраючы межы гэтай адказнасьці на ўсіх служачых' пералік-жа арт. 83 К. З. а пр. В. С. УССР называе толькі ў якасьці прыкладу. У БССР няма адпаведнай заканадаўчай нормы, практыка-ж вельмі невызначаная, але-ж пытаньне патрабуе разьвязваньня. Паасобку гэта датычыцца да абыдзёнай працы трэстаў, дзе вельмі дрэнна ў адносінах да загадчыкаў гаспадаркі, каторым даручаюцца каштоўнасьці на значныя сумы.

Дакладчык лічыў неабходным выданьне адпаведнага закону аб адказнасьці служачых, не чакаючы выданьня гэтага закону ў агульнасаюзным маштабе. У адбыўшыхся пасьля дакладу спрэчках выказалася шмат прысутнічаючых, большасьць каторых далучылася да погляду дакладчыка аб неабходнасьці выданьня ў БССР спэцыяльнага закону аб адказнасьці служачых на падставе паказанага растлумачэньня Вярх. Суд. УССР.

У бягучых справах было прызнана неабходным працу Бюро правадзіць у напрамку большага ўзмацненьня разгляду практычных пытаньняў прамысловага права, узьнікаючых у практыцы юрысконсультаў дзяржаўнай прамысловасьці.

## У ГАБІНЭЦЕ ПА ВЫВУЧЭНЬНІ ЗЛАЧЫНСТВА І АСОБЫ ЗЛАЧЫНЦА ПРЫ Б. Дз. У.

З 9 лютага бягучага году аднавілася праца ў габінэце па вывучэньні злачынства. У сучасны момант заканчваецца распрацоўка анкетнага матар'ялу аб забойствах.

Распрацована ўжо некалькі дакладаў на розныя тэмы аб забойствах.

**Тав. Гершановічам** зроблен даклад на тэму: „Апісаньне анкетнага матар'ялу“, у якім дана ацэнка сабранага матар'ялу з пункту гледжаньня паўнаты і якасьці, а таксама адпаведнасьці анкеты пастаўленым мэтам па абсьледваньні тых або іншых катэгорый злачынстваў.

Было адзначана нядосыць поўнае асьвятленьне ў анкетах маемаснага становішча зьняволеных і праяўленьня аўтаноміі абсьледавальніка, што ў далейшым можа быць спраўлена пры ўмове адпаведнага інструктаваньня абсьледавальніка.

Ў дакладзе т. Прокудовіча „рэпрэсіі“ падрабязна распрацована пытаньне аб мерах сацыяльнай абароны ў сувязі з катэгорыямі забойстваў, сацыяльна-клясавым складам і паўторнасьцю. Як

адзначыў у спрэчках па дакладу праф. Шыраеў В. Н. з злачынствамі лепш усяго змагацца мерамі прэвэнцыі, але ўсё-ж у цяперашніх умовах прыходзіцца зьвертацца да рэпрэсіі. Наколькі вядома ў крымінальных кодэксах апошнім аддадзена віднае месца, але для дасягненьня тэй або іншай мэты „рэпрэсіі“ павінны быць мэтазгоднымі. У кожнай меры рэпрэсіі ёсьць момант адплаты у сэнсе маральнага асуджэньня ўчынку і з гэтым момантам нельга ня лічыцца, маючы на ўвазе агульнае папярэджваньня. Так ці інакш трэба адзначыць асобную асьцярожнасьць у дапасаваньні „датэрміновага“ якое павінна быць „умоўным“ упаглядам.

Выклікалі шырокія спрэчкі таксама даклад т. Мар'ясінай „Пісьменнасьць забойц“ і т. Рудзінскай „Матывы“ у першым дакладзе праведзена думка аб нізкім культурным узроўні забойцаў, а у другім дадзен аналіз матываў забойств, як повадаў, якія паслужылі бліжэйшым штурхачом да іх учыненьня. Зьмест кожнага матыву ахарактарызаваць пацаньня Вярхоўнага суду.

У дакладзе т. Слупскага „Забойства і сямейны быт“ падрабязна распрацована пытаньне аб сямейным быце зьмяшчаючым у сілу кансэрватыўнасьці, зародкі усіх далейшых праяў станоўчых і адмоўных учынкаў. Забойства таксама шчыльна зьвязана „з самаабаронай сваёй сямейнай ячэйкі“. Шэрагам даных устаноўлена адсутнасьць стрымліваючых стымулаў пры шмат сямейнасьці і наадварот аб прадраспалажэньні, ў сілу эканамічных цягненьняў да ўчыненьня злачынстваў.

Па пытаньню аб хуліганстве у БССР быў заслухан даклад т. Гарулева і Шульмана. Аўтары старанна распрацавалі анкетны матар'ял соцыялёгічнага абсьледваньня і зрабілі шэраг каштоўных вывадаў па самаму асноўнаму пытаньню аб клясавым складзе хуліганаў. У БССР хуліганства вярбуецца з некваліфікаванай рабочай сілы і беспрацоўных з ліку асоб, ня ўмеючы інакш запоўніць свой досуг, як агрэсыўнымі ўчынкамі. Узросны склад хуліганаў досыць малады. Адзінай мерай барацьбы можна прызнаць культурна-асьветную працу сярод іх і запаўненьне досугу здаровымі заняткамі у асаблівасьці сярод вясковай моладзі. Нямалае значэньне ў даны момант маюць рэпрэсіі.

У бліжэйшы час прапрацоўка матар'ялу аб забойствах будзе закончана і вынікі ўсей работы габінэту знайдуць сваё месца ў мяркуемым да выданьня „Зборніку прац габінэту“.

Намячаецца новае абсьледаваньне „злодзеяў“, якія знаходзяцца ў спраўдомах. У гэтых мэтах мяркуецца выкарыстаць навучальна выхавальную часьць і пры ўважлівых адносінах кіраўнікоў. Папраўна-працоўнай справы правесьці працу па сацыолёгічнаму дасьледваньню зладзейства ў БССР.

*Р. Слупскі.*

# АДКАЗЫ НА ЗАПЫТАНЬНІ.

**Запытаньне.**

„Ці мае права стары бацька, які зьяўляецца сябрам гаспадаркі аднаго з сыноў, спаганяць сродкі на утрыманьне ня толькі з гэтага сына, але і ад другіх сваіх дзяцей, якія жывуць у іншых сельскіх дварох?“

**Адказ.**

Усе ўзаемаадносіны паміж бацькамі і дзецьмі рэгулююцца кодэксам законаў аб шлюбе, сям'і і апецы.—На падставе арт. 66 дзеці павінны даваць утрыманьне сваім ня маючым сродкаў для існаваньня бацьком ў выпадку непрацаздольнасьці бацькоў або беспрацоўя апошніх. Пры гэтым разьмер удзелу кожнага з дзяцей ва утрыманьні бацькоў устанаўляецца у залежнасьці ад ступені патрэбы ў сродках для існаваньня і непрацаздольнасьці бацькоў і матар'яльнага становішча кожнага з дзяцей.

Такім чынам няма ніякіх абмяжаваньняў для ўскладаньня на ўсіх дзяцей абавязанасьці па утрыманьню бацькоў. Усе дзеці абавязаны, але суд можа або ўсіх іх пазбавіць ад гэтай абавязнасьці, калі бацька мае сродкі на сваё утрыманьне ці ня страціў працаздольнасьці, або пазбавіць тых з дзяцей, якія самі ня маюць сродкаў.

Калі бацька, сябр двара, у якім гаспадаром зьяўляецца адзін з ліку яго сыноў, ня можа выдзяліць самастойную гаспадарку і з другога боку ня жадае выйсьці з гаспадаркі у парадку арт. 84 Зямельнага Кодэксу, ён на падставе арт. 66 код. зак. аб шлюбе можа патрабаваць праз суд сродкі на утрыманьне і з таго двара, сябрам якога ён зьяўляецца, і таксама з астатніх дзяцей.

## Паштовая скрынка.

**Т. Белавусаву** (Самахвалавічы). Артыкул 11 Інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ БССР аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах, апублікаванай ў № 1-2 часопісі „Рэвалюцыйная Законнасьць“, адпаведае па сваім зьместу артыкулу 15-му „таксы аплаты дзеяньняў судвыканаўцаў“, апублікаванай ў № 10 Зб. Зак. БССР за 1923 г. і нічога новага ня ўводзіць.

Пагэтаму, рашэньні суду паказанай Вамі катэгорыі спраў павінны выконвацца таксама, як яны выконваліся Вамі і раней.

Паказаныя Вамі недахопы ў працы судвыканаўцаў вядомы НКЮ і пытаньне аб адхіленьні іх знаходзіцца ў стадыі вырашэньня.

**Генаву.**—Ваш артыкул „О делах по признанию отцовства“ супярэчыць прынятай НКЮ лініі. У сучасны момант актуальным пытаньнем зьяўляецца пашырэньне падсуднасьці нарсудоў, а не зьмяншэньне, як прапануе аўтар.—Зьмешчан ня будзе.

**Скабалану.** Ваш арт. „О прекращении дознаний следователями“ зьмешчан ня будзе.

*Рэдакцыйная Калегія.*

## Ад Рэдакцыі.

**Рэдакцыя гэтым паведамляе сваіх падпішчыкаў, якія падпісаліся на тры месяцы з 1 студзеня г. г., што тэрмін падпіскі ўжо зышоў. А дзеля гэтага, хто жадае мець нашу часопісь, павінен паклапаціцца працягнуць падпіску.**

Адказны рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

# Афіцыйная частка.

ЗЬМЕСТ: Абежнікі №№ 3, 6, 8, 14, 15, 17, 18, 19, 20, 21, 23, 24. 25, 27 42/33.
Цыркулярныя лісты: № 1, 2.

## Абежнік Народных Камісарыятаў Ўнутраных Спраў, Асьветы і Юстыцыі БССР.

### Аб адказнасьці за непасылку дзяцей ў школы ў мясцовасьцях, дзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне.

*Усім Акруговым Выканаўчым Камітэтам.*

Паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 26 кастрычніка 1927 г. аб парадку ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня Народныя Камісарыяты Унутраных Спраў, Асьветы і Юстыцыі прапануюць акруговым выканаўчым камітэтам, пры выданьні імі абявязковых пастаноў аб увядзеньні ў тэй ці іншай мясцовасьці ўсеагульнага абавязковага навучаньня, няўхільна выконваць ніжэйнаступнае:

1. Устанаўляць у гэтых пастановах для бацькоў і іншых асоб, якія маюц дзяцей на сваім утрыманьні, а таксама загадчыкаў установ, у якіх знаходзяцца дзеці, адказнасьць у адміністрацыйным парадку за непасылку дзяцей для навучаньня ў першы канцэнтр працойнай школы—штраф ня звыш ста рублёў або прымусовыя работы на тэрмін да аднаго месяца.

2. Паказваць у тых-жа пастановах, што памянёныя вышэй ў п. 1 гэтага абежніку меры адміністрацыйнага ўплыву падлягаюць ужываньню ў парадку і межах, прадугледжаных у палажэньні за 10 ліпеня 1925 г. аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 31, арт. 288, §§ 2. 7, 9—13) у залежнасьці ад месца ўчыненьня нарушэньня, прэзыдыумам гарадзкога савету або прэзыдыумам раённага выканаўчага камітэту.

3. Паказваць у тых-жа пастановах, што пытаньне аб вызваленьні пералічаных у п. 1-м гэтага абежніку асоб ад адказнасьці за непасылку дзяцей ў першы канцэнтр працоўнай школы падлягае вырашэньню, у кожным пасобным выпадку, прэзыдыуму гарадзкога савету або прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту, у адпаведнасьці з акалічнасьцямі справы, па запатрабаваньні заключэньня аб тым ад належнага (гарадзкога або раённага) інспэктара народнае асьветы.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў *Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Асьветы *Валасевіч.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Гохман.*

2 студзеня 1928 г.
№ 3.

---

### Аб пашырэньні на тэрыторыю Гомельскай акругі Грамадзянскага Кодэксу БССР.

*Усім Акруговым Судам і Пракурорам.*

На падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР ад 31 сьнежня 1927 г. на тэрыторыю Гомельскай акругі пашыраецца з першага студзеня 1928 г. Грамадзянскі Кодэкс БССР.

У дапаўненьне да тэлеграмы аб увядзеньні Грамадзянскага Кодэксу БССР на тэрыторыі Гомельскай акругі, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім судовым і натарыяльным установам, а таксама пракуратуры кіравацца наступнымі правіламі па ужываньню ГК БССР на тэрыторыі Гомельшчыны.

1. Пачынаючы з першага студзеня 1928 г. на тэрыторыі Гомельскай акругі павінны ўжывацца ўсе правілы, выкладзеныя ў Грамадзянскім Кодэксе БССР, выданьня 1927 г. і у асобных выданых пасьля таго пастановах ЦВК і СНК БССР аб зьменах і дапаўненьнях Грамадзядскага Кодэксу (арт. 3 пастановы аб апубліка-

ваньні і часе ўваходжаньня ў сілу законаў і загадаў Ураду БССР, а таксама загадаў нар. камісарыятаў БССР—(Зб. Зак. БССР 1927 г. № 24, арт. 112).

2. З таго-ж тэрміну на тэрыторыі Гомельшчыны павінны дапасоўвацца і ўсе пастнновы Ураду БССР, якія былі выданы ў разьвіцьцё паасобных артыкулаў ГК, БССР і на якія маюцца паказаньні ў адпаведных арт. арт. ГК, як напрыклад: а) аб парадку рэквізыцыі маемасьці прыватных асоб і таварыстваў—у разьвіцьцё арт. арт. 69 і 70 ГК БССР (Зб. Зак. БССР 1927 г. № 17, арт. 71); б) аб прыблуднай жывёле—ў разьвіцьцё арт. 68 ГК БССР (Зб, Зак. БССР 1927 г. № 5 арт. 18); в) аб прымусовым пацясьненьні ў дамох—ў разьвіцьцё арт. 175 ГК БССР (Зб. Зак. БССР 1927 г. № 36, арт. 190) і г. д.

3. З таго-ж тэрміну, г. зн. з першага студзеня, на тэрыторыі Гомельскай акругі маюць сілу ўсе ведамственныя інструкцыі, абежнікі і тлумачэньні, якія датычаць законаў, паказаных у п.п. 1 і 2 гэтага абежніку.

4. З таго-ж першага студзеня 1928 г. спыняецца дзеяньне на тэрыроры Гомельскай акругі Грамадзянскага Кодэксу РСФСР і выданых у яго разьвіцьце законаў і загадаў.

5. Усе правы, якія набыты на падставе папярэдніх заканаў. дзейнічаўшых у Гомельшчыне, захоўваюцца і пасьля ўвядзеньня там ў дзеяньне Грамадзянскага Кодэксу БССР.

6. Права насьледваньня у маемасьці спадчынадаўцы, памершага да увядзеньня ў дзеяньне ГК БССР устанаўляецца на падставе законаў, якія мелі сілу на данай тэрыторыі ў час сьмерці спадчынадаўцы.

7. Форма зьдзелак і актаў вызначаецца тым законам, які меў сілу ў час іх учыненьня.

Але зьдзелка, якая учынена па форме, устаноўлянай для данай катэгорыі зьдзелак Грамадзянскім кодэксам БССР, пры выкананьні яе на тэрыторыі БССР, прызнаецца сапраўднай, хоць-бы яе форма і не адпавядала патрэбаваньням таго закону, які дзейнічаў на тэрытнрыі Гомельскай акругі да першага студзеня 1928 г.

8. Абавязанасьці па дагавору або па іншай падставе (арт. 108 ГК БССР), якія узьніклі да моманту пашырэньня на Гомельскую акругу ГК БССР, мяркуюцца на падставе законаў, якія мелі сілу на тэй жа тэрыторыі у час іх узьнікнавеньня.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і ст. Пам. Пракурора Рэсп. *Гохман.*

5 студзеня 1928 г.
№ 6.

## Аб праверцы ўсіх арыштанскіх сьледчых спраў з мэтай абмеркаваньня пытаньня аб магчымай зьмене меры прасячэньня.

*Усім Акруговым Пракурорам.*

З маючыхся ў НКУС зьвестак заўважаецца, што па ўсіх спраўдомах а асабліва ў Гомельскім лік сьледзтвена-зьняволеных, у параўнаньні з тэрмінова-зьняволенымі, вельмі вялікі.

Агульная колькасьць зьняволеных у спраўдамах значна перавышае ўстаноўлены лік месца. Адсюль выцякае бязумоўная немагчымасьць адміністрацыі спраўдому выконваць усе трэбаваньні Папраўна-Працоўнага Кодэксу і ў канчатковым выніку вядзе да пагоршаньня ўмоў ўнутранага жыцьця спраўдамоў.

Маючы на ўвазе ўсё гэта і тое, што значны лік зьняволеных лічыцца за сьледчымі органамі, Пракуратура Рэспублікі прапануе Вам праверыць усе арыштанскія сьледчыя справы на прадмет абмеркаваньня пытаньня аб магчымай зьмене меры прасячэньня—трыманьне пад вартай—на больш лёгкую.

У далейшым строга сачыць, каб абраньне меры прасячэньня—трыманьне пад вартай—сьледчымі сапраўды дапасавалася-б у неабходных для вядзеньня папярэдняга сьледзтва выпадках (147 арт. КПК)

Пракурору кожны раз, пры наведваньні месц зьняволеньня, трэба праверацьдзеяньні сьледчых у сэнсе мэтазгоднасьці абраньня меры прасячэньня —трыманьне пад вартай—выпраўляючы ў патрэбных выпадках памылкі сьледчага шляхам зьмены меры прасячэньня зьняволенага на больш лёгкую.

Пры гэтым бязумоўна трэба мець на ўвазе, які ўплыў на папярэднае сьледства будзе мець зьмена меры прасячэньня.

Аб прынятых Вамі мерах і выніках іх паведаміце ў пракуратуру Рэспублікі.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспубліке *С. Гохман.*

Пам. Пракурора Рэспубліке *Кіпарысаў*

5 студзеня 1928 г.
№ 8

## Аб наглядзе за рашэньнем спраў аб дробных фабрычна-заводзкіх крадзежах.

*Усім акруговым пракурорам і іх вучастковым памочнікам.*

Выняцьце спраў аб дробных фабрычна-заводзкіх крадзежах з агульнага парадку вядзеньня крымінальных спраў мае на мэце, перш за ўсё, інтарэсы рабочых, дзеля чаго ў адносіне гэтых спраў, ў сэнсе ўсебаковага высьвятленьня факту злачынства бестароннага іх вырашэньня, павінны быць захоўваны ня меншыя гарантыі, чымся пры вядзеньні спраў ў агульна-крымінальным парадку.

У якасьці аснаўных момантаў, якія забясьпечваюць вышэй пералічаныя гарантыі, зьяўляюцца:

а) складаньне акту аб крадзежы неадкладна па яе выяўленьні, з паказаньнем на тыя акалічнасьці, якія ўстанаўляюць факт крадзежу (затрыманьне з палічным, паказаньні сьведкаў і іншыя бяспрэчныя довады;)

б) прад'яўленьне гэтага акту падазронаму;

в) складаньне пастановы аб пакараньні з дакладным аб грунтаваньні прынятай меры, узысканьня, асабліва ў адносіне прыняцьця ў якасьці меры пакараньня звальненьня.

Фактычнае выкананьне паказаных дзеяньняў з боку фабрычна-завадзкой адміністрацыі можа быць дасягнута шляхам ажыцьцяўленьня нагляду з боку пракуратуры, якая ў гэтых выпадках павінна:

а) прыймаць скаргі працоўных на пастановы адміністрацыі па справах аб дробных крадзежах;

б) вытрабаваць ад прадпрыемства ўсю перапіску па гэтых справах і разглядаць яе ня толькі з фармальнага боку, але таксама і з пункту погляду адпаведнасьці пакараньня ўчынку;

в) у выпадку выяўленьня не выкананьня адміністрацыяй вышэйпаказаных дзеяньняў або неадпаведнасьці пакараньня ўчынку, прынасіць протэсты ў адпаведныя вышэйшыя адміністрацыйныя органы акругі і Рэспублікі з прыцягненьнем, у належных выпадках, вінаватых прадстаўнікоў адміністрацыі да крымінальнай або дысцыплінарнай адказнасьці;

г) пры выездах на прадпрыемства праглядваць усе справы аб дробных крадзежах, якія мелі месца на прадпрыемствах з пункту погляду выкладзеных ў гэтым абежніку палажэньняў;

д) выходзячы з неабходнасьці зьмяншэньня меры пакараньня і пры выяўленьні іншых няправільнасьцяў ў матар'ялах справы прыймаць асабісты ўдзел пры вырашэньні спраў аб дробных крадзежах, якія маюць прынцыповае значэньне, а таксама ў тых выпадках, калі выявіцца імкненьне скарыстаць справу для мэтаў звальненьня працоўных.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі БССР *С. Гохман.*

Пракурор па працоўных справах пры НКЮ *Глезэраў*

18 студзеня 1928 г.
№ 14.

---

## Аб даверанасьцях, выдаваемых дзяржаўнымі ўстановамі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі

*Усім судовым і натарыяльным установам і пракуратуры.*

У практыцы ўжываньня арт. 276 Грамадзянскага Кодэксу БССР узьніклі наступныя пытаньні:

а) ці ўсе дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы маюць права выдаваць даверанасьці ў парадку арт. 276 Грамадзянскага Кодэксу БССР, або гэтае права надаецца толькі тым дзяржаўным установам і прадпрыемствам, якія не абкладаюцца прамысловым падаткам?

б) у якім парадку павінен рабіцца перадавер ад імя паверанага, даверанасьць якому выдана дзяржаўнымі ўстановамі, або прадпрыемствам у парадку арт. 276 Грамадзянскага Кодэксу БССР;

в) ці праведзейны на тэрыторыі БССР даверанасьці, якія выданы дзяржаўнымі ўстановамі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі ў межах іншых саюзных рэспублік на падставе дзейнічаючых у гэтых рэспубліках правілаў?

У мэтах правільнага дапасаваньня арт. 276 ГК БССР Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе кіравацца па вышэйвыкладзеных пытаньнях наступнымі паказаньнямі:

1. Артыкул 276 Грамадзянскага Кодэксу БССР дае права дзяржаўным установам і Дзяржаўным прадпрыемствам выдаваць даверанасьці за подпісам адказнага кіраўніка з пячаткай установы або прадпрыемства, пры гэтым арт. 276 не ўстанаўляе ніякіх абмежаваньняў, таму павінна лічыць, што натарыяльнага пасьведчаньня не патрабуецца для даверанасьцяй, выдаваемых усякімі дзяржаўнымі ўстановамі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі, як гэта і было растлумачана НКЮ БССР у абежніку № 32 ад 1/VI—25 г. (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 27, арт. 248)

2. Асобы, агрымаўшыя даверанасьці ад дзяржаўных установ і дзяржаўных прадпрыемстваў у парадку арт. 276 ГК БССР, маюць права перадаваць выкананьне ускладзеных на іх даручэньняў у выпадках, прадугледжаных арт. 263 ГК БССР, але пры гэтым перадавер павінен быць натарыяльна пасьведчаны.

3. Да даверанасьцяй дапасуецца агульнае правіла аб тым, што форма зьдзелак вызначаецца па законах мейсца іх учыненьня, таму даверанасьць, якая выдана ў аднэй з саюзных республік на падставе дзейнічаючых у гэтай рэспубліцы правілаў праведзейна і ў БССР таксама, як і даверанасьць, складзеная згодна правілаў, дзейнічаючых на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі С. *Гохман*

28 студзеня 1928 г.
№ 15.

---

Узгоднены з Народным Камісарыятам Фінансаў.

## Абежнік Народнага Кмісарыяту Юстыцыі і Народнага Кмісарыяту Унутраных Спраў БССР.

### Аб вызваленьні забудоўшчыкаў ад арэнднай платы

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам і пракурорам.*

На падставе ўвагі да арт. 16 Палажэньня аб спагнаньні рэнты з гарадзкіх зямель (Зб. Законаў Саюзу ССР 1927 г. № 22, арт. 245) і арт. 2 правіл спанагньня рэнты з гарадзкіх зямель (Зб. Зак. Саюзу ССР 1927 г., № 48, арт. 494) **не дазваляецца** спагнаньні **арэнднай** платы з наступных зямель:

а) зямель, якія абслугоўваюць будынкі, прыналежачыя **прыватным** фізічным і юрыдычным асобам **на праве** ўласнасьці або **забудоўкі** і

б) з зямель, якія прадстаўлены ў **бястэрміновае карыстаньне жыльлёва будаўнічым коопэрацыйным таварыствам** (рабочым і агульна грамадзянскім).

У зьвязку з гэтымі постановамі Ураду СССР была апублікована таксама пастанова ЦВК і СНК БССР ад 8 верасьня 1927 году аб скасаваньні п. „г“ арт. 73 Грамадзянскага Кодэксу БССР і ўваг 2 і 3 да таго-ж артыкулу (Зб. Зак. БССР 1927 г., № 35 арт., 183).

У зьвязку з выданьнем вышэйпаказаных пастаноў у практыцы аддзелаў камунальнай гаспадаркі ўзьнікаюць наступныя пытаньні:,

1) ці пашыраецца паказаная вышэй ільгота на тыя зямельныя вучасткі, якія былі зданы пад забудоўку да моманту ўступленьня ў сілу палажэньня аб рэнце і

2) калі пашыраюцца, дык ці патрэбна пеаразаключаць раней заключаныя дагаворы аб забудоўцы з скасавньнем пунктаў аб арэнднай плаце.

Пры разьвязваньні пастаўленых пытаньняў Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Унутраных Спраў прапануюць кіравацца наступнымі правіламі:

а) ільгота, устаноўленая для забудоўщыкаў вышэйпаказанымі законамі, зьяўляецца падатковай ільготаю;

б) таму забудоўшчыкі атрымліваюць гэтую ільготу з моманту ўступленьня ў законную сілу палажэньня аб рэнце (Зб. Зак. СССР 1927 г., № 22, арт. 245), пры гэтым незалежна ад таго, ці быў ім заключаны дагавор аб забудоўцы да паказаннага моманту або пасьля яго;

в) з моманту ўступленьня палажэньня аб рэнце ў законную сілу трацяць тым самым моц умовы аб арэнднай плаце за зямлю, зданую пад забудоўку, таму няма патрэбы ў абавязковым перазаключэньні папярэдніх дагавароў;

г) але у выпадках, калі забудоўшчык просіць перазаключыць папярэдні дагавор з тым, каб скасаваць умовы аб арэнднай плаце, гэтую просьбу павінна выконваць.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

Народны Камісар Унутраных Спраў *А. Сташэўскі*

25 студзеня 1928 году.
№ 17.

*Аб тэрмінах трыманьня пад вартай у відзе меры прасячэньня і аб парадку ўзбуджаньня хадайніцтва аб працягу тэрміну трыманьня пад вартай.*

## Усім Акрпракурорам і Акрсудам

Маючы на ўвазе, што з усіх судова-следчых спраў павінна быць больш зьвернута ўвагі на прахаджэньне ў ва ўсіх стадыях працэсу арыштанскіх спраў і што трыманьне пад вартай у відзе меры прасячэньня па некаторых з гэтых спраў перавышае ўстаноўленыя законам тэрміны, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе

## Акруговым пракурорам.

1. Безаткладна ўзяць на вучот усе арыштанскія справы, якія знаходзяцца ў вядзеньні сьледчых і па якіх ужо скончыўся прадугледжаны законам двухмесячны тэрмін трыманьня пад вартай (арт. 159 КПК), Прыняць рашучыя меры да хутчэйшага скачэньня сьледзтва па іх.

2. Пазбаўленьне волі ў якасьці меры прасячэньня ня можапрадаўжацца больш двух месяцаў. Калі па складнасьці справы альбо па іншых акалічнасьцях папярэдняе сьледзтва не магло быць скончана да моманту скачэньня гэтага тэрміну, тэрмін гэты можа быць прадоўжан ня больш, аднак, як да аднаго масяца і ня інакш, як па асобаму распараджэньню Акруговага Пракурора (арт. 159 КПК).

3. Па справах, падсудных нарсуду, двухмесячны тэрмін папярэдняга зьнявальненьня зьўляецца бязумоўна прадзельным. Што датычыцца спраў. падсудных акрсуду, то далейшае павялічэньне тэрміну (пасьля трох месяцаў) магчыма толькі па асобнаму на кожны раз дазволу НКЮ. Для гэтага Акрпракурэру, альбо Старшыні Акрсуду (у выпадках, калі абвінавачваемы лічыцца за ім) належыць прадстаўляць падрабязныя меркаваньні, па якіх прадаўжэньне заключэньня пад вартай прызнаецца неабходным. У хадайніцтвах павінны быць указаны вычэрпываючыя аб'ясьненьні аб прычынах, перашкаджаючых скачэньню сьледзтва па справе дакладна ўказаць у чым іменна абвінавачваецца, з якога часу абвінавачваемы знаходзіцца пад вартай і які прыблізна тэрмін неабходзен для аканчаньня сьледзтва. Хадайніцтва павінна прадстаўляцца ў НКЮ не пазьней, як за тыдзень да скачэньня тэрміну, устаноўленага арт. 159 КПК.

4. Пры накіраваньні ў суд справы, па якой тэрмін трыманьня пад вартай быў працягнут НКЮ у час вядзеньня сьледзства—накіроўваць у суд і арыгінал дазволу НКЮ.

5. Пракуроры, пры наведваньні мейсц зьнявальненьня, павінны назіраць за дакладным захоўваньнем патрабаваньняў гэтага абежніку, вызваляючы ў патрэбных выпадках на падставе арт. 6 КПК зьняволеных, на якіх ня маецца дазволу на працягненьне тэрміну трыманьня пад вартай. Для гэтай мэты Пракуратура Рэспублікі высылае копію дазволу аб працягненьні тэрміну ў месцы зьнявальненьня.

## Акруговым Судом

6. Справы, па якіх абвінавачваемы трымаецца пад вартай, павінны назначацца да слуханьня ў адпаведнасьці з пунктам 1 літ. „а“ і пунктам 3 абежніку НКЮ № 94 ад 18-га сьнежня 1925 г., гэта значыць, што арыштанскія справы знаходзяцца ў вядзеньні суду ня больш аднаго месяца.

7. Суд узбуджае хадайніцтва перад НКЮ аб працягнэньні тэрміну трыманьня пад вартай, калі справа ня можа быць заслухана ў месячны тэрмін ад паступ-

леньня справы калі неабходнасьць трыманьня пад вартай выклікаецца акалічнасьцямі справы.

У такіх хадайніцтвах трэба ўказваць на папярэдні дазвол Пракурора Рэспублікі (п. 4 гэтага абежніка), калі такі дазвол меў месца.

За невыкананьне патрабаваньняў гэтага абежніку вінаватыя будуць прыцягнуты да дысцыплінарнай альбо крымінальнай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман*,

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў*.

26 студзеня 1928 г.
№ 18

---

*Аб парадку накіраваньня сьледчых спраў у суды.*

**Усім Акруговым пракурорам.**

Дзеля спрашчэньня парадку накіраваньня сьледчымі спраў, падсудных акрсуду і гэтым самым прыбліжэньня моманту зробленага злачынства да моманту пакараньня, Народны Камісарыята Юстыцыі прапануе ў будучым кіравацца наступным:

1. Па аканчаньні папярэдняга сьледзтва па справах, падсудным акрсуду сьледчы павінен іх накіроўваць вучастковаму пам. пракурора ў парадку 211,203 і 133 арт. КПК, а апошні, азнаеміўшыся дакладна з акалічнасьцямі справы, накіроўвае іх акрсуду, у адпаведнасьці з цыркулярным распараджэньнем Пракуратуры Рэспублікі ад 12 верасьня 1927 г. за № 5190 і 226-228,229-231 арт. арт. КПК.

2. Парадак накіраваньня спраў, падсудных Нарсуду (223 арт. КПК) застаецца ранейшым. Вучастковаму Пам. Пракурора, непасрэдна назіраючаму за працай сьледчага, няхўільна сачыць, каб працэсуальныя нормы, патрабуемыя для вядзеньня папярэдняга сьледзтва і афармленьня яго, не парушаліся (116,159 і 223 арт арт. КПК)

3. Вучастковаму Пам. Пракурора ня менш як адзін раз у месяц рабіць абсьледваньне працы паднаглядных яму сьледчых. Пры абсьледваньні, а таксама і выпадковых наведваньнях камер сьледчых вучастковаму пам. пракурора належыць даваць тыя, ці іншыя ўказаньні сьледчаму па тэхніцы сьледзтва, а таксама і па пастаноўцы работы наогул, паказваючы кожны раз на недахопы ў рабоце сьледчага і вызначаючы спосабы да зьнішчэньня іх.

4. Дзеля ўстанаўленьня сталай сувязі паміж вучастковым пам. пракурора і акрпракурорам па сьледчых справах накіроўваемых у акрсуд, Пам. Пракурора неабходна кожны раз, пры накіраваньні справы ў суд, ставіць да ведама Акруговага пракурора.

5. Акрпракурорам устанавіць шляхам асобнай дагаворнасьці з акрсудом час (да распарадчага пасяджэньня) азнаямленьня пракурора са сьледзственнымі справамі, назначанымі для разгляду ў распарадчых пасяджэньнях суду.

6. У далейшым, ад распарадчага пасяджэньня да Суду Акрпракурору належыць сачыць за рухам, пераданых сьледзтвеных спраў, падтрымліваючы ў патрэбных выпадках абвінавачваньне.

7. У выпадках вынясеньня судом апраўдальных прыгавораў, Акрпракурору належыць паступіць у адцаведнасьці з пунктам 4 абежніку НКЮ, № 112 ад 19 сьнежня 1927 г.

Нам. Народнага Камісару Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохмам*,

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў*

4 студзеня 1928 г.
№ 19.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

27 студзеня 1928 г. № 20

*Усім акруговым судам.*

**Копія акруговым пракурорам.**

Аб парадку накіраваньня і выкананьня судовых дaручэньняў на падставе "ўгоды паміж Саюзам ССР і Латвіяй аб праўнай дапамозе па грамадзянскіх справах".

13-га студзеня г. г. уступіла ў сілу „ўгода паміж Саюзам ССР і Латвіяй аб праўнай дапамозе па грамадзянскіх справах", якая заключана 2 чэрвеня 1927 г. і ратыфікавана 13-га сьнежня 1927 году.

Саюз ССР, з аднаго боку, і Латвія з другога, абавязаліся даваць адзін другому праўную дапамогу па грамадзянскіх справах, пры чым гэтай угодай прадугледжваецца дапамога двух радоў.

а) падаваньне дакумэнтаў (судовых, натарыяльных і іншых органаў улады) і б) судовыя даручэньні (допыт сьведкаў, вытварэньне экспэртызы, мясцовага агляду і т. д.)

Выкладаючы ніжэй аснаўныя палажэньні вышэйпаказанай ўгоды аб праўнай дапамозе, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць іх да няўхільнага кіраваньня і выкананьня.

1) У вынятак з агульнага парадку зносін органаў замежных дзяржаў з савецкімі органамі консул Латвіі, на падставе арт. 2 вышэйпаказанай ўгоды, *мае права з просьбай аб паданьні дакумэнтаў зварачвацца беспасрэдна да старшыні адпаведнага акруговага суду.*

2) Просьбы латвійскіх судавых органаў аб выкананьні судовых даручэньняў (допыт сьведкаў, мясцовы агляд, вытварэньне экспэртызы і т. д.). *перадаюцца ў акруговыя суды выключна дыплематычным шляхаа*, г. зн. праз Народны Камісарыят па Замежных Справах і Народны Камісарыят Юстыцыі.

3) Заява аб паданьні і просьба аб выкананьні судовых даручэньняў з дадаткамі, якія прысылаюцца з Латвіі, павінны быць забясьпечаны расійскім перакладам, засьведчаным дыплёматычным або консульскім прадстаўнікам Латвіі.

4) Калі ў акруговы суд паступіць просьба аб паданьні дакумэнтаў (п. 1) або аб выкананьні судовых даручэньняў (п. 2), старшыня суду пасылае яе па прыналежнасьці для беспасрэднага выкананьня, якое вытвараецца на агульных падставах выкананьня судовых даручэньняў. Пры

## Циркуляр Народного Комиссариата Юстиции БССР.

27 января 1928 года. № 20

*Всем окружным судам.*

**Копия окружным прокурорам.**

О порядке направления и выполнения судебных поручений на основании „Соглашения между Союзом ССР и Латвией о правовой помощи по гражданским делам."

13-го января сего года вступило в силу „Соглашение между Союзом СССР и Латвией о правовой помощи по гражданским делам", заключенное 2 июня 1927 г., ратифицированное 13-го декабря 1927 г.

Союз ССР, с одной стороны, и Латвия— с другой обязались оказывать друг другу правовую помощь по гражданским делам, при чем этим соглашением предусматривается помощь двух родов:

а) вручение документов (судебных, нотариальных и иных органов власти) и б) судебные поручения (допрос свидетелей, производство экспертизы, местного осмотра и т. п.).

Излагая ниже основные положения вышеуказанного соглашения о правовой помощи, Народный Комиссариат Юстиции предлагает принять таковые к неуклонному руководству и исполнению.

1) В из'ятие из общего порядка сношений органов иностранных государств с советскими органами, консул Латвии, на основании ст. 2 вышеуказанного соглашения, *вправе обратиться с просьбой о вручении дукументов непосредственно к председателю соответствующего окружного суда.*

2) Просьбы латвийских судебных органов об исполнении судебных поручений (допрос свидетелей, местный осморт, производство экспертизы и т. п.) *передаются в окружные суды исключительно дипломатическим путем*, т. е. через Народный Комиссариат по Иностранным делам и Народный Комиссариат Юстиции.

3) Заявление о вручении и просьба об исполнении судебных поручений с приложениями, препровождаемые из Латвии, должны быть снабжены русским переводом, посвидетельствованным дипломатическим или консульским представителем Латвии.

4) Когда в окружной суд поступит просьба о вручении документов (п. 1) или об исполнении судебных поручений (п.2), председатель суда посылает ее по принадлежности для непосредственного исполнения, которое производится на общих основаниях исполнения судебных

гэтым, у выпадку асобнай аб тым просьбы з боку латвійскай ўстановы, павінны быць захованы асобныя, паказаныя ў просьбе формы, калі яны не супярэчаць законам СССР і БССР.

Пры выкананьні судовых даручэньняў установу, ад якой выходзіць просьба, трэба, па яе патрабаваньню, паведаміць аб часе і месцы ўчыняемага згодна яе просьбы дзеяньня.

Пры паданьні дакумэнтаў, гэтае паданьне даводзіцца або датыраванай і засьведчанай расьпіскай атрымальніка або пасьведчаньнем аб тым, што паданьне сапраўды адбылося; расьпіска або пасьведчаньне, па просьбе латвійскай ўстановы, забясьпечваецца перакладам на латышскую мову з адплатай за страты па перакладу.

5) Паданьне дакумэнтаў і выкананьне судовых даручэньняў учыняецца без спагнаньня гэрбавага збору, мыты, або страт якога-небудзь роду, за выключэньнем яапраўдных выдаткаў на ўзнагароду сьведсаў, экспэртаў і на пераклады (п. 4). Суковы орган, выконваючы судовае даручэньне, складае дакладны рахунак рыдаткаў і пасылае яго разам з справай ва выкананьню даручэньня па прыналежпасьці праз акруговы суд.

6) Усякага роду адносіны судовых органаў БССР да органаў Латвіі павінны пасылацца *выключна дыплёматычным тляхам* праз Н. К. Ю., які і зносіцца з належнымі ўстановамі праз Народны Камісарыят па Замежных Справах згодна арт. 67 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР.

Пры падачы паасобных патрабаваньняў неабходна ўхіляцца ўсякіх няправільнасьцяй, якфармальнага характару (адсутнасьць подпісаў, пячаткі і г. д.), якія могуць перашкодзіць перадачы іх па прыналежнасьці, так і такіх, якія датычаць сутнасьці удовага даручэньня.

7) Падаючыя паасобныя патрабаваньні, судовыя органы павінны складаць спэцыяльныя пастановы, у якіх вызначаецца, каго трэба дапытаць у якасьці сьведкі або экспэрта, якія ведамасьці неабходна атрымаць, каму належыць падаць певестку і г. д.

Належна засьведчаная копія гэтай пастановы пасылаецца праз акруговы суд у Народны Камісарыят Юстыцыі разам з усімі дадаткамі (дакумэнтамі, павесткамі і г. д.), якія таксама неабходна складаць з належнай поўнасьцю і яснасьцю, каб не перашкаджаць іх выкананьня. Усе накіроўваемыя ў Н. К. Ю. для перадачы ў Латвію дакумэнты павінны забясьпечвацца перакладам на латыскую мову.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і ст. памоч. прокурора **С. Гохман.**

поручений. При этом, в случае особой о том просьбы со стороны латвийского учреждения, должны быть соблюдены особые, указанные в просьбе формы, если они не противоречат законам СССР и БССР.

При исполнении судебных поручений учреждение, от которого исходит просьба, должно быть, по его требованию извещено о перемени и месте предпринимаемого согласно его просьбы действия.

При вручении документов, это вручение доказывается либо датированной и засвидетельствованной распиской получателя в получении либо удостоверением о том, что вручение действительно состоялось; расписка или удостоверение, по просьбе латвийского учреждения, снабжается переводом на латышский язык с возмещением расходов по переводу.

5) Вручение документов и исполнение судебных поручений производится без взимания гербового збора, пошлены или издержек какого либо рода, за исключением действительных расходов на вознаграждение свидетелей, экспертов и на переводы (п. 4). Судебный орган, производящий исполнение судебного поручения, составляет точный счет этих расходов и отсылает его вместе с производством по исполнению поручения по принадлежности через окружный суд.

6) Всякого рода обращения судебных органов БССР к органам Латвии должны посылаться *исключительно* дипламатическим путем через НКЮ, который и сносится с надлежащим учреждением через Народный Комиссариат по Иностранным Делам, согласно ст. 67 Гражданского Процессуального Кодекса БССР.

При подаче отдельных требований необходимо избегать всяких неправильностей, как формального характера (отсутствие подписей, печати и т. п.), которые могут помешать передаче их по принадлежности, так и касающихся сути судебного поручения.

7) Подавая отдельные требования, судебные органы должны составлять специальные постановления, в которых обозначается, кого следует допросить в качестве свидетеля или эксперта, какие сведения необходимо получить, кому надлежит вручить повестку и т. д.

Надлежаще засвидетельствованная копия этого постонавления посылается через Окружный суд в Народный Комиссариат Юстиции вместе со всеми приложениями (документами, повестками и т. п.), которые также необходимо составлять с надлежащей полнотой и ясностью, чтобы не затруднять их исполнения. Все направляемые в НКЮ для передачи в Латвию документы должны снабжаться переводом на латышский язык.

Зам. Народного Комиссара Юстиции і ст. пам, прокурора БССР. **С. Гохман.**

**Аб зьмене тэрмінаў складаньня характарыстык нарсудзьдзяў.**

*Усім Акруговым Судом.*

У мэтах скарачэньня працы акрсудоў па распрапоўцы касацыйнага матар'ялу, на падставе абежніку НКЮ за 15 мая 1926 г. за № 62, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. У зьмену абежніку НКЮ за II студзеня 1927 г. за № 2, апублікованага у часопісі „Весьці НКЮ", № 1-1927 г., складаньне характарыстык нарсудзьдзяў, пачынаючы з 1928 году, рабіць не па паўгодзьдзях, а адзін раз у год, не пазьней 1-га лютага каждага году, на падставе касацыйнага матар'ялу за папярэдні каляндарны год.

2. Пры складаньні характарыстык нарсудзьдзяў кіравацца паказаньнямі, дадзенымі у п.п 2 і 3 вышэйадзначанага абежніку НКЮ за № 2/1927 г.

3. Тэрмінова скласьці і падаць у НКЮ характарыстыкі нарсудзьдзяў на падставе матар'ялу за другое паўгодзьдзе 1927 г.

4. Дзеяньне гэтага абежніку не пашыраецца на тэрміны складаньня інструкцыйных лістоў, якія павінны распрацоўвацца па паўгодзьдзях, поводле раней дадзеных прапаноў у вышэйпаказаных абежніках НКЮ за № 62-1926 г.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктор НКЮ *Барышаў.*

за 30 студзеня 1928 г.
№ 21

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

*Аб спрашчэньні віду нагляду за вядзеньнем папярэдняга сьледзтва.*

**Усім акруговым пракурорам**

У мэтах рацыяналізацыі пракурорскага нагляду за вядзеньнем папярэдняга сьледзтва, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Існуючы да гэтага часу нагляд за вядзеньнем папярэдняга сьледзтва ў форме вядзеньня наглядальных спраў—спрасьціць замяніўшы яго жывым мэтадам кіраваньня і нагляду (пэрыядычныя выезды акрпракурораў на месца і рэгулярныя наведваньні вучастковымі пам. пракурора камер сьледчых, ім паднаглядных)

2. Абавязаць сьледчых у канцы кожнага месяца прадстаўляць вучастковаму пам. пракурора, альбо акрпракурору (па паднагляднасьці) зьвесткі аб справах, якія знаходзяцца ў вядзеньні больш 2-х м-цаў з указаньнем прычыны затрыманьня іх сьледзтвам.

3. Вучастковаму пам. пракурора і Акрпракурора на падставе гэтых зьвестак прыймаць тыя ці іншыя меры (запытаньні, прапановы, выклікі сьледчых з дакладамі і выбыцьце самаго пракурора ў камеру сьледчага).

4 Акрпракурорам і вучастковым пам. пракурора пэрыядычна рабіць абсьледваньні і абрэвізаваньні камер сьледчага, інструктуючы іх у рабоце і даючы асабістыя ўказаньні па справах.

5. Пры паўторных наведваньнях камеры сьледчага пракурору трэба правяраць выкананьне раней ім дадзеных указаньняў і прапаноў.

6. З выданьнем гэтага абежніку цыркулярная прапанова пракуратуры Рэспублікі ад 28 ліпеня 1925 г. за № 0429/3 і пункт 4 цыркуляру ад 22/Х-25 г. за № 7-12213 аб парадку вядзеньня наглядальных справаводзтв—адмяняецца.

Вядзеньне-ж наглядальных вытворчасьцяў па справах, знаходзячыхся ў органах ДПУ (пагранатрадах, ОДТОДПУ, Акраддзелах), застаецца Нягляд узмацніць. Наглядальныя справы вясьці акуратна. Пры накіраваньні спраў пагранатрадамі і ОДТОДПУ АкраддзелуДПУ, а апошнім у ДПУ БССР—Менск наглядальныя вытворчасьці павінны накіроўвацца вучастковым пам. пракурора—Акрпракурору, а апошнему, пры далейшым накіраваньні справы, накіроўваць наглядальныя вытворчасьці пам. Пракурора Рэспублікі па нагляду за ОДПУ.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

2 лютага 1928 г.
№ 23.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў

### Аб парадку зьняцьця з рахунку па безнадзейнасьці да паступленьня штрафаў і іншых сум, якія прылічаюцца дзяржаве, з прычыны бязвеснай адсутнасьці даўжніка або поўнай яго незаможнасьці

*Усім судовым органам і акруговым фінансавым аддзелам.*

На практыцы ўзьнікла пытаньне аб тым, хто павінен выращаць пытаньне аб зьняцьці з рахунку па безнадзейнасьці да паступленьня штрафаў, якія накладаюцца на сьведак за няяўку у суд бяз уважлівых прычын і судовых страт з прычыны бязвеснай адсутнасьці даўжніка або яго поўнай незаможнасьці ,—судовя або фінансавыя органы?.

У мэтах урэгуляваньня гэтага пытаньня Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў растлумачваюць наступнае:

Паводле пастановы СНК БССР за 5-е сьнежня 1927 г., апублікаванай у № 290 за 22 сьнежня 1927 г. газэты „Савецкая Беларусь", на орган Наркамфіну ўскладаецца падлік і нагляданьне за спагнаньнем прысуджаных судамі ў прыбытак дзяржавы і накладзеных адміністрацыйнымі органамі штрафаў і іншых сум.

Такім чынам, органы Наркамфіну адносна гэтага роду сум, як наогул, і адносна ўсякіх іншых сум, якія праылічаюцца дзяржаве па тэй або іншай падставе, карыстаюцца ўсімі правамі спаганятага і, як усякі спагняты, могуць і павінны прыймаць усе меры да поўнага выяўленьня маемасьці даўжніка, або тых крыніц яго прыбытку, з якіх можа быць спагнана сума, якая прылічаецца дзяржаве.

Пагэтаму, судовыя і адміністрацыйныя органы пры выяўленьні імі ў парадку спагнаньня незаможнась ці або бязвеснай адсутнасьці даўжніка, нямогуць самі вырашаць пытаньне аб сьпісаньні з рахунку, па безнадзейнасьці да паступленьня, паказанага роду сум, у тым ліку штрафаў, якія накладаюцца на сьведак, і судовых, страт, а павінны паведамляць аб гэтым адпаведным органам Наркамфіну, ад якіх залежыць у далейшым, на падставе існуючых правіл, канчаткова вырашаць гэтае пытаньне.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Эднэрал*

Час. вык. аб. Народнага Камісара Фінансаў *Сьцепанюк.*

2 лютага 1928 г.
№ 24.

---

## Пастанова Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў БССР

*Аб дапаўненьні ўвагай арт. 4 інструкцыі ад 10 лістапада 1927 г. за № 94 аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах.*

Народныя Камісарыяты Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў пастанаўляюць:

Дапоўніць артыкул 4 інструкцыі Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў ад 10 лістапада 1927 г. за № 94 аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах („Рэвалюцыйная Законнасьць" № 1-2 1928 г.) увагай наступнага зьместу:

„УВАГА: выканьне судовых загадаў аб спагнаньні з сялян пазычак, атрыманых імі ў сельска-гаспадарчых крэдытных таварыствах, можа ўскладацца судом на старшынь сельскіх і местачковых саветаў, незалежна ад сумы спагнаньня, у тых выпадках, калі аб гэтым просіць спагнальнік".

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Эднэрал.*

Ч. вык. аб. Народнага Камісара Фінансаў *Сьцепанюк.*

Народны Камісар Унутраных Спраў *Кроль*

7 лютага 1928 г.
№ 25.

# Абежнік Пракуратуры Рэспублікі.

*Усім акруговым пракурорам.*

Паводле арт. 16 Палажэньня аб коопэрацыйным крэдыце (З. З. СССР 1927 г. № 4, арт. 44), члены органаў кіраўніцтва крэдытна-коопэрацыйных арганізацый і ўсе іх супрацоўнікі, а роўна таксама асобы, якія ўчыняюць рэвізію ці абсьледваньне гэтых арганізацый, абавязаны хаваць таямніцу дадзеных ім спраў і рахункаў. Усякія даведкі аб становішчы ўкладаў, бягучых рахункаў, пераводаў і іншых крэдытных опэрацый кліэнтаў могуць выдавацца толькі самім кліентам, а таксамх судовым і сьледч м органам з дасканальным захаваньнем парадку, што ўстаноўлен законадаўствам Саюзу ССР і саюзных рэспублік. Ніякія іншыя дзяржаўныя органы, не выключаючы падатковай інспэкцыі ня маюць права трэбаваць азначаных даведак. На ўклады можа быць зварочана спагнаньне і накладзен арышт ня інакш, як па асобнай пастанове суда.

Пастановай ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 31/VIII—1927 г. аб мерах, дапамагаючых разьвіцьцю ўкладных опэрацый сельска-гаспадарых крэдытных таварысгваў (З. З. СССР 27 г., № 52, арт. 524) прапанована ўрадам саюзных рэспублік абавязаць органы пракуратуры няўхільна прыцягваць да крымінальнай адказнасьці службовых асоб крэдытна - коопэрацыйных таварыстваў і асоб, якія робяць рэвізіі і дасьледваньні таварыстваў, у выпадках агалашэньня імі зьвестак аб укладчыках і ўнесеных імі ўкладах (арт. 16 палажэньня аб коопэрацыйным крэдыце).

На падставе гэтае пастановы ўраду Саюзу ССР, Савет Народных Камісараў і Эканамічная Нарада БССР у аб'ядналым пасяджэньні 25 студзеня 1928 г. пастанавілі:

"Абавязаць органы пракуратуры няўхільна прыцягваць да крымінальнай адказнасьці службовых асоб сельска-гаспадарых крэдытных таварыстваў і асоб, якія робяць рэвізіі і дасьледваньні таварыстваў, у выпадках, калі імі будуць агалошаны зьвесткі аб укладчыках і аб суме ўнесеных імі ўкладаў.

Даводзячы аб гэтым да ведама Акруговай Пракуратуры, Пракуратура Рэспублікі прапануе прыняць лаказаныя пастановы да няўхільнага выкананьня, дапасуючы да вінаватых службовых асоб арт. 117 Крым Код.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і ст. пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

15 лютага 1928 г.
№ 27.

---

# Цыркуляны Ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі

## Аб добраякасным складаньні і сваечасовым прадстаўленьні статыстычных матар'ялаў.

*Усім органам юстыцыі.*

Савет Народных Камісараў БССР зьвярнуў увагу кіруючых органаў на тое, што ў апошні час наглядаецца пагоршаньне у справе паступленьня статыстычных матар'ялаў, як у сэнсе несваечасовага прадстаўленьня іх, так і ў сэнсе недобраякаснасьці зьмяшчаемых у іх зьвестак, адзначыўшы пры гэтым, што праведзеная кампанія па скарачэньні справаздачнасьці мела на мэце толькі зьнішчыць лішнія непатрэбныя наросты, якія былі ў нашай статыстычнай і іншай справаздачнасьці, але яна не дае ніякіх падстаў для нядбайных адносін да справаздачнасьці наогул, а, наадварот, патрабуе, каб той мінімум зьвестак, які быў пакінут, зьяўляўся-б найбольш добраякасным і прадстаўляўся-б сваечасова.

Паведамляючы аб вышейвыкладзеным, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім органам юстыцыі зьвярнуць асаблівую ўвагу на самае дакладнае і добраякаснае складаньне статыстычных зьвестак, якія павінны прадстаўляцца імі паводле існуючых распараджэньняў, а таксама—на самае дакладнае захаваньне ўстаноўленых для іх прадстаўленьня тэрмінаў, маючы на ўвазе ўсю важнасьць выкананьня гэтае дырэктывы для плануючай дзейнасьці кіруючых органаў.

Пры гэтым Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць неабходным папярэдзіць, што працаўнікі юстыцыі, у выпадках прадстаўленьня імі недобраякасных статыстычных зьвестак або несваечасовага прадстаўленьня іх, будуць прыцягвацца да дысцыплінарнай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Эднэрал.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

31 студзеня 1928 г.
№ 1.

# Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Прэзыдыуму ўсебеларускага аб'яднаньня калегій абаронцаў.

## Усім прэзыдыумам акруговых калегій абаронцаў БССР.

*Копія Акруговым судом.*

У адпаведнасьці з высьвятліўшыміся на 5 Усебеларускім Зьездзе членаў калегіі абаронцаў недахопамі ў рабоце калегій і на падставе рэзалюцый гэтага-ж Зьезду за 14-15 студзеня г. г. Народны Камісарыят Юстыцыі і Прэзыдыум Усебеларускага Аб'яднаньня Калегій Абаронцаў прапануюць Акруговым Прэзыдыумам Калегій Абаронцаў прыняць да кіраўніцтва і выкананьня наступнае.

1. Рост Калегіі, як агульнае палажэньне, ня можа быць абмяжован, аднак, папаўненьне калегіі павіннаісьці выключна за конт элемэнтаў сацыяльна блізкіх, галоўным чынам, рабочых і селян, пры абавязковай ўмове ведаў імі быту і гістарычных умоў Беларусі, а таксама добрага ўладаньня беларускай мовай.

2. Вызначэньне месца працы залічаемых у Калегію павінна рабіцца са строгім вучотам індівідуальных якасьцяй кожнага таварыша, яго ведаў і спрактыкаванасьці, пры чым павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на найбольш поўнае абслугоўваньне вёскі кваліфіцыраванай юрыдычнай дапамогай, у адпаведнасьці з чым належыць накіроўваць у раёны абаронцаў, якія ўладаюць здавальняючай кваліфікацыяй і ведаюць быт і ўмовы селянскага жыцьця.

Адначасова тых абаронцаў, якія доўга працуюць у раёне і праявілі сябе актыўнымі грамадзкімі працаўнікамі і здольнымі абаронцамі, неабходна пераводзіць на работу ў горад для магчымага пашырэньня сваіх ведаў і спрактыканасьці ў культурных умовах горада.

3. Асаблівую ўвагу належыць зьвярнуць на падняцьце кваліфікацыі членаў калегіі абаронцаў. З гэтай мэтай неабходна зрабіць старанны адбор абаронцаў па кваліфікацыі для высьвятленьня найбольш адсталых груп і прыняць меры для падняцьця ўзроўню ведаў апошніх, шляхам арганізацыі сыстэматычнай прапрацоўкі адпаведнай юрыдычнай літаратуры пад кіраўніцтвам больш спрактыкаваных таварышоў.

Адначасова неабходна дабіцца актыўнага ўдзелу ўсіх абаронцаў у працы юрыдычных гурткоў пры акруговых і народных судох, а таксама арганізаваць пэрыядычныя канфэрэнцыі навукова-тэорэтычнага характару з прывабай для гэтага навуковых сіл БДУ з мэтай падняцьця ўзроўню ведаў і пашырэньня кругавіду ўсіх абаронцаў.

Юрыдычныя бібліотэкі пры акруговых прэзыдыумах павінны быць папоўнены адпаведнай літаратурай і належыць арганізаваць забясьпячэньне гэтай-жа літаратурай раённых абаронцаў, прымаючы пад увагу, што на раёнах абаронцаў знаходзяцца ў няспрыяючых умовах у гэтых адносінах.

Тыя з абаронцаў, якія ня маюць належнага навыку для практычнай працы, могуць быць пераведзены ў ранг стажароў для падняцьця іх ведаў пад кіраўніцтвам больш спрактыкаваных таварышоў.

Калі абаронцы, якія будуць аднесены да адсталых груп ці пераведзены ў ранг стажораў, на працягу вызначанага акруговымі прэзыдыумамі тэрміну ня выявіць павышэньня сваіх ведаў,—выключаць такіх абаронцаў з складу калегій.

4. Ня менш паважаным зьяўляецца і пытаньне аб палітычна-выхаваўчай працы сярод членаў калегіі абаронцаў. Для гэтага павінны быць арганізаваны палітычныя гурткі пад кіраўніцтвам спэцыяльна выдзеленых для гэтага з самой калегіі ці асабліва камандыраваных партыйнымі органамі таварышоў. Акруговым Прэзыдыумам неабходна паклапаціцца набыцьцем адпаведнай бібліотэкі.

5. У мэтах правільнага вучоту кваліфікацыі, ступені грамадзкага значэньня, прафэсыянальнай здольнасьці кожнага абаронца, акруговыя прэзыдыумы павінны завесьці на кожнага абаронца характэрыстыку па форме выпрацаванай Усебеларускім Прэзыдыумам і гэтыя характарыстыкі дастаўляць апошнему кожныя 6 месяцаў.

6. Прыдаючы ўдарнае значэньне барацьбе з бюрократызмам і цеганінай ў судовых установах патрэбна узмацніць нагляд за дзейнасьцю членаў калегіі абаронцаў у гэтым напрамку, маючы пад увагай, што абаронцы зьяўляюцца памочнікамі суду, павінны ўсямерна дапамагаць зьнішчэньню цеганіны і бюрократызму, а не падтрымліваць іх.

Тыя з абаронцаў, якія праявяць відавочнае незразуменьне духу і сэнсу савецкага заканадаўства і будуць дапушчаць відавочнае скажэньне закону ў мэтах цяганіны, павінны безадкладна выключацца з складу Калегіі.

Усе вышэйпаказаныя мерапрыемствы зьяўляюцца надзвычайна актуальнымі і павінны быць праведзены ў жыцьцё у бліжэйшы час.

Нам. Нар. Кам. Юст. БССР Эднэрал.

Старшыня Прэзыдыуму Слонім

15 лютага 1928 г.
№ 2 Ц.

---

## Абежнік Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР.

*Аб умоўным датэрміновым вызваленьні да 8 сакавіка 1928 г. асуджаных жанчын-работніц і сялянак.*

**Усім акруговым судам і акруговым пракурорам, разьмеркавальным і наглядальным камісіям і начальнікам папраўна-працоўных установў.**

**Копія усім акруговым выканаўчым камітэтам і прэзыдыўмам гарадзкіх саветаў.**

У сувязі з межнародным днём жанчын-работніц 8 сакавіка 1928 г., Народныя Камісарыяты Унтраных Спраў і Юстыцыі прапануюць прыняць да выканань-ня ніжэйнаступнае:

1. Жанчыны-работніцы і працоўныя сялянкі, прысуджаныя да пазбаўленьня волі або да прымусовых работ без пазбаўленьня волі, калі яны адбылі ня менш палавіны назначанага ім тэрміну гэтых мер сацыяльнай абароны, за выключэньнямі, паказанамі ў п. 3, падлягаюць да 8-III-28 г. па пастановах разьмеркавальных камісій, абавязковаму ўмоўнаму датэрміноваму аслабаненьню.

2. Хворыя жанчыны-работніцы і працоўныя сялянкі, прысуджаныя да пазбаўленьня волі або да прымусовых работ без пазбаўленьня волі, падлягаюць да 8-III-1928 г., па пастановах суду, абавязковаму ўмоўнаму датэрміноваму аслабаненьню, паводле арт. 458 КПК, выданьня 1927 г. і ў адпаведнасьці з цыркулярам НКЮ, НКУС і НКАЗ ад 26-III-26 г. за № 21.

3. Умоўнае датэрміновае аслабаненьне ў парадку п. п. 1 і 2 гэтага абежніку не дапасоўваецца да тых жанчын-работніц і працоўных сялянак, якія асуджаны за контррэвалюцыйныя злачынствы (57-73 арт. арт. КК.)

4. Наглядчыя камісіі павінны тэрмінова ўзбудзіць адпаведныя хадайніцтвы перад разьмеркавальнымі камісіямі аб ўмоўным датэрміновым вызваленьні жанчын работніц і працоўных сялянак ад пазбаўленьня волі паводле гэтага абежніку.

5. Жанчыны-работніцы і працоўныя сялянкі вызвалюцца ўмоўна-датэрмінова ад прымусовых работ па ініцыятыве гарадзкіх саветаў, ці раённых выканаўчых камітэтаў паводле адпаведных арт. арт. Папраўна-Працоўнага Кодэксу і абежніку НКЮ, НКУС і НКАЗ ад 26-III-1926 г. за № 21.

УВАГА: Калі жанчыны-работніцы і сялянкі падвергнуты прымусовым работам па пастановах ВК у адміністрацыйным парадку, яны аслабаняюцца ад прымусовых работ па пастановах ВК, якімі было вызначана ўзысканьне.

6. Зводныя зьвесткі аб ліку ўмоўна-датэрмінова аслабаненых жанчын-работніц і працоўных сялянак павінны быць прадстаўлены акрпракурорамі ў Народны Камісарыят Юстыцыі не пазьней 20 сакавіка 1928 г. у агульнай лічбе па ўсёй акрузе па далучаемай пры гэтым форме.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР *Сташэўскі.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Гохман.*

24 лютага 1928 г.
№ 42-33.

---

# ЗЬВЕСТКІ

аб датэрміновым вызваленьні жанчын-работніц і працоўных сялянак да Міжнароднага дню 8-га сакавіка 1928 г.

.................................................. акругі.

| Усяго жанчын аслабанена | | Асноўны прысуд аб пазбаўленьні волі | | | | | | Асноўныя прысуды аб прымусовай працы мелі | | | | | | Былі асноўн. пастан. прым. работ у адміністрат. парадку | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 1-го году | | Ад 1 г. да 3 г. | | Звыш 3 гадоў | | Да 1 месяц. | | Ад 1 м. да 3 мес. | | Звыш 3 мес. | | Да 1 мес. | | Ад 1 м. да 3 м. | |
| Жанчын-работн. | Жанчын-прац. сялянак | Жанчын-работніц | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц | Жанчын прац. сял. | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц | Жанчын-прац. сял. | Жанчын-работніц |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | |

„.........“ *сакавіка 1928 г.*

*Пракурор* .................................................. *акругі*

УВАГА: 1) Лічбы рубрыкі 1 павінны раўняцца суме рубрыкаў 3, 5, 7, 9 11, 13, 15 і 17.

УВАГА: 2) Лічбы рубрыкі 2 павінны раўняцца суме рубрыкаў 4, 6, 8, 10, 12, 14, 16 і 18.

## Памылкі друку:

У гэтым нумары, на стар 33, у загалоўку Праца раённых зямельных камісій—трэба чытаць ня ў 1928 г., а 1927 г.;

У № 1—2, інструкцыя НКЮ, НКУС і НКЗ, пункт 4—трэба чытаць ня ў 1926-27 г., а ў 1927-28 г.